ББК 84 (4Бел)6
4-21
УДК 882.6-93

Мастак С. А. Волкаў

*Для малодшага школьнага ўзросту*

В этой книге читатели встретятся с веселыми и серьезными, удачливыми и неудачливыми мальчиками и девочками — героями юмористических стихов; постигнут радость красоты, которую дарят нам встречи с родной природой, побывают в удивительном мире сказок. В издание вошли произведения из книг М. Чернявского, отмеченных премиями на республиканских конкурсах.

8820600000—051
Ч-------------------------------- 62—94
М 307(03)—94

ISBN 5-7880-0724-0

* * *

Не здзіўляйцеся тымчасова,
Што мне выбар такі па нутру:
Не «сур'ёзнай» —
Дзіцячаю мовай
Разважаю,
Пішу,
Гавару.

Я не буду трымаць у сакрэце
Гэты выбар і гэты намер:
Хто чысцейшы душою на свеце?
Хто — усмешка?
Хто — шчырасць, давер?

Хто, нібыта да сонейка колас,
Прагна цягнецца да людзей?
Чый праўдзівы, з картавінкай голас
Пранікнёней,
Пяшчотней,
Званчэй?

Гэты голас хвілінай цяжкою
Можа ў сэрцы пажар пагасіць.
Ен, даверлівы,
Нам з табою
Ні на кроплю не дасць схлусіць!

Не здзіўляйцеся тымчасова,
Што для іх,
Для дзяцей,
Пішу:
Я званочак іх роднага слова
Птушаняткам —
Ля сэрца нашу.

Іх гамонка —
Крынічкай віруе,
Не астудзіць пачуццяў імжа.
З імі моваю іх гавару я,—
І дабрэе,
Чысцее душа.



## ЦЫМБАЛЫ

Нібы жывы,
Гамоніць вулей.
За пчолкай пчолка —
Наўздагон...
А дзядуля,
А дзядуля —
Лёг і слухае
Іх звон.

Ен ляжыць на ўзмежку ў садзе,
Пчолкі ж —
Нібы ў згодзе з ім:
Ні палохаць,
Ні кусацца
Не збіраюцца зусім.

Пчолы ўсе забылі быццам,
Што ў іх зброя —

Джалы — ёсць.
Іх дзядуля не баіцца,
Бо для пчол ён —
Свой, не госць.

На губах блукае ўсмешка —
Гэты грай
Старому люб...
Над сцяжынкай,
Над узмежкам
Мільгануў унукаў чуб.

— Што ты, дзедка, там чаруеш? —
Кажа ўнук,
Здзіўлены ўшчэнт.
— Ці ж не бачыш,
Ці ж не чуеш? —
Пчолак слухаю канцэрт.
Ох, і ўдала,
Ох, і ўдала
Могуць пчолкі ўсе іграць!
А цымбалы,
А цымбалы —
Іх званчэй
Не падабраць!

Ты паслухай, падзівіся.
Ды не бойся,
Стань бліжэй...
Раптам хлопчык
Аж узвіўся:
— Ой! —
І з саду ў двор хутчэй!

Засмяяўся дзед,
З дакорам
Наўздагон гукнуў:

— Ты што?
Уцякаць ад пчолак сорам,
І ўцякаць ад іх
Нашто?

Пчолкі ж гналіся, унучак,
Каб табе цымбалы даць,
Каб і ты
На іх, пявучых,
Як яны ўсе,
Мог пайграць!

**ПАДРОС**

А вы чулі?
А вы чулі? —
Едзе Саша
Да бабулі.

Едзе ў госці
Ўнук-пястун,
Верхалаз
І шчабятун.

З ім,
Сапраўдным непаседам,
Бабцы будзе
Весялей,
Бо за хлопчыкам —
З абедам
Бегаць будзе
Па сяле.
Будзе з ім
Засады ладзіць,
«Стой!» крычаць

З-за хат
І дрэў,
Будзе поўзаць з ім
І лазіць,—
Абы ўнук
Хоць трошкі з'еў.

...А вы чулі?
А вы чулі? —
Госць прыехаў
Да бабулі.

Бабка ж,
Як і ў тыя леты,
Каб унуку
Дагадзіць,
Цягне з куфра
Пісталеты.
«Шабля дзе?» —
Ў куток глядзіць.

Але ўнук
Адводзіць вочы,
Як забыў,
Што зброя ёсць.

— Я, бабулька,
Есці хочу,—
Не стрываў,
Прызнаўся госць.

Сеў унук
На чыстым ганку,
З'еў пірог,
А з ім смятанку.

Бабка
Моўчкі пазірае.

Ён жа:
— Будзем пачынаць...
— Што? — здзівілася старая.

— Навучу цябе
Чытаць...

Не стрымала бабка
Слёз:
— Як ты, мой унук,
Падрос!

## ДЗЕ ПЯЦЁРКІ ПРАДАЮЦЦА?

Раз суседскую дзяўчынку
Я сустрэў на школьным рынку,
З мамай, хмурая, стаяла,
Коскі тузала, маўчала.

Мама ж, стомленая досыць,
Ёй выказвала ў журбе:
— Дзе цябе, дачушка, носіць?!
Зачакалася цябе.
Форму, глянь,
Ужо купіла.
На мяне ж ты —
Як забыла...

І азвалася дзяўчынка,
Банты — пырх! —
Як матылькі.
— Я хадзіла, мам,
Па рынку,
Абышла я ўсе ляткі...
Што за рынак?
Дзе іх дзелі?

Дзе ў чаргу
За імі стаць?
Есць і кніжкі,
І партфелі,
А пяцёрак
Не відаць.



## ДУША Ў ПАЛОСКУ

Пусціў Ясь пагалоску,
Б'е ў грудзі кулаком:
— Мая душа ў палоску,
Я стану мараком!

На ім заўжды цяльняшка,
Далоні ў дзве — рамень.
Начышчаная спражка —
Аж б'е з яе прамень.

Хлапчук марскія словы
Паспеў крыху спазнаць:

Пайсці —
Аддаць швартовы,
Прыйсці —
На якар стаць.

Сталоўка ў Яся —
Камбуз,
Заве каютай
Клас.
Ледзь што:
— Палундра! Амба!
Не компас,
А кампас.

Ен да званка на ўроку
Ніколі не ўсядзіць:
— Абед гатовы ў кока,
Пара ўжо склянкі біць!

Бяжыць абедаць потым
Аж калідор гудзе...
Вучоба ж
Ціхім ходам
У «марака» ідзе.

Як выклічуць —
Адразу
Ягоны спрыт відзён,
Бо плаваць
Пры адказах
Прывык
На ўроках ён.

## ЛЫНДЫ-ШЛЫНДЫ

Ёсць, я чуў, на карце свету
Лынды-шлынды —

Край такі.
Хто жыве ў старонцы гэтай?
Ды, напэўна, дзівакі.

Ні парадку,
Ні прымусу
Тут нідзе няма зусім.
Не знайсці куточка, мусіць,
Дзе б вось так жылося ўсім.

Лынды хочаш біць —
Дык бі.
Не старайся,
Не рабі
Нічагуткі
Дзень цалюткі!
Спаць захочаш —
Спі хоць суткі!

Хочаш —
З вудай пасядзі,
Па грыбы
У лясок схадзі.
Прагуляўшыся ў кіно,
З'еш
Пламбір ці эскімо.

Вось і ўсе, лічы,
Турботы.
Дый на іх няма
Ахвоты...

Не ў пашане тут
Гадзіннікі,
Не ў пашане тут
Будзільнікі.
Ні ў вячэрні час,
Ні ў ранні.

А вучоба —
Па жаданню.

Захацеў —
Схадзі на ўрокі,
Хоць на трэці,
Хоць на пяты.
Не схацеў —
Лічы сарокі
Ці футбол ганяй ля хаты.
І чытаць, пісаць —
Ніколі
Не даюць на дом
У школе.

Хто быў рупны,
Не халатны,
Хто быў з працай заадно,
Хто хацеў вучыцца здатна,—
Той адсюль
Уцёк даўно!

Есць, я чуў, на карце свету
Лынды-шлынды —
Край такі.
Хто жыве ў старонцы гэтай?
Гультаі ды лайдакі.

Тым,
Хто б дзень,
Хто хоць бы трохі
Там пажыць хацеў,—
Скажу:
Вам, сябры,
Туды дарогі
Нізашто не пакажу!

**МІКА І МЫКА**

Як ні глядзі,
Як ні кажы,
Яны былі —
Суседзі:
У новым доме
Міка жыў,
А Мыка —
Побач недзе.

Відаць, ніхто з іх
Не жадаў
Адзін з адным
Спаткацца.
Ды раптам
У вучобе стаў
Наш Міка...
Спатыкацца.

Урокі
Блытана зусім
Ён стаў
Часцей адказваць.
Пачаў дражніцца
Мыка з ім —
Здалёк
Язык паказваць.

Аднойчы Міка
Ледзь не млеў —
На ўрокі ўшчэнт забыўся!
А Мыка
Раптам пасмялеў —
У клас
Ужо з'явіўся!

Ці ж мог адказваць
Міка ўрок?
Ля дошкі ён —
Пакутваў,
Бо гэты Мыка,
Як знарок,
Язык,
Здаецца, спутаў!

Няўдачнік мыкаў,
Як праз сон,
Няўцямна
Хмурыў бровы...

Вось так сустрэўся
З Мыкай ён —
На ўроку
Роднай мовы...

Я не збіраўся
З Мікі кпіць,
Трывога ж ёсць такая
Казалі,
Мыка той не спіць —
Сяброў
Паўсюль шукае.

А пасябруеш
З ім, глядзі,—
Не хмурся
І не войкай,
Бо ходзіць Мыка
Не адзін,
Часцей —
З пранырай-двойкай!

## ДЗЯДУЛЯ

Хлапчук
Сядзенне захапіў,
Бы не сядзеў
Ніколі.
— Старому б месца саступіў,
Хіба стаміўся ў школе? —
Яго
Саромілі сябры.
Але ў адказ
Пачулі:
— Хе-хе...
Які ж гэта стары?!
Ды гэта ж —
Мой дзядуля.



## ДАПАМОГ...

Збор гарачы,
Шумны быў,
Распякалі Воўку.

— Гэта ж трэба —
адхапіў
Зноў па мове
Двойку!

— Не даецца мова штось,—
Воўка адбіваўся.
— Не даецца?..
На «авось»
Зноў паспадзяваўся! —
Кіпяціўся Санька Чыж,
Старшыня атрадны.—
Трэба Воўку памагчы,
Хутка,
Неадкладна!

— Хто ж паможа?
— Федзя, хто ж:
Як-ніяк — суседзі...
Згодзен,
Федзя?
— Згодзен, што ж...—
Ухмыльнуўся Федзя.

Без прынук,
Без лішніх слоў
Дзесь пасля абеду
Воўка з кніжкамі зайшоў
Да свайго суседа.

— Не магу
цяпер, браток,—
Стаў сябрук прасіцца.—
Трэніроўка,
На каток
Я магу
Спазніцца...

Ён вярнуўся ў сем гадзін.
Воўка —
Следам тут жа:
— Памажы мне,
Сказ адзін
Трапіў цяжкі дужа.

— Я стаміўся,
Не магу!..
Што як цень той ходзіш?
Я табе дапамагу,
Як да дошкі пойдзеш...

## «ДАЙ» І «НА»

Есць многа слоў,
А Ясь-гультай
Найбольш любіў
Адно з іх: «Дай!»

Дай паснедаць,
Дай паспаць,
Дай падгледзець,
Дай спісаць!
Дай нагледзецца ў акно,
Дай мне грошы
На кіно!
Дай сцізорык,
Семак дай,
Дай цукерку...
Дай ды дай!

І раптам што за навіна? —
Ен палюбіў і слова «на!».
На! —

Паперку ад цукеркі.
На! —
Нямытыя талеркі.
На! —
Кампоту мне налі.
На! —
Дзяўчынкам кухталі.
На! —
Шпурне з ухмылкай кнігу.
На! —
Хіхікае паціху
І суседу-хлапчуку
Сыпле смецце
У руку...

Любіць словы Ясь-гультай.
А якія?
«На» і «дай».
Толькі гэтым
«Дай» і «на»
У яго
цана адна!

## ЗБІЎСЯ З АЗІМУТА

— Скажы, прызнайся нам, Алег,
Чаму на ўрок спазніўся?
— Па компасе
Я ў школу бег,
Ды — з азімута
Збіўся.

## НАСТРОЙ

Крыкнуў Жэня мне:
— Пастой! —
Сапсаваў ён мне настрой
Думаў я ўцячы
З урока,
Ды адбегся
Недалёка.

Яшчэ горшы
Стаў настрой,
Як на ўроку
Ў дзённік мой
Закаціў настаўнік
Двойку…
Хочаш, хмурся,
Хочаш, войкай…

І зусім
Прапаў настрой,
Як дадому
Ранец свой
Прыцягнуў я
Адвячоркам…

Зноў была
За ўсё праборка:
Што да цёмначы
Гуляю,
Дома
Рэдка памагаю,
Што да кніжак,
Да навукі
Не даходзяць
Часта рукі…

І тады —
Чаму, не знаю —
Я злавацца
Пачынаю:
І на тых,
Хто аклікае,
І на тых,
Хто выклікае,
І на тых,
Хто прабірае,
Сшыткі,
Дзённік правярае...

Ой, не ведаюць парой,
Што калечаць
Мне настрой!

**СПАЛОХ**

Што з Юрасём?
Замёрз, бядак?
Сапе,
Ні слова маме.
— Сынок,
Ты ж, мусіць,
Не вятрак?
Пакінь
Махаць рукамі.

Ты ж стаў,
Як той бурак,
Зірні...
З чаго б
Такія мукі?
— Каб не казала,

Што ўсе дні
Сяджу я
Склаўшы рукі.



## НЯЎМЕЧКА

У няўмечкі не баляць
ні ручкі, ні плечкі.

*З народнага*

Можа, бачылі
Няўмечак?
Лёгка ўсюды
Іх пазнаць…
І Кастусь якраз такі быў,
Не хацеў
Ні ўмець,
Ні знаць…

— Мо дамашнюю задачу
Ты б рашыў цяпер, сынок?

Сын у слёзы:
— Я не ўмею! —
І шпурляе сшыткі ўбок.

— Трэба ўмець, мой галубочак,
Я цукеркай заплачу,—
Просіць зноў яго матуля.
— Я не ўмею, не хачу!

— Я спяшаюся на працу,
Мне ўжо часу не стае,
І пасуду не памыла,
Дык памый, сынок, яе.

— Мне памыць?
Ды я не ўмею!
Трэба, мусіць, пачакаць.
Тата прыйдзе,
Тата зробіць,
Мне б хоць трошкі пагуляць.

І расце Кастусь
Няўмекай.
А прычына тут адна,
Бо няўмельства
І лянота —
Вельмі блізкая радня.

## УРОК ВЕТЛІВАСЦІ

Дзяўчынак хлопцы
Не чапаюць,
За косы нават
Не скубнуць.
Папросяць кніжку —

І чакаюць,
Пакуль ім кніжку
Пададуць.

Як імянінніцы,
Дзяўчынкі,
Ажно цвітуць:
Прыемна ім —
Наш класны староста
Навінку
Прыдумаў простую зусім:
Быць паслухмянымі,
Дзяўчынак
Не крыўдзіць болей
Анідзе!
Ці будзе ўрок,
Ці перапынак,—
Трымацца ветліва
Ўвесь дзень!

Куды падзеўся
Вечкаў ляскат?
Дзе лішні ўзбуджаны шумок?
На ўроку:
— Дзякуй!..
— Калі ласка!..
На ўроку —
Ветлівасці ўрок.

А на бліжэйшым перапынку
Да Генкі —
Згодзіцца ці не? —
Як змоўшчыца,
Падсела Зінка:
— Памый анучку
За мяне...

Ды адмахнуўся
Злосна Генка:
— Сама памыеш,
Не паненка!

І Зінка,
Глянуўшы звысоку,
Спытала ўсё ж:
— Забыў няўжо?
Ты што казаў
На тым уроку?..
— А ўрок... Урок
мінуў ужо...

## МАЛЮЕ СЕНЯ...

Малюе Сеня,
Як мастак.
Малюнкам
Цесна на лістах.

— Сынок, не хочаш памагчы?
Прынёс бы мне
Вады вядзерца...
А сын сядзіць,
А сын маўчыць,
У рот вады
Набраў, здаецца.

— Чакаю, сын...
І Сеня ўстаў,
Сабраў няхітры
Свой рыштунак.
— Прынёс я ўжо...—
І ён падаў

Вядро з вадой —
Малюнак.

Лісток
Матуля узяла,
Нібы не скеміла ўсё роўна,
Па ім
Далонню правяла:
— А што?
Намаляваў цудоўна!
Вазьмі малюнак.
Пакладзі.
А па ваду
Усё ж схадзі!



## «ЧЭМПІЁН»

Пачаліся халады,
Сыпаць снег узяўся.
Янка ў лыжнікі тады
Першы запісаўся.

Ен хваліўся,
Чубам трос,
Нарабіў ён звону:
— Як наладзяць лыжны крос,—
Буду чэмпіёнам!

Ледзь не цэлую зіму
Янка прагнуў кросу.
Але ў секцыю чаму
Не паказваў носу?

— Трэніроўкі тыя ўсе —
Лішні клопат, бачу:
Я ж памалу,
Пакрысе
Сілы ўсе растрачу.

Бегаць мне —
Не ўпершыню!
Я не шыты лыкам!..

Ды аднойчы
На лыжню
Вучняў
Крос паклікаў.

Чуўся гоман,
Чуўся смех.
Янка ўперад рваўся.
Але з кожным метрам снег
Жарсцвяком здаваўся.

Лоб угрэўся,
Запалаў,
Нібы ў мыле
Шыя!
Вочы
Аж туман заслаў,

Ногі
Як чужыя!

Янка соп, нібы трубіў…
Фініш —
Бліжай, бліжай…
Ён дайшоў,
Але згубіў
Па дарозе… лыжы.

## НЕПАСЛУХМЯНЫ ЯЗЫК

Што ў Святланкі за язык?
Балбатаць
Штодня прывык.
Памаўчаў бы
Хоць хвілінку,
Ды яму
Няма спачынку:
Ці то ўрок,
Ці перапынак,—
Менціць шпарка,
Без запінак!
Праўда,
Ён цішэе трошкі,
Калі Света —
Каля дошкі:
Ўрокі знаючы
З нацяжкай,—
Гаварыць даволі цяжка.
Ды пасля званка затое
Зноў яму
Няма спакою.
Сорам Свеце
Перад дзецьмі.

— А куды яго
Падзець мне? —
Кажа з крыўдай
Балбатуха.—
Ен мяне
Не хоча слухаць...
Языку
Знайсці б работу —
Павастрыць
Касу ў ахвоту.
Не мянташкай,
Не бруском,
А — увішным языком.
А куды ж
Падзець язык,
Калі ён
Мянціць прывык?

## ВЫКРУЦІЎСЯ

— Сыночак, выкруць лямпачку,
Перагарэла ранкам.
— Адну хвілінку, мамачка,—
Гукнуў з парога Янка.

Матуля, не чакаючы,
У спальню крэсла ўнесла,
А сын, не разважаючы,
У ботах —
Скок на крэсла!

— Падклаў газетку б, Яначка,
Зрабіць няцяжка гэта!..
— І так дастану, мамачка,
Навошта мне газета?

## рэкламныя штаны

Што ў Яўгена за штаны?
Глянь —
Заклёпачкі адны.
Дзе няма заклёпак гэтых,—
Стракацяць
Кінасюжэты.

...На адной кішэньцы воўк,
З піпкі —
Кольцамі дымок.
На другой —
Смяшлівы зай...
Ясна ўсім: «Ну, пачакай!..»

І яшчэ
На дзвюх кішэнях
Сам прышыў
Малюнкі Жэня:
Слон
Размахвае ракеткай,
Леў сядзіць —
Грывасты гэткі!

Кракадзіл вядомы —
Гена —
Жэню ўздзёрся
На калена.
За другое ж —
От спрытняжка! —
Учапіўся
Чабурашка...

Што ў Яўгена за штаны?
Глянь —
Сюжэцікі адны.

У заклёпках
Медных,
Зыркіх…

Не штаны —
Рэклама цырка!



## ВЯСЁЛЫ ШТУКАР

Жыў у вёсцы Смехачы
Хлопец-зух,
Сцяпанкам звалі.
Пчол —
Ён мёд збіраць вучыў,
А яршоў —
Ныраць у хвалі.
Вырабляў
Дзівос нямала.
Штукара
Ўся вёска знала,

Насміхалася,
Бывала:
— Ой, ты Сцёпа-недацёпа!
Чым яшчэ
Пацешыш, Сцёпа?

Джгае з пасекі наўскач,
Твар апух:
Дзе нос?
Дзе вочы?
Мама ўбачыць —
Мама ў плач!
А сынок, дзівак, рагоча:
— Ой, народ свавольны — пчолы,
Іх вучу,
Яны мне — ўколы!

З вудай часам прасядзіць
Дзень цалюткі
На Альтанцы.
У сяброў —
Хоць што ў бляшанцы,
А ў ягонай —
Дно блішчыць!
— Хай плюскоча, хай нырае
Рыбка,
Яж — пазагараю...

Смешна хлопцам-рыбакам.
Гаманкі гурток збярэцца,
Кпяць з няўдакі-дружбака.
Смешна ім —
І ён смяецца.
І не ў крыўдзе,
Не злаваўся:
— Рак са мной
Кляшнёй вітаўся...

Ды аднойчы да ракі
Не прыбег штукар вясёлы:
З'ехаў Сцёпа
Да радні
Аж да восені,
Да школы.
І дзятва
Засумавала:
— Нецікава раптам стала!
Каля рэчкі, на дварах
Не чуваць
Размоў-пацешак.
Пацішэла ў Смехачах,
Ані смеху, ані ўсмешак...

## РЫБАК

Вудзільна
Антэнай чуйнай
Углядаецца ў раку.
Хоць пустой бляшанцы
Сумна,
Ды не сумна
Рыбаку.

Дзень пагодны
Не кароткі,
Дацямна
Чакаць гатоў.
Трапіць ёрш
Ці трапіць плотка —
Рыбаку
І гэта ўлоў.
А спытаюць каля хаты

Пра ўлоў
У бедака,
Ён стрывае
Кпіны, жарты —
Ёсць цярпенне ў рыбака!

## ЛЮЛЮБАЙ

Я звыкся даўно ўжо з такой навіною:
Жыве Люлюбай у мяне за сцяною.
Жыве Люлюбай у суседняй кватэры,
І чую праз сценку,
І чую праз дзверы
Я раніцай кожнай адно ўсё і тое:
— Устань, Люлюбайка, дзіця залатое!

Спачатку да хлопца падходзіць матуля.
А потым — бабуля.
А потым — дзядуля.
А потым — татуля.
А потым — сястра:
— Устань жа, прачніся, у школу пара!

І чую —
Бурчыць Люлюбай у адказ:
— Я сніў, што я сплю...
Разбудзілі не ў час!..
Пайшоў ён з дзятвой на рыбалку аднойчы,
На сонейка глянуў,
Прыжмурыўшы вочы,
Улёгся,
Заціснуўшы вуду ў руцэ.
А рыбка плюскоча,
Гуляе ў рацэ.

Гарэза Ялец падміргнуў Сазану:
— Ці ўчуе, як лёску вазьму тузану?
Сазан ухмыльнуўся:
— Не руш, не чапай,
Бо спудзіш хлапца яшчэ,—
Спіць Люлюбай...

У лагер матуля адправіла сына:
— Ен там пасур'ёзнее,
Там — дысцыпліна.

У лагер прыехаў, агледзеўся ён:
— Тут будзе цудоўны спачынак і сон,—
Палаткі, сасоннік,
Бярозавы гай...
Заснуў да вячэры яшчэ Люлюбай.

Пабудку гарністы прайгралі даўно.
Усе на паверцы.
Яго ж — не відно.
Пакуль Люлюбая
Змаглі разбудзіць,—
Паспелі ў паход піянеры сходзіць...

Я звыкся даўно ўжо з такой навіною:
Жыве Люлюбай у мяне за сцяною.
Хлапчыне цудоўна жывецца, я знаю.
Чаму ж не зайздросціць ніхто Люлюбаю?

## ГОЦ ДЫ ГОЦ...

Разгуляўся Федзя Клец:
Тут ён — гоц!
І там ён — гоц!
Тут ён — шайба,
Там ён — гол...

Федзя Клец —
Хакей,
Футбол.

Налаўчыўся Федзя Клец:
Тут ён — гоц!
І там ён — гоц!
Сёння ён —
Баскетбаліст,
Заўтра ён —
Валейбаліст,
А праз дзень яшчэ —
Красмен...
Словам, Федзя Клец —
Спартсмен.

Спахапіўся Федзя Клец:
Гоц — туды,
Сюды ён — гоц!
Тут ён — круць,
А там ён — верць,—
Хоць бы троечку
За чвэрць!
Стогне хлопец:
— Ох ды ох!
Хто б у класе
Дапамог?
Разгубіўся Федзя Клец:
Ані скок ужо,
Ні гоц...
Ен за клас увесь стараўся,—
Ці няшмат для аднаго? —
Ен у класе
Не стыкаўся —
Клас
Забыўся пра яго.

Ходзіць сумны
Федзя Клец.
Не адзін —
З мянушкай «Гоц».



## ТОЛЬКІ Ў СНЕ

Міхасю прысніўся сон:
На каньках
На рэчцы ён.
А канькі звіняць, бы пішуць.
Нават вецер
Бег прыцішыў.

Дружбакі гурбой стаяць,
Ім здзіўлення не стрымаць:
— Як віхор
Міхась імчыцца!
Нам бы гэтак навучыцца!..

Ен прачнуўся:
— Нешта мне
Ўсе зайздросцяць
Толькі ў сне...

## У ПАХОД ЗБІРАЎСЯ ЯНКА

У паход
Збіраўся Янка,
Ды забегаўся, бядак:
Не паспеў з-за пагулянкі
Ен як след
Сабраць рукзак.

«Заўтра раненька ўсхаплюся,
Пакуль збор —
Усё зраблю:
І ўкладуся,
І збяруся —
Лішняй спешкі
Не люблю...»

Янка спаць
Бы сноп зваліўся.
Сон яго
Павёў, павёў...
Пра будзільнік жа —
Забыўся:
Не наставіў,
Не завёў —
І на ранку, і на ранку
Збор праспаў
«Увішны» Янка.

«Эх, паспець на электрычку б!..»
Ен, памыўшыся сяк-так,

Са стала схапіў,
З палічкі,
Запіхнуў сабе ў рукзак:
Пяць катлет,
Брусок вяндліны,
Яйкі,
Масла,
Хлеб,
Сырок.
Зверху ўсыпаў «вітаміны» —
Памідоры,
Сліў збанок.

Даў кату-пранырy пстрычку —
І пабег,
патупацеў!
На вакзале ў электрычку
Ледзь, задыханы, паспеў!

І было б усё як трэба,
Ды рукзак у гэты міг,
Быццам свежы бохан хлеба,
Пераціснула дзвярмі!

І яго з дзвярэй гурбою
Давялося вызваляць…
Што зрабілася з ядою,—
Здагадаліся, відаць.

Ліпкім стаў брусок вяндліны,
Толькі крошкі ад катлет.
Паглядзеў на «вітаміны» —
Ці павідла,
Ці амлет?..

А сябрук найлепшы — Арцік —
Падкалоў, падкінуў жарцік:

— Каўбаса даўно абрыдла,
Можа б, трохі даў павідла?
— Што прыліп, прыстаў як кашаль?!
Янка тузаўся, злаваў.
Мужна еў сваю ён «кашу»,
Мужна кепікі трываў.

Быў не рады
Песням, небу —
Моўчкі з намі
Брыў, бядак...

Можа, з вас
Яшчэ хто-небудзь
У паход
Збіраўся так?

## РЫГОРКА І МАМА

Рыгорка
З вуліцы ўляцеў,
Нібыта леў за хлопцам гнаўся.
І ранец скінуць не паспеў —
За стол
Хутчэй падаўся.

— А рукі?
Ты пра іх забыў? —
Бабуля пальцам паківала.
— Я рукі ўжо сягоння мыў,
Калі ты ў школу выпраўляла.

Бабуля
Моўчкі адышла,

Ды тут не вытрымала мама:
— Вылазь, Рыгорка,
З-за стала,—
Ты ж сёння еў
Таксама.

## ШТО ТАКОЕ УР?

Слухай,
Хітра воч не жмур.
Чуў ты,
Што такое УР?

Можа, думаеш,
Гадзіннік,
Што на вежы гарадской?
Можа, думаеш,
Будзільнік,
Што ў сябрах са мной, з табой?

УР зімою —
Гэта санкі,
З горкі
Шумныя каўзанкі,
Пад гарачую руку —
Нават шайба на катку!

Пацяплее —
Зноў турботы:
УР —
Футбольныя вароты.
Ці інакш —
Штанга, стойка...

Як гульня, праходзіць
Бойка,—

І яму перападае,
Нібы мяч той,
Падлятае!

УР —
Буфет,
Бо ў ім заўсёды
Есць пячэнне,
Бутэрброды.

УР —
Майстэрня, цэлы склад
Ручак зломаных,
Прылад.

А яшчэ мой УР адданы —
Кніганоша апантаны.
Ды, я мушу вам прызнацца,
Кніжкі з ім
Хадзіць баяцца.

Нават радасным алоўкам
З ім і сумна і нялоўка...

Што ж такое УР?
Гадзіннік,
Што на вежы гарадской?
Што ж такое УР?
Будзільнік,
Што ў сябрах са мной, з табой?

Не,
Не ўцямілі сакрэта,
Што у назве ёсць самой!..
Што ж такое УР?
Ды гэта —
Універсальны ранец мой!

## ХЛОПЧЫК НУ...

Не ў сівую даўніну,
Дзесь не за гарамі
Жыў паблізу хлопчык Ну,
Не адзін, з сябрамі.

Хто ж яму мянушку даў?
Сам,
Бо кожным разам,
Што ў яго б ні запытаў,—
Буркне-нукне басам:
— Ну!

— Пагуляем у вайну? —
Запытаюць хлопца.
Ен кіўне няпэўна:
— Ну...
Болей — ані слоўца.

Хмыкнуць здзіўлена сябры:
— Можа, ў крыўдзе нечага?
Што ж,
Адзін сядзі ў двары
З раніцы да вечара!

— Чулі, чулі навіну?
Цырк прыехаў сёння!
Буркнуў Ну прывычна:
— Ну...—
І звёў вочы сонна.

Зноў падумалі сябры:
«Можа, ў крыўдзе нечага?
Што ж,
Адзін сядзі ў двары
З раніцы да вечара».

Маме ранкам не да сну,
Крана
Чуцен клёкат.
— Сын, ты снедаць будзеш?
— Ну...
Да стала ж — ні кроку.

Мама здзівіцца: — Ай-яй!
Можа, ў крыўдзе нечага?
Што ж,
Галодны пагуляй
З раніцы да вечара!

Так прайшло нямала дзён,
Зразумеў, бядача:
Дзе б,
Калі б
Ні нукнуў ён —
Радасці не бачыў.

І надумаў цвёрда Ну:
«Можа, лепей будзе?
Гэта Ну я прэч турну!
Дам адбой
Прыблудзе!»

Выйграў хлопчык
З Ну вайну:
— Мне ўжо
не нашкодзіш!..

З кім,
Занудлівае Ну,
Дружбу цяпер водзіш?



## БОРКА І ЎБОРКА

Шуснуў кот
З акна ў каморку —
Пачынае Борка ўборку!

Ш-шах-мах!
Мах-ш-шах! —
Пазляталі сшыткі з шаф.
Як віхор
Прабег па хаце —
Пыл на носе,
У вушах!

Дывановыя дарожкі
З-пад мятлы —
Хутчэй пад ложкі!
А дзядулеў чаравік
Кумільгнуўся
І — на цвік!

Дзед аж крыку нарабіў:
— Ты нашто
Трумо разбіў?
Толькі тут прыкмеціў Борка:
Ўсё трумо —
Ў шрамах-разорках.

Тата
З мамаю і дзедам
Без размоў,
Без лішніх слоў
Ноч усю
За Боркам следам
Прыбіралі ў хаце зноў.

Разбірала крыўда Борку:
— Не вазьмуся больш за ўборку!

## САЧЫНЕННЕ

Ціха-ціхенька ў кватэры.
Вася зіркае на дзверы,
Бо зусім няма натхнення
Брацца
за са-чы-нен-не!

Тэма вольная ў яго,
Але што з таго?

На канапу Вася клаўся,
Уставаў.
За ручку браўся.
Уздыхнуўшы,
Вывеў потым:
«Я люблю займацца спортам».

А яшчэ ўздыхнуўшы раз,
Вывеў хлопчык
Першы сказ:
«Я хадзіў на фІхтаванне.
Я хадзіў на вІславанне.
Ды нІдоўга вІславаў —
Раптам трэнІр зазлаваў.
Як убачыў дзённік мой,
На мІне махнуў рукой.

Быў я ў секцыі дзІдо,
Ды і там сказалі: «До!»

І ў спорткомплІксІ «ДЗІнама»
Два разы пабыў таксама:
Пачынаў там трЫніроўкі —
Бег бар’ерны,
СтамІтроўкі…

Дома я цІпер сяджу,
Бо нікуды нІ хаджу,
Ды ў мІне харакцІр цвёрды —
Будуць поспІхі, рЫкорды!..»

Калі ж гэта сачыненне,
Ды з настроем,
Ды з натхненнем,
Вучням Вася прачытаў,
Клас увесь —
Зарагатаў:
Кожны ведаў добра ў класе —
Рэкардсмен
Па двойках Вася!

І свае ўсе «дасягненні»
Паказаў у сачыненні.

## НЕ БАЛІЦЬ НІКОЛЕЧКІ!..

— Што з табою, Лёлечка?
— На далоньцы болечка!

— Апякла мо сподачкам?
— Мама, не.
— Мо ўкалола голачкай?
— Мама, не.

— Ножычкам парэзала?
— Мама, не.
— З кошкаю гарэзіла?
— Мама, не.

Памагала татку
На гародзе я.
З ім капала градку
Да абеду я...

— Вельмі завіхалася! —
Мама заўсміхалася.—
Пухірок, дачушачка,
Ручцы — як падушачка.

— А чаму шчымлівая,
Як яе кранеш?
— Бо сама плаксівая,
Хныкай менш!

Слёз не стала ў Лёлечкі:
— Не баліць ніколечкі!..



## ФІЛЬМАСКОП КУПІЛІ МНЕ...

Фільмаскоп
Купілі мне.
Скача зайчык па сцяне —
Я кручу заўзята колца,
Бо цікава:
Што ж далей?
Я ў акне зашторыў сонца,
Без яго —
Экран святлей.

Я адзін сяджу ў пакоі,
Цемры я сягоння рад.
Эх, шкада:
Кіно нямое!
Эх, мне б
Кі-на-апа-рат!

…Я, здаецца,
Не сяджу,
Я, здаецца,
Сон гляджу:
Фільмаскоп
Купілі мне…
Скачуць коні па сцяне.
Вунь Чапай ляціць,
Як сокал,
Бурка —
Чорнае крыло!
Шабля ўскінута высока,
І — прапала ўсё,
Сплыло…

— Хопіць, кіншчык,— кажа
тата,—
Можа токам тузануць…

Я сумеўся вінавата —
І калі паспеў заснуць?

Колца я ізноў кручу,
Даглядзець кіно хачу.

…Ноч зашторыла акно,
Я ў каробку склаў кіно
І ў пасцель нырнуў без плачу.

Ды не спіцца штосьці мне:
Фільмаскопа вочка бачу,
Скачуць кадры па сцяне.

Фільмаскоп
Купілі мне.

## НЕПАСЕДА-ВЕРХАЛАЗ

На падворку у Алега
Гульняў розных многа,
А для хлопца —
Плот уцеха,
Не сагнаць малога.

Бабка з ім —
Не адыходзіць:
«Скінецца, бядача,
Стрэмку ў пальчыкі загоніць,
Будзе-будзе плачу!»

Хлопцу ж паскакаць ахвота
На жардзінцы тонкай.
Не ўтрымаўся ўнук
І — з плота,
Ціха войкнуў толькі.

Бабка спуджана:
— Авохці!..
Неслух мой дурненькі,
Паглядзі ж,
Як ты на плоце
Абадраў каленькі!..

Хоча ўнучака адвесці,
Папраўляе шорты.
— Дай на плот
Яшчэ залезці:
Рукі ж не абдзёрты.

## НЯМА НАСТРОЮ

Насупіўся
велясіпед,
Не бегае ля брамы.
І самазвал
За ім услед
Нахмурыўся таксама.

Застыў
На стрэлках паравоз,
Ні свісне,
Ні скранецца.
Няўжо знямог,
Няўжо замёрз
Ці гэта
Так здаецца?

А пасажыры —
Заяц, кот,
Вавёрка, лісяняты —
Ляжаць у траўцы,
Там, дзе плот:
Іх не вязуць дахаты.

Хто ж так пакрыўдзіў цацкі?
Ім
Няўтульна ў доме нашым...
Хіба не бачыце? —
Зусім
Няма настрою ў Сашы.

## НА КАГО СВАРЫЎСЯ ГРОМ?

На каго
Сварыўся гром?
Можа, на хмурынку,
Што схавала пад крылом
Сонца за хвілінку?

На каго
Сварыўся гром?
На свавольны вецер,
Што прамчаў-прабег віхром,
Наламаўшы веццяʼ?

На каго
Сварыўся гром,
Аж зямлю хістала?
На мяне,
Каб пад дажджом
З лялькай не гуляла?

На каго
Сварыўся гром?
Можа, на матулю,
Што мяне
Загнала ў дом,
Нібы пчолку ў вулей?..

На каго ж
Сварыўся гром?



## МОЖА, БАЧЫЛІ?..

— Можа, бачылі ці не,
Колькі цацак у мяне:
Разнастайных,
Адмысловых —
І старых,
І самых новых? —
Часта нам хваліўся Рома.
У маім куточку дома
Трактар ёсць,
Хакей настольны,
Мяч сапраўдны,
Мяч футбольны,
Есць чыгунка,
Лунаход —
Не злічыць усё
За год!

Нездарма казаў мне брат:
«Цацак тут —
На ўвесь дзетсад...»
Можа, бачылі?..
— Ды не!
Быццам сам не знаеш:
Цацкі ўсе
Ад нас і ў сне
Ты, відаць,
Хаваеш!

**АБНОЎКА**

Таня коску заплятала,
Таня маму ўсё пытала:
— Ты скажы, матулька, мне:
Сны вяртаюцца
Ці не?
Як захочаш вельмі моцна,
Яшчэ раз пабачыць можна?

Мама здзіўлена, няйначай:
Не пытанне,
А задача!
Потым скеміла, відаць,
Як задачку развязаць.

— А чаму ж?
Бывае гэтак,
І часцей за ўсё —
У дзетак.
Што ж, дачка, ты ўчора сніла?
— Мне сукенку ты купіла.
Як і ў Люды,
Гэткую —
Сіненькую, з кветкамі...

А прыбрацца ж
Не змагла я —
Тата ў садзік разбудзіў...
— Не сумуй,
Бяда малая:
Сон далёка не хадзіў.
Сон цябе
Даўно чакае
І сукеначку ў кветы
У руках ужо трымае,—
Каб не знік,
Не баўся ты...

Мама жмурыцца
Усцешна,
Разбірае ложак
Спешна.

Завіхаецца старанна,
А дачка гаворыць ёй:
— Не будзіце дужа рана
Пахаджу ў сукенцы той.

## ДЗЕ Ж СЫР?

Гэта ж трэба —
У Настусі
Сёння сыр
Укралі гусі!

Дзе ж яна сядзела?
І куды глядзела?

Як і ўсе разы,
На ганку
Села снедаць
Насця ўранку,

Есці ж не спяшалася,
З мамкай заспрачалася,
Калупала сыр знарок
І лічыла сарок.

Шыю выгнуўшы,
Як лук,
Вёў гусак
Гусей на луг.
Сыр убачыўшы здалёк,
Папрасіў шыпун сарок:
«Стракачыце, падлятайце,
З’есці сыр
Малой не дайце.
Покуль вас дзяўчынка злічыць
Мы паспеем сыр «пазычыць».

Самы смачны
Ў гэты ранак
Будзе ў нас
І ў вас сняданак.
А капрызка будзе ведаць,
Як упарціцца,
Не снедаць...»

Толькі недзе
Праз гадзінку
Падштурхнуў бы хто
Дзяўчынку:
Спахапілася малая —
Сподак чысценькі, пусты!
— Мама, дзе ж мой сыр?
— Не знаю,
У сарок спытайся ты...

Гагаталі дружна гусі:
«Правучылі ўсё ж Настусю!»

**КАПРЫЗУЛЯ**

Хныча, хныча
Капрызуля:
— Хто ж раздзене?
Хто ж разуе?

Нешта мамкі
Не відно.
Нешта таткі
Не чутно.
І бабуля,
Як заснула,—
Ля дзвярэй
Не спатыкнула...

Можа, ты,
Мой добры коцік,
Здымеш мне
Адзін хоць боцік?

Кот жа раптам
З-пад канапы
Працягнуў гарэзна
Лапу,
Драпнуў-шкрабнуў
За нагу:
«Я не ўмею,
Не магу...
Не капрызь,
Не хныч дарма,
Пастарайся ўжо
Сама...»

Ды ўсё хныча
Капрызуля:
— Хто раздзене?
Хто ж разуе?..



**ЯЗЫКОМ — УСЁ ЗРАБІЎ БЫ...**

Ля аб'явы той
                    спакойна
Ен не мог стаяць, трываць:
Прыз «За лепшую шпакоўню»
Хіба ж кепска атрымаць?

Заклікала ўсіх аб'ява:
«Гэй, майстры,
Гэй, дружбакі,
Хто умелы,
Хто рухавы,—
Дзякуй скажуць тым
Шпакі!..»

І сказаў сябрам Ігнатка:
— Я ў сталярні —

Не слабак:
Я зраблю такую хатку —
Ад здзіўлення
Свісне шпак!

Ды не хатку —
Дом шыкоўны
За паўдня
Змастачу я.
Скажа дзякуй
За шпакоўню —
Мне
Крылатая сям’я!
Як вядома вам,
Я зроду
Выхваляцца не люблю.
Заваюю ўзнагароду,
Прыз
Нікому не ўступлю!..

І дамоў прыбегшы,
Тут жа
Пад паветку ён нырнуў.
«Той, хто ўмее,
Той не тужыць...» —
Нават песню мармытнуў.

І зашоргала нажоўка,
І рубанак —
Шуг ды шуг!
Пілавіння,
Стружак жоўтых
Смольны дух
Паплыў наўкруг.

Заміргалі нават
зоркі,

Маладзік
З ляжанкі ўстаў,
Як раптоўна
Над падворкам
Малаток загрукатаў.

Чуўся стогн —
Цвікі Ігнатку
Быццам слалі
Свой праклён...
— Будзе, брат,
Усё ў парадку,—
Падміргнуў Трызору ён.—
Я хвасты
Усім падцісну:
Не шпакоўня будзе —
Ўзор!..

А зрабіў,
Зірнуў —
І свіснуў —
У шпакоўню ўлез...
Трызор!

Мусіць, з радасці,
Няйначай,
Вочы ззялі,
Як той жар:
«За жытло,
За рай сабачы —
Дзякуй,
Дзякуй,
Гаспадар!..»

Толькі зараз
Добра ўбачыў
Самаўпэўнены Ігнат,

Што зрабіў ён,
Што «змастачыў»:
Домік —
Будка акурат!

Хіба ж думаў —
Будуць «хібы»?!
Майстар наш
Не плача ледзь:
Языком —
Усё зрабіў бы,
А на справе —
Трэба ўмець!

## СОН ЦІ СОМ?

— Хто там ходзіць за акном?
— Ходзіць Сон — вусаты сом.

Казытне той сом каго —
Вочы мружацца ў таго.
Варухне вусамі зноў —
Прыйдуць казкі
Цёплых сноў.

Хто ж не хоча спаць padоўгу,
Скача з ложка на падлогу,
Гэты Сон —
Вусаты сом —
Цягне ў цёмны вір сілком.
Там —
Крычы ці не крычы —
Спаць кладзе ён на карчы.
Не паслухаешся сома —
Дасць ляшча-пляшча, вядома...

Гэта слухае Алёнка
І смяецца звонка-звонка:
Спаць не хочацца малой,
Вочы —
Хоць памаж смалой!

І сказаў дзядуля строгі:
— Падурэй яшчэ хоць трохі,
Клікну сома-вусача —
Дасць табе ён плескача...
У акно дзяўчынка зірк —
І настрой вясёлы знік!
«Сапраўды, вусаты хтось
Грукне ў шыбіну вось-вось!..»
Не да смеху ўжо малой —
Шусь пад коўдру з галавой!

Раніцой,
Ледзь сонца ўстала,
Дзень заняўся за акном,
Зноў дзяўчо зашчабятала:
— Хто хадзіў там?
Сон ці сом?

## СПРЭЧКА

Што за выдумшчык Сярожа
Мой сусед,
Таварыш мой!..
— Хто хутчэй стаміцца можа? —
Заспрачаўся ён са мной.—

А ці той,
Хто ляжыць,
А ці той,
Хто сядзіць?..

Спрэчка —
Тая ж трэніроўка
На цярпенне.
Так ці не?..
Я —
У крэсла ўсеўся лоўка,
Ён —
Залёг на тапчане.

Ен ляжыць,
А я сяджу,
У акно,
На двор гляджу...

Я даўно б
Схадзіў на рэчку,
Шчупака б
Прынёс дамоў,
Але як тады
Са спрэчкай?
Я ж прайграю
Без размоў!..
Змарнаваўся
Цэлы дзень
Воляю-няволяй.

Ен — ляжаў,
А я сядзеў:
Хто
Стаміўся
Болей?

**ДЗЕ ВЕДЫ НОСЯЦЬ?**

Звонкі,
Радасны,
Вясёлы
Праляцеў, як znічка, час:
Зноў збірацца трэба ў школу,
Зноў чакае
Родны клас.

Каб ішла вучоба гладка,
Каб нідзе не сеў на «мель»,
Трэба мне
Шмат кніг спачатку,
А для іх —
Яшчэ партфель.

Не звычайны —
Большы самы,
Каб зайздросцілі мне ўслед...
За руку узяўшы,
Мама
Прывяла ў «Дзіцячы свет».

Пахадзілі,
Паглядзелі
З залы ў залу,
З краю ў край:
Есць і ранцы,
І партфелі,
Што жадаеш —
Выбірай!

Мама кажа:
— Гэты зручненькі...
Хіба ж мне прыдатны ён?
Мне б такі,
Каб мог падручнікаў

Напіхаць,
Нібы ў вагон.

Мама ў крык!
Ды ўсё ж купіла,
І такі,
Як я хацеў...
З тым партфелем,
Як на крылах,
У кватэру
Я ўляцеў.

Склаў усе,
Сабе на ўцеху,
Кніжкі,
Сшыткі,
Алоўкі...
Глянуў брат —
З канапы з’ехаў:
Смех узяў яго такі!

Як партфель мне ўзняць, панесці? —
Да падлогі
Бы прырос.
Не скрануць партфель мой з месца,
Хоць прасі,
Каб хто паднёс.

Брат смяецца,
Брат жартуе:
— Мала кашы еў, браток?
З гэткай ношаю,
Гляджу я,
Не прыйсці б
На пяты ўрок!

Можа, з ім
Цягацца досыць?! —

Бачыш, рукі адарве!
Не ў партфелі
Веды носяць,
Носяць веды —
У галаве!



## ДЗЁННІК

У выдатніка,
У Боркі,
Калі дзённік пагартаць,
Тут і там —
Адны пяцёркі,
Троек —
   Блізка не відаць!

Што ж,
   Умее ён вучыцца,
Бо старанны,
Не лайдак.

Што ж,
Ен можа ганарыцца
Гэтым поспехам,—
Аднак...

Ен сяброў
Не заўважае.
Памагчы б —
Не для яго...
Самы лепшы
Дзённік мае,
А сяброў —
Ні аднаго!

## КУДЫ ПЯТРО ПАДЗЕЎ ВЯДРО?

— Як на рэчку бег, Пятро,
Ты для ўлову браў вядро?
— Браў...
— А дзе ж яго падзеў?
— Патанула неўспадзеў.

— Як жа выйшла ўсё, унук?
Можа, выслізнула з рук?

— Сома я цягнуў, а сом
Па вядры як даў хвастом!

— Дзе ж ён, гэты прайдзісвет?
— За вядром нырнуў услед.

— Ой, шкада, шкада, вядома,—
Ні вядра няма,
Ні сома...

## «МУДРЫ» ЎНУК

Гаварыў дзядуля:
— Мой унук,
Адпілуй сухі на грушы сук.
Будзеш лезці,
На яго наступіш —
Зломіцца —
Спіну ці бок аблупіш!
Я ўжо так высока не ўзбяруся.
Дый баюся, што ўпаду,
Звалюся!..

Адказаў дзядулю
«Мудры» ўнук:
— Не дастану, не хапае рук,
Да сука таго
Не дацягнуся.
Хай тырчыць —
Я з грушы не звалюся...
Не бядуй, дзед,
Падрасту — і тую
Патарчаку ўмомант адпілую!

— Сам глядзі...—
Сказаў дзядуля ціха,—
Не хачу табе, унучак,
Ліха...
Ды,
Забыўшы пра наказ дзядулі,
Лез на дрэва
Ўвішны ўнук Януля.

Наступіў на сук —
Зламаўся сук,
Шуснуў з грушы
З лямантам Янук!

Ды не грымнуўся,
Ды не пабіўся —
За той сук
Штанінай зачапіўся.

Са старое грушы ўніз
Галавою ён павіс!
— Памажы, дзядуля мілы! —
Стаў крычаць хлапчына
Колькі сілы.

Падаспеў дзядуля:
— Мой унук,
Не дастану, не хапае рук.
Як жа я цябе
Адтуль здыму?
Цяжка, цяжка, браце, аднаму...
Ды не плач,
Не траць, унук, надзеі,—
Падсаблю,
Калі памаладзею...

## «МОДНЫ» Ў САНІ ПІНЖАЧОК...

«Модны» ў Сані пінжачок —
На «значку» вісіць «значок»:
Ад смятаны,
Ад катлеты,
Ад пюрэ,
Ад вінегрэту...

Як бярэцца чысціць тата —
Выхаднога малавата.
А кашуля?
А штаны?

І на іх —
«Значкі» адны!

Кожны скажа,
Хто ні гляне,
Як і што
Еў сёння Саня.



## ГРОМ — СМЯЕЦЦА...

Чуў, як часам гром грыміць? —
Дол дрыжыць,
Лісцё трымціць!
Можа, думаеш, злуецца
Дзядзька гром?
Ды не — смяецца!
Гром смяецца,
Гром рагоча —
Неба бліскае,
Грукоча.

І смяецца ён ад... страху:
Не дасі ж ад страху
Маху?
Напачатку страшыць хмара —
Чарнагрывая пачвара.
Потым страшыць бліскавіца —
Не ўцячы,
Не затуліцца!
Хмара гоніць
Дождж-аблогу —
Ці ж далёка
Да спалоху?..
Чуў я, дружа, і цябе
Страх бярэ часамі,
Як пярун над хатай б'е,
Бліскавіцы
Выкрасае.
Не дрыжы ты ўсім нутром,
Так рабі,
Як робіць гром.
Не пужайся: ох ды ах!
Хоць разок асмелься:
Як падступіць блізка
Страх —
Рагачы ды смейся!

## ШТО ЗА ДОЖДЖ?

Што за дождж?
Ён лье і лье!
Выйсці
З дома
Не дае.

Я да шыбы
Як прыкуты,

Ледзь не плачу
Ад пакуты:
Паспрабуй
Уседзь
Адзін,
Можа, тры
Ці пяць
Гадзін?

Не схавалі б
Дажджавік —
Я даўно б
З кватэры
Знік...

Дождж,
Табе
Лягчэй, вядома,
Ты —
На вуліцы,
Я ж —
Дома.

## ПРЫНАДНЫЯ ЛЕКІ

Мама чай старанна грэе —
Пара б'е клубамі!
Мама трэці дзень хварэе,
Чай не шкодны маме.

Саша зводдаль назірае —
І вядома сыну,
Чаго мама ўсё трымае
На стале маліну.

Маму кашаль часта б’е —
З ёю чай гарачы п’е.
Каб хутчэй прагнаць прастуду,
Трэба шмат цярпення!..
— Мама, я хварэць не буду,
Калі з’ем варэння?

— А нашто ж хварэць, сыночак?
Хопіць — я з ангінай…
А хлапчук не зводзіць вочак
Са збанка з малінай.

Са збанка таго, вядома,
І яму трапляе,
Як не бегае, як дома
Бавіцца, гуляе.

Паразважыў Саша крышку,
Моўчкі патаптаўся.
Мама — з кухні,
Ён — за лыжку,
Да збанка падаўся!..

Да матулі ён вярнуўся,
Можа, праз хвіліну:
— Я, як ты, не прастуджуся,—
З’еў усю маліну.

## ГАЛЯ ГУСКАЙ СТАЦЬ ХАЦЕЛА

Галя тупала, крычала,
Галя маме дакучала.
Не суняць ніяк
малую:

— Гускай стаць даўно хачу я!
Гусі нашы дзень пры дні
Каля рэчкі, вунь зірні,
Ходзяць, крыламі лапочуць,
Там гуляюць
Колькі хочуць.
Мне ж ты ўсё не дазваляеш
Бегаць, гэтулькі гуляць.
Мыць пасуду прымушаеш,
Лебяду ў гародзе рваць…

— Ты, дачушка, жартаўніца.
Хочаш гускаю зрабіцца?
Добра,
Ёю будзь тады,—
Падавайся
Да вады.
Будзеш есці, балаўніца,
Не з талеркі,
А з карытца.

Буду зерня падсыпаць,
Пад паветкай
Класці спаць.
Баба шапачкі
Не звяжа,
Казкі нанач
Не раскажа.
І на двор гуляць, дачушка,
Будуць гнаць
Дубец ці пужка…

Пасур'ёзнела капрызна,
Да матулі села блізка:
— Гускай быць я не хачу,
Лепш з табой пашчабячу…



## ХТО ВАДЫ БАІЦЦА?

Да Тарaскі ў вушкі
Заляцелі птушкі.

Пэўна,
Згледзелі здаля:
Чорна ў іх,
Бы там — ралля.

— Добра тут пераначуем:
Гаспадар заснуў,
Не чуе.
Хлопца
Раненька разбудзім,
Бо каноплі
Сеяць будзем...

Але
Ранічкаю самай
Падняла Тараску
Мама.

— Нанач мыцца не хацеў,
Спаць адразу паляцеў,
Дык цяпер бяжы
Да крана.
Не глядзі,
Што дужа рана...

Трэба, сын,
Хутчэй, шпарчэй
Вараннё прагнаць
З вушэй!

Кран прачнуўся,
Кран булькоча:
— Хто вады
Любіць не хоча?

Птушкі,
Шум пачуўшы гэткі,—
Ш-шух з вушэй,
Нібыта з клеткі!

— Ой, баімся мы вады! —
І адразу —
Хто куды!

## ЗАХВАРЭЎ ПАЗЯХАЙ

Блізка дзесь,
Не ў царстве Сонным,
Жыў-быў
Хлопчык Пазяхай.
Да абеду
Спаў штодзённа,
Не любіў
Сястру Ўставай.

Бо сястра
Заўсёды рана
Катурхала:
— Годзе спаць!
Уставай,
Выходзь на ганак,
Будзем
Сонца сустракаць!

Адбіваўся Пазяхай:
— Спаць х-хачу,
Не катур-х-хай!

Пазяхнуўшы,
Зноў салодка
Засынаў
Надоўга ён...
Ля малога
Ціхай коткай
І блукаў,
І грэўся
Сон.

Падыходзіла сястрычка,
Зноў будзіла:
— Уставай!
— Што за кепская
Прывычка?! —
Брат злаваўся.—
Есці дай!

Босы,
Тапак не абуўшы,
Не памыўшыся
Як след,
Умінаў ён,

Пазяхнуўшы,
І сняданак,
І абед.

Малака
Два кубкі выпіў.
А сястрычка:
— Пазяхай,
Дзеці клічуць,
Можа б, выбег?..
— Не пайду,
Не клічуць хай!

— Памажы памыць пасуду,
Трэба ўрокі
Мне вучыць.
— Я пасуду
Мыць не буду,
Мне пара ўжо
Адпачыць!..

Ды бяда прыйшла
Аднойчы:
Ен расхныкаўся
Уночы.

— Што з табой? —
Спытала маці,—
Мо прысніўся
Страх які?
— Як ні лягу,
Мулка спаць мне,
Разбалеліся
Бакі.
— Гэта, мусіць,
Запаленне!
Пазяхайка, паляжы!

Дам табе
Чайку з варэннем...
Па ўрача,
Дачка, бяжы!

І сястра маланкай
З хаты:
Ратаваць жа трэба
Брата!

Доктар,
Слухаючы хлопца,
Усміхнуўся,
Не стрываў:
— Ты на вуліцы,
Пад сонцам,
Хоць адзін разок бываў?

Ну-тка ўдых зрабі
Глыбокі...
Так, яшчэ...
Ай-ай!
Ай-ай!
Захварэў
На лежабокі
Ты, шаноўны Пазяхай!

— Гэта страшна, доктар?
— Вельмі!
Але можна
Рады даць:
Адмяніць
Рэжым пасцельны,
Болей бегаць,
Меней спаць.

...Як на вулцы ўбачыш летам:
Гоніць мяч наўскач малы,—

Не здзіўляйся,
Мабыць, гэта
Пазяхай,
Але —
Былы!

## НАТКА-СКЛАДКА

Клопат ёсць у Наткі —
На сукенцы складкі.
Дзень цалюткі часам
Ходзіць Натка з прасам.
Ёй тады далёка
Дома
Да урокаў.
Прыйдзе ў школу Ната —
Зноў турбот багата:
Фыркае «паненка»,
Пырхае, як пліска:
— Пакамечыце сукенку,
Не сядайце блізка!
А яшчэ ж у Наткі —
Ў кніжках,
Сшытках
Складкі.
Пхне іх без разбору
У партфель таропка —
Складкі і разоры
Аж на ўсіх старонках.
Стогнуць кніжкі часам:
— Эх, і нас бы прасам!..

## ЦЫРКАЧ

Нумарок адзін я маю,
З ім,
Бы ў цырку, выступаю.
Хто не бачыў —
Падыдзі,
Падзівіся, паглядзі!

Сёння,
Нават супраць ветру,
Плюнуў я на трыццаць метраў
А па ветры ў той аўторак
Дык яшчэ далей —
На сорак!

Кажуць, мой язык нязграбны,
Бо на ўроках —
Пык ды мык.
А як трэба цыркнуць —
Трапны,
Бы з прыцэлам,
Мой язык:
Захацеўшы добра,
Я
Пападу і ў вераб'я!..

Нумарок адзін я маю,
З ім,
Бы ў цырку, выступаю.
Гэты нумар —
Свой, каронны,
Я адточваю штодзённа.

Хоць раблю ўсё дасканала,
Гледачоў чамусьці мала.
Як пачну я завіхацца,

Дзеці —
Тут жа разбягацца!

Чую часта
Ад няўклюд:
— Не цыркач ты,
А — вярблюд!..



## ЯСЬ І СТАСЬ

З тыдзень лужына была —
Цэлая лагчынка.
Ды яна ўзяла сплыла —
Стала аблачынкай.

Засталася гразь адна.
Хіба ж гэта навіна?

Ясь прыбег:
— Чуў я, ў гразі

Робяць сховы карасі,
А часцей за ўсё ўюны.
Дзе гразюка —
Есць яны!
Годзе, Стась, у шапку спаць.
Хочаш рыбкі палапаць?

Ясь і Стась —
Тапталі гразь,
Сталі ў крапку твары.
— Можа, трапіцца карась?
Зловім — юшку зварым!

Сябрукі цалюткі дзень
Тупалі з вядзерцам.
Гразь —
На хлопцах.
Рыба ж дзе?
Чуў я —
У азерцы.

## ДЗІВА БАЧЫЛІ ТАКОЕ?..

Дзіва бачылі такое? —
Конь
Папаўся на кручок!
Грывай бліснуў,
Як лускою,
Ды не вырваўся,
Не ўцёк!

Быццам повад,
Лёску тузаў,
Каламуціў плынь
Паўдня.

Вова ўсё ж яго
Адужаў —
З рэчкі выцягнуў
Каня!

Не хвастом
Улоў нязвычны —
Капытамі
Гулка
Б’е.
Міг яшчэ —
З іржаннем зычным
Рыбака
На дол
Саб’е:
«Што зрабіў —
Не бачыш хіба?
Трэба ж
Гэтак забрытаць?!
Я б не стаў ніколі
Рыбай,
Каб ты добра ўмеў
Чытаць!..»

Як жа ўправіцца
З уловам —
Нестрыножаным канём?..

Зноў за ўрок
Узяўся Вова:
Прачытаў
Як трэба
Слова,—
Конь
Зрабіўся...
Акунём!

## ВУШАСЦІКІ

Мой брат заняты вельмі,
І я, каб не адстаць,
На школьнай трусаферме
Люблю з ім шчыраваць.

Я рана выбег з хаты,
Баяўся, што прасплю:
Трусоў адзін, без брата
Сягоння я кармлю!

Мяне пазналі, мусіць,
Вушасцікі мае:
Ускочыў, страпянуўся,
На дыбачкі ўстае
Мой Матылёк упраўны,—
Куды падзеўся сон!
Як матылёк сапраўдны,
Увесь у плямах ён.

Чмыхнуў носам непаседа:
«Чым сягоння буду снедаць?
Можа, бручкі, Васілёк,
Мне дасі хаця б скрылёк?
А няма, дык лебяды.
Траўкі з’ем — такой бяды!..»
Ну, а Волат, белы волат,
Не зважаючы на голад,
Хітра бліскае вачамі:
«Што прынёс мне? Малачаю?..»

Потым лапнуў-драпнуў сетку:
«Разбуру, згрызу ўсю клетку,
Калі свежай канюшыны
Не падкінеш мне й Шыншыле!»

Хоць мне смешна,
Я маўчу:
З ім спрачацца
Не хачу.

А калматая Шыншыла
Вусамі паварушыла.
І сказала мне Шыншыла:
«Не вязала я, не шыла,
Хоць люблю я штукаваць:
Моркву, бульбу шынкаваць.
І капуста мне па густу:
Ела б кожны дзень капусту!
Дай качан, дык за гадзіну
Нават храпкі не пакіну!
Што ўсміхаешся, дзівача?
Падкідай часцей — пабачыш!..»

Хоць я заняты вельмі —
Хаджу ж у першы клас,—
На школьнай трусаферме
Бываю кожны раз.

## ПАД НОВЫ ГОД...

Пад Новы год,
Пад Новы год
Дзівос і радасці багата.
Калі ж без ёлкі,
Без прыгод,
Без карнавалу,—
Хіба ж свята?!

Пад бой курантаў,
Як заўжды,
Агні на ёлцы загарацца,

І Дзед Мароз
Сяброў тады
Пакліча ўсіх
За рукі ўзяцца.

Пад Новы год,
Пад Новы год
Ля кожнай ёлкі —
Карагод...

Прыходзяць сны
Пад Новы год —
Рашае робат ураўненне.
Ні хвалявання,
Ні турбот —
Бяры гатовае рашэнне!

Пад Новы год
Прыходзяць сны —
Пяцёркі ў дзённік
Едуць самі.
А Дзед Мароз,
Траскун лясны,—
Табе памочнік
Лепшы самы!

Пад Новы год,
Пад Новы год —
Не сон,
А ява залатая:
У лыж — разбег,
У сэрцы — ўзлёт:
З трампліна я
Стралой злятаю!..

Пад Новы год
Снягі мятуць.

І ў гэты час
Звяры і птушкі
Твой клопат хочуць
Больш адчуць —
Убачыць поўныя кармушкі.

Сняжынкі-зоркі
Між сабой
Паспелі нагуляцца ў жмуркі:
З-пад срэбных веек
Позірк свой
Не зводзяць
З каптана Снягуркі.
Яна ж (ці ўбачыш гэта ў снах?)
Ідзе, а ўподбежкі —
Завея.
А белізна,
А белізна —
Душа нямее!

Гляджу на гэту белізну —
Скупой зімы ўрачысты колер:
Цябе я, Новы год,
Пачну,
Як чыставік
На ўроку ў школе.

## ВЯСЁЛЫ КРОС

Вясёлкай
Снег іскрыцца,
Пашчыпвае мароз.
Ля школы
Свята быццам,—
У нас
Вясёлы крос.

Хоць ростам я не ўдаўся,
Хоць я не хлопец-зух,
Ды ўсё-ткі
Не паддамся —
Мы з Тузікам удвух!

Даюцца цяжка старты,
А фінішы — ўдвая!
Не, лыжны крос —
Не жарты:
Няўжо апошні я?

Я ходу не збаўляю,
Ды на душы адчай:
Няўжо сябрам
Прайграю?
— Гэй, Тузік, выручай!

А Тузік скеміў, бачу,
Наперад — скок:
«Браток,
Хапайся, як за ўдачу,
Хутчэй
За павадок!..»

Мы рады: не прысталі —
Вітаюць нас турмой!
Мы ўдвух
На п’едэстале —
І я,
І сябра мой!

Важаты
У гуморы быў,
Калі ўручаў мне прыз:
— А ты прыдумаў здорава,
Не схібіў,
Не раскіс!

Ты недарма,
Адзначу,
Вясёлы выйграў крос:
І стаў дужэйшым,
Бачу,
І крышачку —
Падрос!



# Дождджык-
# збожжык-
# хлебасей...





## МАЙСТРЫ

Дзед заняты, дзед майструе,
Чутны шоргат, стук.
Саша побач з ім шчыруе —
Памагае ўнук.

Ен стружком кару здзірае,
Завіхацца рад.
Хоць з ім струг
І дзед трымае,
Але ўнучак — хват!

Дзед сур'ёзны і паважны,
Кажа голасна, працяжна:
— Тут жа ў нас р-а-бо-ты! —
Хопіць да суботы!

Хлопчык радасна смяецца:
— Дзедка,
Што яшчэ?..
За нажоўку
Дзед бярэцца,
Дошку валачэ.

Задаволеныя, моўчкі
Шоргаюць пілой.
Пілавіння ручаёчкі
Сыплюцца мукой...

Саша ўгрэўся,
Ды трывае,
Дзеда словы паўтарае:
— Тут жа ў нас р-а-бо-ты!
Хопіць да суботы!

Не ў суботу,
Што для слоўца,
Недзе пад абед
Вынес веснічкі-варотцы
З-пад паветкі дзед.

Нёс памалу,
Не спяшаўся,
Хітра паглядаў,
Як за іх
Унук трымаўся —
Несці памагаў!

Да штыкетніка прынеслі
І ўздыхнулі:
— Ух!
І да шулачка завесы
Прыбівалі ўдвух.

Дзед на рукі ўзяў малога,
Прытуліў ямчэй:
— Трэба будзе дапамога,—
Пазаву яшчэ!

## МАЛЮЮЦЬ ДЗЕЦІ...

Лоб у крэйдзе,
Нос і пальцы.
Гамана з усіх бакоў:
Каля дома,
На асфальце —
Конкурс юных мастакоў.

На шурпатым тратуары,
Бы ў альбоме на лістах,
Ажываюць
Казкі,
Мары:
У фантазіі —
Размах!

Дзякуй дзецям,
Іх лятункам! —
З поля,
З лесу,
Як сябры,
Перабраліся ў малюнкі
Кветкі,
Птушкі
І звяры.

І здаецца, ўсё дарэчы,
Ім не хочацца назад:
Смела дзівяцца з малечы,

Бы ў дзяцей,—
І ў іх пагляд.

Лоб у крэйдзе,
Нос і пальцы,
Нібы ў нейкіх дзівакоў:
Надвячоркам
На асфальце —
Конкурс юных мастакоў.

І ў дзяўчатачак,
І у хлопцаў —
Мабыць,
Самы ўзнёслы міг!..
А на ўсіх малюнках —
Сонца,
А на ўсіх малюнках —
«МІР».

Іх «палотны» —
Плён старання —
Толькі вечар,
Толькі ноч
Захінуць сабой
Да рання
Ці сатрэ хмурынкай
Дождж.

Ды наўрад ці ў крыўдзе будзе
Хтосьці з гэтых мастакоў!
...Ля малюнкаў ходзяць людзі,
Абмінаюць іх з бакоў:
Пэўна ж,
Быць зласліўцам трэба
І глухім
Душою быць,
Каб на мір,

На кветкі,
Неба,
Каб на сонца
Наступіць!

## СУСТРЭЧА З ЗУБРАМІ

Ані ў пушчы,
Ані ў полі
Іх не бачылі ніколі.
Толькі чулі:
Волат-зубр
Можа адалець і дуб.
Можа лёгка,
Без падмогі
Цэлы стог узняць на рогі.
Эх, нам толькі б паглядзець,
Колькі п’е ён,
Колькі есць!..
Пасля снедання ў нядзелю
Я і брат
Ля таты селі.
Ен зуброў, казаў нам, знае,
Кожны дзень
Ля іх бывае.
— Няўжо, тата, на заводзе
Гэтых волатаў разводзяць?
Бо завод —
Не заапарк.
— Гэта праўда,
Гэта так,—
Нам з усмешкай кажа тата,—
Пакажу вам
Цэлы статак.
На экскурсію да нас

Хай увесь прыходзіць клас...
І аднойчы
З гэтай згоды
Ледзь не ўсёй сябрынай
Завіталі на завод мы
І на пляц зубрыны.
Тата вучням паказаў
На стаянку МАЗаў.
— От праехаць бы! — сказаў
Нехта з нас адразу.
Ды, відаць,
Не кожны зможа
Дацягнуцца да падножак.
Непрыступныя «зубры».
Тата побач з намі:
— Гэтых хоць рукой бяры —
Не баднуць рагамі...
Мы ж нясмела каля іх
Талакою ходзім:
Першы раз зуброў такіх
Стрэлі на заводзе.
Тата потым растлумачыў:
— Іх яшчэ ніхто не бачыў.
Гэта першыя машыны
Нашай новай маркі.
Прыйдзе час —
Па ўсёй краіне
Разбягуцца шпарка.
І на поўнач,
І на поўдзень
Гэткі волат смела пойдзе.
Што ім полюс мерзлаты!
Там іх меншыя браты
На дарогах зычна трубяць,
Рады ім,
Усе іх любяць.
Дзе б наш волат ні прайшоў —

Пракладае трасы...
Быццам на жывых зуброў,
Мы глядзім на МАЗы.



## ЧАРАДЗЕЙНЫЯ ПРУТКІ

У руках бабуліных пруткі —
Бліскавіц дзівоснае мільганне.
А клубкі,
Нібыта калабкі,
Тупаюць па кошыку
Ад рання.

Паслухмяныя яе рукам
І пруткам,—
Спачынку не чакаюць:
І няўседна вёрткім калабкам,
Пагуляюць,
А пасля —
Знікаюць.

У руках бабуліных пруткі,
Не пруткі —
Жывыя хабаткі:
Кожны рух —
Завучаны, бы ўрок.
І чаго, чароўныя, не зробяць?!
Звяжуць рукавічкі,
Світэрок
І сукенку,—
Ў іх умення хопіць!

І на што ні глянуць —
Свой узор,
Колераў дзівосная вясёлка:
То ў нябёс узятых,
То — у зор,
То ў лугоў надрэчных,
То — у золкаў.
У руках бабуліных пруткі.
Хіба прапушчу я ўрок такі?

Я падсела бліжай да яе.
Я гатова,
Як яна, старацца.
Дай, бабуля, мне
Пруткі свае,
Навучы, як з імі
Мне ўпраўляцца.

Я не кіну іх,
Не засмучу —
З імі, як і ты,
Дружыць хачу!

## БУЛЬ-БУЛЬ-СУП

Я на кухні
Не гуляю —
За плітою
Наглядаю.

— Ой, вада кіпіць, булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб сцішэла,
Што ёй даць?

— Круп сыпні,
Парэж бульбінку —
Вар суцішыцца ў хвілінку,—
Падказала мне бабуля.
Я сыпнула.
«Буль-буль-буля...—
Булькатнуў
Удзячна
Вар.—
Толькі рукі не апар!..»

Я на кухні
Не гуляю —
За каструляй
Наглядаю.

— Ой, вада ізноў булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб сцішэла,
Што ёй даць?
— Кінь цыбулінку яшчэ —
І тады вар не ўцячэ,—
Падказала зноў бабуля...

Зноў удзячна:
«Буль-буль-буля...—
Булькатнуў
Вірліва
Вар.—
Што ж, далей
смялей, кухар!..»

Я на кухні
Нездарма —
Мне спакою ўжо
Няма.

Чую:
Вар мой зноў булькоча.
— Што ж ён хоча?
Што ж ён хоча?

— Папярэдзіў, мусіць, нас —
Кідаць ліст лаўровы час!
Падышла бліжэй бабуля,
Ліст узяўшы.
«Буль-буль-буля...—
Булькатнуў
Духмяна
Вар.—
Паглядзі, ці ёсць навар...»

Я заглядваю ў каструлю —
Бачу
Бульбу,
Ліст,
Цыбулю.
«Дзе ж навар?
Які навар?..
Ты дзівак, напэўна,
Вар?..»

«Гэтак думаеш?
Няўжо?
Я ж не вар —
Буль-с-суп я ўжо!
І табе я
Шчыра ўдзячны:
Пэўна, буду
Вельмі смачны!..»

## КОЛЬКІ?

Я пайшоў у першы клас.
А са мной —
Сяргей,
Тарас,
Клава,
Зіна,
Кім,
Пятрусь,
Каця,
Саша
І Кастусь.

Нас рассаджваць пачалі —
Мы пяць партаў занялі.

І яшчэ ж у гэты час
Шмат зайшло дзяцей у клас.

Палічыў іх потым я —
Больш, чым нас, было ўдвая.

Колькі партаў месціць клас?
Колькі ўсіх у класе нас?

## Я МАЙСТРУЮ...

Мы працуем —
Я і тата,
Часта бачаць
Разам нас.
Я — майструю экскаватар,
Рамантуе тата —
Прас.

Тата — майстра,
Справу знае.
Сёння ж злосны ён чамусь.
— Гайкі, шрубак не хапае...
Ты не бачыў іх, Пятрусь?

Ці змаўчаць мне, ці прызнацца?
Ці ўляціць, ці абміне? —
Я паспеў з ім паваждацца,
Прас не грэе —
Праз мяне!

Тая гайка, тыя шрубкі
Ў экскаватары маім.
Нават кольца з мясарубкі
Я прыладзіў сёння ў ім.

— Што маўчыш, бы вінаваты?
Хочаш —
Мы з табою ўраз
Разбяром
Твой экскаватар
І збяром
Для мамы прас!..

— Лепш адзін зраблю ўсё, тата,—
Я няпэўна мармычу.

Глянуў тата хітравата:
— Што ж, бярыся,
Я — маўчу!..

Грэе прас,
Нібыта новы.
Задаволен тата мой:
— Ты механік адмысловы,
Хоць малы,
А — з галавой!



## ЦІ НЯШМАТ ДЛЯ АДНАГО?

Саша ў таты —
Бегатун.
Саша ў мамы —
Шчабятун.
Саша ў дзеда —
Працаўнік.
Саша ў бабы —
Балаўнік.

Бегатун,
Бо хлопца ў хату
Не даклічашся з двара,
Бо гульнёй
Малы заняты,
Хто не чуў
Яго «ура!».

Тата бегаць дазваляе —
Сам калісьці гэткім быў.
— Хай сыночак пагуляе,—
Ен пра кніжкі не забыў...

Шчабятун,
Бо безупынку
Любіць маме дакучаць.
Нават мама просіць:
— Сынку,
Можаш трошкі памаўчаць?

Працаўнік,
Бо ўлетку з дзедам
Неразлучны хлопчык-зух:
За сняданкам, за абедам
І на ферме —
Дружна ўдвух!

І нядзіўна, што ў хлапчыны
Мазалі, нібы ў мужчыны.

Ганарыцца імі Саша.
— Як і ў дзеда,— тату кажа.
Балаўнік,
Бо баба Ўладзя
Ўнучака не абміне:
Лішні раз
Чубок прыгладзіць,

Пацалуе,
Прыхіне.

Саша ў таты —
Бегатун.
Саша ў мамы —
Шчабятун.
Саша ў дзеда —
Працаўнік.
Саша ў бабы —
Балаўнік.

Ці няшмат
Для аднаго?..
Запытайцеся ў яго.

## ЧАРАЎНІК

Хто мне сёння
Дапамог
Луг скасіць
І скласці стог;

Дом пад неба
Збудаваць,
Вокны ў ім
Размаляваць;

Сад ля дома
Пасадзіць,
Клумбы з кветкамі
Разбіць?

Можа,
Трактар неўгамонны?

Можа,
Рупны кран пад'ёмны?

Можа, думаеце, брат
Памагаў
Садзіць мне
Сад?

Не,
Скажу я шчыра,
Не! —
Дапамог
Фламастэр
Мне.

## МОЙ АЎТАПАРК

Аўтапарк я ўласны маю.
Што — не верыце? —
Тады
Шчыра-шчыра запрашаю
У куточак свой, сюды.

Гэта — МАЗ,
Сапраўдны волат,
Ён вязе па сорак тон.
Хоць грубыя ў МАЗа
колы —
Перашкоды ўсе — нішто!
Волата —
з сястрычкай Лорай —
Я па частачках сабраў.
А нядаўна,
Толькі ўчора,
ЗІЛа я сабе прыдбаў.

Вунь ён, з кузавам адкрытым,
З лішнім колам — запасным.
А аўтобус той блакітны
У мяне — яшчэ з вясны.

Аўтакран
Прыкметны самы —
Шыя ж, як у жураўля!
І пажарная таксама
Бачна кожнаму здаля.

У яе агністы колер.
Пастараўся шчыра я:
Легкавушак на прыколе,
Гляньце,
цэлая сям’я!

...Аўтапарк вялікі маю,
Спраўны ўлетку і зімой.
А сяброў
Не пакатаю —
З пластыліну
Транспарт мой.

## МЫ ПАЛОЛІ БУРАЧКІ...

Чэрвень рупнай перапёлкай
Папярэдзіў —
Самы час!
— Заўтра выйдзем на праполку
Бурачкі чакаюць нас.

Звеннявой патрэбна помач —
З нас ніхто
Не падвядзе:

З бурачкамі, бачу, побач —
І трава
У рост ідзе!

І калючы, і настырны,
З нас пацвельвае асот:
«Хто мяне з карэннем вырве —
Ад натугі кіне ў пот!
Ці ж раўня мне бурачкі:
Шыльца-хвосцік —
Во тачкі!

Я — асот, я не макрыца,
Я свой нораў пакажу,
Бо з лянотай-чараўніцай
Я даўным-даўно дружу.
Захачу — і зачаруе,
І цябе не праміне.
Хто з лянотай пасябруе —
Нас і пальцам
Не кране...»

І асоту недалужна
Падпявае лебяда:
«Як ніхто, расту я дружна,
Мне праполка —
Не бя-да!
Захачу — увесь палетак
Захаплю і заглушу!..»

— Не, сябры, не будзе гэтак,
Годзе ўжо! —
Я ім кажу.

Дружна ўскінулі матыкі —
Сцеражыся, хіжы зброд!
І завяў, як тое лыка,

Мной падсечаны асот.
Слёзы белыя ў асота
Горка пырснулі з вачэй:
«Дзе ты,
                    добрая лянота?
        Зачаруй звяно хутчэй!..»

Лебяду — паражагнала.
Лапкі склаўшы,
                              лебяда
Ніцма ўпала,
Прастагнала:
«Ой, бя-да ўсё ж,
Ой, бя-да!..»

Смаліць сонца, як жароўня,
Мы ж — далей,
Далей ідзём:
«Бурачкі, лавіце промні
Кволым радасным лісцём!
Мяккай дыхайце зямлёй
І, як мы,
Сябруйце з ёй!..»

Адпачнём —
І зноў да поту
Рвём асот і лебяду.
Чую,
Страх узяў ляноту;
«Не, да іх —
Не падыду...»



## СУСТРЭЧА З ЭЛЬБРУСАМ

Бегаў я
  Па зыбкай кладцы,
З татам лётаў,
І не ў сне!
А катацца
На «канатцы»
Не даводзілася,
Не!

О канатная дарога,—
Дзіва многа,
Страху многа!

На канаце
Я павіс,
Я зірнуць баюся ўніз.

А зірнуў —
Мы едзем, едзем!
Першы страх —
Далёка недзе!

Я сяджу —
Нібы ў кібітцы.
Не баюся ўжо зваліцца.
Пада мною —
Лес, рака.
Побач —
Татава рука.

А над намі —
Цішыня.
А над намі —
Чысціня.
Зрэдку хмарка ў сіняве,
Быццам пёрка,
Праплыве.

Я сяджу,
Гляджу ў акно —
Як цудоўна
Ўсё відно!

Вунь Эльбрус
Нахмурыў бровы:
Ён маўклівы,
Ён суровы.
Ён —
Нібыта ў бурцы шэрай,
У папасе
Белай-белай.
На яго
Здалёк зірні —
Едзе волат
На кані.

Эй, Эльбрус,
Ты хмуры штосьці!
Мо не рад,
Што еду ў госці?
Я — здалёк,
Я з Беларусі.
Чуў аб гэтым краі, мусіць?
З ніў,
З палёў,
Дзе спее лён,
Я табе прывёз
Паклон...

І, здаецца, пасвятлеў,
Пацяплеў,
Палагаднеў
Волат гэты
Ў бурцы шэрай,
У папасе
Белай-белай.
Ветла,
Сонечна ўсміхнуўся:
— Ты ў нас госць?
Ты з Беларусі?
Што ж,
Сустрэць цябе дазволь,
Толькі
Дужа не сваволь.
Тут табе, браток,
Не дома:
Што ні крок —
Абрыў ці строма!

Сам я ўсё,
Чым ганаруся,
Паказаць табе бяруся.
Назірай, запамінай —

Ёсць Эльбрус на свеце,
Знай!..
Зноў прыедзеш —
Зноў прывечу...
— Дзякуй, дзякуй
За сустрэчу!..

О, паднебная дарога,—
Хараства
І шчасця многа!

## ДОЖДЖЫК-ЗБОЖЖЫК-ХЛЕБАСЕЙ...

Працаўнік —
Вусаты жнівень —
На палі
Камбайны вывеў.

Рупна
Ўпоперак і ўздоўж
Паласуюць
Нівы...
Бачу я пылок
І... дождж —
Шчодры,
Зіхатлівы.

Ён сячэ,
Тугі,
Густы,
Льецца несціхана.
Дождж ык
Спорны,
Залаты,

А яшчэ —
Духмяны.

Б'юцца ў бункер
Капяжы —
Звонкія зярняты.
Толькі чутна:
«Ш-ш-ух-х-жых-ж-жы!..
Ты ў нас
Памагаты?..»

Той капеж
Рукой кранi —
Апячэ да болю.
— Дождждык-збожжык,
Секані!..—
Я крычу
У поле.

Хто ж яму
Не будзе рад
Гэтым днём гарачым? —
Рада сонца,
Рады брат,
Рады тата, бачу...

Дождждык-збожжык-хлебасей,
Ліўнем стань
І млівам! —
Будуць з хлебам
Людзі ўсе,
Буду я —
Шчаслівым!

## ШТО ВЫЙДЗЕ?

Пакуль вам звычайных задачак
На дом не далі,
Разважце, падумайце добра,
Што будзе,
Што выйдзе,
Калі:
    Шаснаццаць сасновых дашчэчак,
    Шаснаццаць сасновых брускоў,
    І столькі ж яшчэ папярэчак,
    І сорак цвікоў —
Узяць падзяліць:
    На рубанак,
    Фуганак,
    На два малаткі,
    На пілку,
    Стамеску,
    Вугольнік,
    Яшчэ —
    На чатыры рукі?
Ды тут, як я бачу,
Патрэбна падказка?
Ну, што ж —
Калі ласка!
Той
Правільна думку паверне,
Той
Правільны знойдзе адказ,
Хто ўмее сталярыць,
Хто ў нашай майстэрні
Са мной папрацуе
Хоць раз!

## ЭКСКУРСІЯ

Тата,
Мама,
Я —
Мы ўтрох —
Сёння едзем
У метро.

Не ў маскоўскім,
Не ў тбіліскім,
А ў сваім —
У мінскім,
Блізкім!

Я вясёлы —
Самы раз
Пакатацца ўволю!
Тупатня
Навокал нас,
Як на перапынку
Ў школе!

І дзятвы —
Не праштурхацца:
Кожны
Хоча пракатацца!
І, як я,
Мо ўпершыню!..
Мне здалося —
Гэта сню:

Бачу —
Лесвіца жывая
Раптам
Знекуль выплывае.

Ды без ляскату
І стуку
Гэтак жвавенька
Імчыць.
А парожкаў,
А прыступак,
Каб схацеў бы,—
Не злічыць!

— Эскалатар...—
Кажа тата,
За руку
Бярэ мяне.—
Не заглядвайся занадта
У імгненне
З ног кульне!..

Я ступіў —
Бы хто парог
Раптам выхапіў
З-пад ног,
Падхапіў мяне,
Панёс!..
Ды не ўгрунь,
А — плаўна...
Я да таткі —
Як прырос:
Боязна,
Ды — слаўна!
Я — збянтэжаны
Чуць-чуць.
Ды стаю бадзёра...
Нас прыступкі
Уніз нясуць,
Тых —
Імчаць угору...

І ў гэты ж міг
Перон
Гул запоўніў рэзкі,
І,  збаўляючы разгон,
Каля нас
Праплыў вагон.
Прачытаў я:
«ПІЯНЕРСКІ».

Пра яго
З газет я чуў.
Бачыць жа —
Не бачыў...
А цяпер —
Я ў ім лячу,
Бы ў ракеце той,
Няйначай!

Электрычкі гул —
Як спеў,
З рэхам,
З адгалоскамі...
Агледзецца
Не паспеў —
Чую: «Станцыя Маскоўская».

Чую: «Станцыя Усход»...
Зноў цягнік
Збаўляе ход.
І настрой ранейшы
Знік —
Не ідзе
Далей цягнік!..

—Не бядуй,—
Сказала мама,—
Ты расцеш,

Метро —
Таксама:

Што ні дзень,
То ўсё даўжэе,
Што ні дзень,
То ўсё дужэе!
Пройдзе
Нейкіх дзесяць год —
Пад зямлёй,
У гэтых сховах,
Як і станцыя «Усход»,
Будзе многа
Станцый новых!

Адступае ўдалеч
Змрок,
Пад зямлёй
Нібы світае...
— Як экскурсія,
Сынок? —
Тата ўзрушана
Пытае.—
Я ў метро
З табой стаю,
А здаецца —
Ў храме...
Можа, станцыю сваю
Узвядзеш
І ты з сябрамі?

Не, вядома,
Не цяпер,—
Як гадкоў
Прыбудзе.

Вер у гэта, сынку,
Вер!

Ведай:
Гэта трэба людзям!

...Я дамоў,
Назад імчу.
З радасці
Нямею.
Не распытваю,
Маўчу —
Тату з мамай
Разумею.

Поўны поезд гаманы.
Рады мама й тата:
Метрабудаўцы
Яны,
І для іх
Дзень гэты —
Свята!

Тата,
Мама,
Я —
Мы ўтрох —
Сёння ездзілі
Ў метро.



## АДНОЙЧЫ Ў ПАХОДЗЕ...

**Паэма**

Здарэнне такое
Забудзеш наўрад —
Вясёлую песню
Згубіў атрад.

І травы шапочуць,
І птушкі пяюць,
А дзеці,
А дзеці —
   Без песні ідуць!

Гарніст
Гэту песню
Знайсці спрабаваў,

Ды змоўк,
Бы ні разу
Не граў,
Не спяваў.

Яму барабаншчык
Хацеў памагчы,
Ды чуў невясёлае:
— Лепш памаўчы...

Важаты у роздуме:
— Што за бяда?
Скуль гэта журбота,
Скуль гэта нуда?..

Дарога, дарога,
Нам сумна брысці,
Парай,
Падкажы нам,
Дзе песню знайсці?

Сказала дарога:
— Я рада сябрам.
Жадаеце —
Песню
Сваю вам аддам.

Песня дарогі:

— Мяне гады спыніць не могуць,
Бягу я ўдаль, за сіняву.
Бо я —
Бясконцая дарога,
І я жыву, жыву, жыву...

Хачу святла, разгону многа.
Я чысціню заўжды люблю,

Бо я —
Зімовая дарога,
Сняжком рыплю, рыплю, рыплю...

На золку шолаху ляснога
І цёплых ліўняў я прашу,
Бо я —
Вясновая дарога,
Жвіркам шуршу, шуршу, шуршу...

Між ніў, раздолля лугавога,
Як ліпень,
Зелена кружу,
Бо я —
Жытнёвая дарога,
І з летам я дружу, дружу...

Не трэба мне ўзамен нічога,
Не ў крыўдзе я
На золь і стынь,
Бо я —
Асенняя дарога,
Журба, мяне пакінь, пакінь...

Я пражыла на свеце многа,
Паўсюль сляды, сляды, сляды,
Бо я —
Шчаслівая дарога,
З людзьмі заўжды, заўжды, заўжды...

— Мы з песняй тваёй
Не былі б у журбе,
Ды як жа пакінуць
Без песні цябе?

— Ну што ж, не няволю.
За шчырасць —

Паклон!
Вунь, бачыце, поле,
Сінеецца лён —
За полем, у лозах,
Рачулка цячэ.
Спытайце парады
Ў рачулкі яшчэ...

Сказала рачулка:
— Я рада сябрам.
Жадаеце —
Песню
Сваю вам аддам.

Песня рачулкі:

— І росы, і струменьчыкі
Збіраю, булькачу.
І хвалі, і каменьчыкі
Нясу, імчу, качу.

Бягу, бягу нястомна я,
Хто зможа перагнаць?
Я — светлая,
Я — цёмная,
Як мой настрой пазнаць?

Вясёлая і сумная,
З хмурыя дажджынкі п’ю.
Я — ціхая,
Я — шумная,
Маўчу і ў бераг б’ю!

З дзятвой,
Заранкай роснаю
Люблю я сябраваць.
Я добрая ды грозная —
Не трэба забываць!

І росы, і струменьчыкі
Збіраю, булькачу.
І хвалі, і каменьчыкі
Нясу, імчу, качу...

— Мы з песняй тваёй
Не былі б у журбе,
Ды як жа пакінуць
Без песні цябе?
Нас лепей у хвалях
Сваіх асвяжы,
Да сіняга бору
Нам шлях пакажы...

Загадкава, сцішана
Бор іх спаткаў.
— Шукаеце песню? —
Ў дзяцей запытаў.—
Заходзьце пад шаты.
Я рады гасцям.
Жадаеце —
Песню
Сваю вам аддам.

П е с н я  б о р у:

— Смалістыя хвоі,
Вячыстыя хвоі
Вяршынямі мкнуцца да зор.
І неба са мною,
І сонца са мною,
Са мною мой родны прастор.
    Ад ранку да ранку
    Я слухаць гатоў
І свіст берасцянкі,
І пошчак дзятлоў.

Я знаю, дзе звоняць крыніцы,
Дзе сховы ласёў і дзікоў.
Я знаю, дзе спеюць суніцы,
Дзе нерушы баравікоў.
З надзеяй, з уцехай
Я слухаць гатоў
Шчаслівае рэха
Людскіх галасоў.
Празрыстыя, звонкія ранкі
Мне свой аддаюць халадок.
Я знаю ўсе сцежкі, палянкі,
Іх бачу і зблізь і здалёк.
Я з вамі за дружбу,
За спеў, за красу.
Зялёную службу
Для вас я нясу.
Нібы ў ветэрана,
Шчымяць мае раны,
І памяці боль не суняць.
Я знаю, дзе колісь жылі
партызаны,
Дзе ім абеліскі стаяць.
Забыць не магу я:
Праз далеч гадоў
Іх бачу і чую —
Сыноў і братоў!..

— Мы з песняй тваёй
Не былі б у журбе,
Ды як жа пакінуць
Без песні цябе?!
Раскінем палаткі —
Вячэраць пара.
Спытаемся —
Можа,
Ёсць песня ў кастра?..
Касцёр заіскрыўся,

Успыхнуў ярчэй:
— Сядайце навокал,
Сядайце хутчэй!

Песня кастра:

— Над рэчкай, над прылескамі
Барвеюць згадкі дня.
Я горну піянерскаму
І гальштуку — радня.
Гару, не дагараю
Сярод палян, бароў,
Бо я заўжды збіраю
У шчыры круг сяброў.
Мне між людзей не цесна.
Гуртуйся, дзетвара!
Як нельга ўсім без песні,
Так нельга без кастра.
Гару, не дагараю
Сярод палян, бароў,
Бо я заўжды збіраю
У шчыры круг сяброў.
Я сум, адчай развею,
Бо зыркі, як зара.
Я кожнага сагрэю,—
Сядайце да кастра!
Гару,
не дагараю
Сярод палян, бароў,
Бо я заўжды збіраю
У шчыры круг сяброў.

— Мы з песняй тваёй
Не былі б у журбе,
Ды як жа пакінуць
Без песні цябе?!

Спачні да світанку —
Нам трэба паспаць.
Мо ранак падкажа,
Дзе песню шукаць?..

...Заснулі ў палатках
Сябры-дружбакі.
Зноў заўтра ў дарогу,
Праз лес, напрамкі.

Гарніст задрамаў,
Барабаншчык заснуў.
Туманам,
Як коўдрай,
Іх бор ахінуў.

На зоры ўзялося —
Куванне і свіст.
І раптам прачнуўся,
Ускліknуў гарніст:
— Я знаю, дзе песня!
Прыдумаў, знайшоў!..—
І горн паслухмяны
Ускінуў ён зноў.
І горн, быццам сонейка,
Зырка заззяў.
Падбег барабаншчык
І палачкі ўзяў.

Ен пошчак вясёлы
Рассыпаў да зор.
Прымоўклі зязюлі,
Суцішыўся бор.

Пастроіўся, стаў
На паверку атрад.
Смяецца важаты:
— Хто песням не рад?

Мы пойдзем далей
Праз гушчар, буралом
І гэтую песню
З сабой забяром...





## ГОСЦІ

Як я прачнуўся,
Дзед Панас
Зірнуў з хітрынкай штосьці
— Яшчэ адны суседзі ў нас,
Яшчэ адны ў нас госці.

Не чуў?
Не бачыў іх?
Тады
Бяжы, унук, на ганак...
Шпачынай песняй,
Як заўжды,
Сустрэў на ганку
Ранак.

Да гэтых песень
Я прывык:

Яшчэ сняжочак сыпаў,
А шпак —
Прадвесня чараўнік —
Свістаў,
Кружыў над ліпай.

Здаецца, стомы
Шпак не знаў
Ці быў бясконца рады,—
Нібы на флейце,
Выцінаў
Дзівосныя рулады.

Шпак шчыраваў,
Шпак чараваў.
А я не мог уцяміць:
Каго суседзьмі дзед назваў?
Каго назваў гасцямі?

Глядзеў, не зводзіў воч сваіх
З таполі,
З ліпы,
З клёна —
Сцяжкі тугіх лісткоў на іх
Успыхнулі зялёна!

На стрэчу з маем красавік
Спяшаўся ўжо бадзёра...
І раптам чую: «Цвік-цвік-цвік!..»
Хто там?
Зірнуў угору.

Дык вунь яны,
Дык вунь жа што
Дзядуля першы ўгледзеў! —
Ляпілі
Ластаўкі

Гняздо —
І госці,
І суседзі…

Крануў дзядуля мой віхор,
Сказаў, бы ў задуменні:
— Без іх жытла
І двор — не двор,
Без іх
І сонца меней…

Цяплынь вясне
Даў шпак-флейтыст
І радасныя песні.
Яны ж — на дрэвы
Першы ліст
З сабой
Здалёк прынеслі.

## ЧАРНІЧКА

У старых свая прывычка,
Бо Чарніцаю завуць.
Мы ж яе завём Чарнічкай.
Ці ж не ласкавей чуць-чуць?

Глянь,
Як, чуйная, ільсніцца,
Песціць вочы,
Песціць слых,
Бо Чарнічка —
Чараўніца,
Не для ўсіх —
Для нас, малых.

Нас яна
Ад суму лечыць.
Нам яна —
Найлепшы дар:
Ад яе —
Ў вачах сінеча,
Ад яе
У нас — загар.

Гэтак дружым з невялічкай,
Што падчас, як нават спім,
Не сыходзіць з губ:
«Чарнічка...» —
І зімой, і ўлетку снім.
Знаем добрай, не скупою:
Летнім ранкам,
Летнім днём
Да яе
Ідзём гурбою.
З чым?
З вядзерцамі ідзём.

Да яе
Здалёк прастуем
Сцежкай
Роснай,
Лугавой:
Знаем —
Шчодра пачастуе...
Юшкай,
Сонцам,
Сінявой.

Юшкай?
Юшкай, не варэннем!
Гэта цуд
Ці ўсё — мана?..

Набярыцеся цярпення —
Стане яснай навіна.

Бо ад вас няма сакрэту
Ні ў сяброў
І ні ў мяне.
Хто ж яна,
Чарнічка гэта?
Можа, ягада?
Ды не!

Хто дарогі не баіцца,
Верны сябру-руксаку,—
Прыязджайце на Чарніцу,
На Чарнічку —
На раку!

## ДЗЕ ЛЕТА КАНЧАЕЦЦА?

«Лета, дзе ўсё-ткі канчаецца лета?» —
Думае Віця старанна дагэтуль.
У нас дык у жніўні.
Гэта ён знае.
У нас пасля жніўня
Восень бывае.
А гэтай парою,
Чуў ён на уроку,
У Афрыцы недзе
Страшэнная спёка.
Кажуць, там горача
Нават тады,
Калі ў нас замецены снегам
Сады,
Марозы трашчаць,
Наваколле халодзяць,

А недзе ў Бразіліі —
Босымі ходзяць.
Значыцца, там,
На другім канцы свету,
Ні холад,
Ні сцюжа —
Гарачае лета?
Значыцца, там —
Цёплы ветрык і сонца
Бясконца?
«Лета, дзе ўсё-ткі канчаецца лета? » —
Думае Віця старанна дагэтуль.



**ХТО КАГО?**

Насарог
Здзівіўся надта,
Як даведаўся
З газет:
Мае ўдалечы

Сабрата,
Што здзіўляе сілай
Свет!

— Гэта выдумка,
Няйначай,
Зубр —
Не волат,
Зубр —
Не слон...
Запрашу,
Няхай пабачаць,
Хто дужэйшы:
Я ці ён?

Адкладаць турнір
Навошта?
Мне заўжды
Спрыяе лёс...—
І да Страуса
На пошту
Тэлеграму
Ен панёс.

Ледзьве склаў яе па слову:
«Белавеж. Зубру Зуброву.
Пакідай загон, паляну,
У любы залазь вагон,
Прыязджай ка мне ў савану
Пазмагацца: хто каго?
На-са-рррог!»

Бегемот,
Прачуўшы гэта,
Папярэдзіў смельчака:
— Можа б, сіл сабраў
За лета,

Можа б,
Трохі пачакаў?!.
Ты не рохкай
Гэтак храбра,
Супакойся —
Будзе лепш!
Дужацца
З рагатым д’яблам?
Толькі
Ганьбы
Нажывеш!

Самазвал
Учора бачыў?
Ен Зубру,
Я чуў, радня.
Значыць,
Волат,
А не кляча.
Значыць,
Сіла ў іх —
Адна!

Засмяюць жа
Землякі ўсе,
Як цябе ён
Зваліць з ног...

Паразважыў —
І згадзіўся
З Бегемотам
Насарог.

Ен, каб з ганьбаю не знацца,
Тэлеграму
Зноў адбіў:
«Не магу з табой спаткацца —
Недзе рог я свой згубіў...»

## ЗЯЗЮЛЬКА

— Зязюля, зязюлька,
Дзе сёння была?
Ці многа, прызнайся,
Гадкоў раздала?

— Я ў пушчу лятала,
У сад за раку,
Каго б ні сустрэла,
Вітала: ку-ку!

Сустрэўся мне ў пушчы
Вясёлы гуртох —
Смех сыпаўся звонка
З лістка на лісток.

Я слухала дзетак
І ў шатах густых
Гадоў адлічыла ім —
Хопіць на ўсіх!

А ў садзе хлапчук мяне
Быццам чакаў.
Як сонечны зайчык,
Між дрэў ён скакаў.

Убачыць стараўся
Мяне на суку:
«Зязюлька, зязюлька,
Скажы мне: ку-ку!»

Я дзесяць гадкоў
Накувала яму.
Чаму гэтак скупа,
Так мала чаму?

Бо знаю Алеся,
Бо чула яго:
Лічыць да дзесятка
Умее ўсяго.

Няхай падрасце —
Зноў у сад прылячу,
І сотню,
І болей
Гадоў адлічу!

**ЖОЛУД**

Сарваўся ўначы Жалудок
І глуха ў зямельку —
Торк!

Няўтульнаю,
Цвёрдай,
Халоднай
Здалася яму зямля.
Зірнуў угару ён журботна:
«Напэўна, загіну я!
Ні звонкага лісця,
Ні сонца,
Ні ветрыку
Над галавой...
Як рад быў я
Іхняй гамонцы!
Што будзе цяпер
Са мной?..»

Пакутна чакаў ён, знябыты,
Спагады ў дажджынак і ў рос.
Ды раптам адчуў:
Да світанку нібыта
Глыбей у зямельку ўрос.

Зямля пацяплела, няйначай:
«Табе даць я крылы хачу...»
Зноў сонца, здаецца, убачыў,
І лісце,
І ветрык адчуў.

Здаецца, прапала самота,
Здаецца, ён з дуба не ўпаў.
Расою пакрыўся, як потам,
І сцішыўся —
Ранак ступаў.

А ранак
У промнях
Іскрыўся,
Развеяўшы змрок з халадком:
— Браток, не бядуй,
Ганарыся:
Быў жолудам,
Станеш —
Дубком.

## ЗАЯЦ МОРКВУ ВАРТАВАЎ...

Заяц
Моркву вартаваў,
Рваць
Нікому не даваў:
Ні вялікай,
Ні маленькай —
Гнаў з палетка ўсіх
Кавенькай!

Сам мядзведзь,
Пад восень гэтак,
Завітаў

На той палетак,
Каб прыкінуць,
Паглядзець,
Як сабраць,
Куды ўсё дзець.

Зірк налева,
Зірк направа:
Што за дзіўная
Праява?
Ні зялёнага радочка,
Ні зялёнага чубочка
На палетку
Не відно!..
Анямеў
Мядзведзь ажно!

Ды ачомаўся імгненна:
— Гэй, касы,
скажы сумленна,
Хто тут поркаўся
Усё лета?..
Ен адкажа мне
За гэта!

Паціскае Зай плячыма,
Хітра бліскае вачыма:
— Я не знаю,
Я не бачыў...
Я стараўся,
Не лайдачыў...

Сапраўды:
Дзе ж морква тая?
Хто
Загадку
Адгадае?

## БЯГУЦЬ РАЎЧУКІ...

Нібы задзірастыя
Два хлапчукі,
У полі сустрэліся
Два раўчукі.

— Куды разагнаўся?
Як зваць?
І адкуль?
— Бягу да ракі.
А завуся Буль-буль...

Нахмурыўся першы:
— Хваліцца пакінь!
Я ўсё ж весялейшы:
Завуся Дзінь-дізнь.

Я голас твой слухаць
Зусім не прывык:
Булькочаш,
Балбочаш,
Нібыта індык!

Буль-буль не стрымаўся
— А твой галасок
Танюткі-танюсенькі,
Як валасок.

Я слухаць пісклявых
Зусім не магу,
Мне сумна з табою —
Адзін пабягу!

І вось, як задзіры,
Як два хлапчукі,
У полі разбегліся
Два раўчукі.

Бы стужкай срабрыстай,
Абвіўшы валун,
Задзінькаў,
Памчаўся
Ручай-весялун.

Маркотна Буль-буль
Яму ўслед паглядзеў:
Ён гэтак здружыцца
З Дзінь-дзінем хацеў!..

Бягуць раўчукі
У разбуджаны свет.
Не-не, ды спахопяцца:
«Дзе ж там сусед?..»

Бярэ адзінота —
Не радуе шум.
«Хутчэй бы сустрэцца,
Прагнаць гэты сум!..»

І вось, пацішэлыя,
Як хлапчукі,
Зноў раптам спаткаліся
Два раўчукі.

Дзінь-дзінь прыпыніўся:
— Даруй мне, прабач.
Адзін я прабіўся
Далёка, як бач,
Ды голас і спеў твой
Забыць не сумеў...
— І я без цябе
Паглушэў, пасумнеў...

— Я дужа стаміўся,
Знямогся зусім.
Кінь крыўдзіцца —

Разам
Давай пабяжым!

— Давай пабяжым!
Вунь — рачулка відаць.
Ты будзеш вызвоньваць,
А я булькатаць...

Бягуць,
А над імі —
І сонца,
І сінь:
— Як дружна спяваюць
Буль-буль
І Дзінь-дзінь!



**КУКАРЭКА-НЕДАРЭКА**

Надумаў Кукарэка:
— Мне трэба адпачыць.
Я ўсіх буджу спрадвеку.

Хто больш,
Чым я,
Крычыць?

Пяю зімой і ўлетку —
Ні разу не праспаў!
Па-мойму,
Неўпрыкметку
Я трошкі сіплым стаў.

Не будзе гэтак рупіць
І клопат мой міне,
Калі чубаткі купяць
Хутчэй будзільнік мне.

Па ўсіх падворках буду
З будзільнікам хадзіць,
На ўсіх падворках буду
Будзільнікам будзіць...

Перапалох на вуліцы:
— Ой, певень занямог!
На вуліцы
Дзівуюцца:
— Прыдумаў жа, дальбог!

Чубаткі,
Хоць і кпілі,
Было хоць крыўдна ім,
Будзільнік жа купілі —
Не прасыпаць жа ўсім!

Шыпяць чубаткі дзюбыя
На пеўня,
Як сычы,
А той па вёсцы тупае,
Будзільнік
На плячы.

Ён крыллем не лапоча,
Расплыўся,
Быццам грыб.
Падчас на плот ускочыць —
Чуваць не спеў,
А — хрып.

— Што сталася са мною?
Чаму ўсё выйшла так?..
А куры за спіною:
— Дзівак...
— Хітрун...
— Лайдак...

— Ты ж, брат-пявун, зазнаўся,
Ты ж глупства нарабіў:
Будзільнік расстараўся,
А голас свой —
Згубіў!

## ЗАЙКА-МУРЗАЙКА

Зайка-мурзайка
Вочы працёр.
Зайка-мурзайка
Выбег на двор.

Токам нібыта,
Працяў халадок:
Цёплыя лапкі,
Золкі ж пясок.

На верасах —
Ізумрудам раса.
Зайку ж расічка

Страшней,
Чым ліса!

Торкнуўся пыскай —
Узвіўся ажно:
Зайка-мурзайка
Не мыўся даўно.

Будзе матуля
Зноў спавядаць,
Бо прыгразілася
Есці не даць.

Кроку на градкі
Не смее ступіць,
Калі ён зарадкі
Не будзе рабіць.

Як жа пазбавіцца
Ад нуды?
Як жа пазбавіцца
Ад вады?

І — здагадаўся!
Вушы — слупком!
Кінуўся ў хатку
Шэрым клубком:
— Мамачка, мамачка,
У верасах
Бегае, бачыў,
Рыжуля ліса!

— Рыжая блізка?
Што ж, пасядзі.
З хаткі
Да градкі,
Сынок,
Не хадзі!..

Зайка-мурзайка
Сумны сядзіць:
«Як жа па моркаўку
Сёння схадзіць?..»
Раптам адважыўся:
І — да вады!
Маці спалохана:
— Сын, ты куды?

— Добра памыцца мне
Трэба, відаць:
Ліска сустрэне —
Не зможа пазнаць...

## СВАВОЛЬНЫ БЫЧОК

На вяроўчыне бычок.
Спраўны,
Круглы,
Як бачок.
Плямка-зорачка
На лбе.
Муражок
Бычок скубе.

Толькі — вось бяда! —
Яму
Сумна ў лузе
Аднаму.

«Эх, пабегаць бы хоць трошкі,
З сябрукамі ўзяцца ў рожкі —
Сілаю памерацца,
Ці падрос, праверыцца!..» —

Разагнаўся,
Тузануўся,
Шмяк —
На траўцы апынуўся!

Тузануў
Вяроўку зноўку —
Ды хіба парвеш
Вяроўку?

— Можа б, ты, бычок, сказаў,
Хто цябе тут прывязаў?
Можа, ты ў чым вінаваты?..
— Я любіў гуляць ля хаты,
Без дазволу,
Без агляд кі
Уцякаць любіў
На градкі —
Пахадзіць, паштукаваць,
Бурачкоў пакаштаваць...
— Можа, бабка пашкадуе —
Здыме з прывязі,
Даруе?

— Ой, баюся, ой, баюся —
Не даруе
Мне бабуся:
Як на градках шчыраваў,
Збіў расаду,
Боб стаптаў...

— Хто ж за гэта дзякуй скажа?
Хто ж сваволь ніка адвяжа?..



## ВАЯЎНІЧЫ ВЕРАБЕЙ

Ледзь ваяка
Прачынаўся —
Піск і вэрхал
Пачынаўся:
Ані разу
Ля шпакоўні
Праляцець
Не мог спакойна.

Як суседзяў абмінуць,
Не ўдражніць,
Не казытнуць?

Гулка ў домік
Дзеўбане:

— Што, забылі пра мяне?
Домік будзе мой:
З сям'ёю
Я займу яго
Зімою...

Не хацеў ён
Міру, зладу —
І бяду наклікаў,
Зваду:
Ўся шпачыная сям'я
Падлавіла вераб'я.

Бачыў сам я
Ў гэта ранне
Іх сутычку,
Іх змаганне:
З вераб'я,
Як ні лютуе,—
Толькі пыл
Ды пух ляцеў!

Знікла храбрасць
У «ваякі»
Зразу,
З першай жа атакі.
Сам, напэўна,
Быў не рады —
Ледзьве вырваўся
Са звады!

Ад шпачынай чарады,
Смелай,
Дружнай, як заўжды,
Шэры кінуўся наўпрост,
Паказаў ім толькі
Хвост!

Сеўшы зводдаль
На галінку,
Пагайдаўся мо хвілінку
І — пра ўсё
Забыўся, мусіць,
Стаў гразіцца:
— Р-р-разбя-р-р-руся!..

Кінь, дурненькі,
Не храбрыся,
Лепш з суседзьмі
Памірыся!

## КАЛЮЧЫ АГУРОК

Лісця зборшчык,
перавозчык,
Знакаміты мышалоў,—
На гурочнай градцы вожык
Раптам пыску накалоў.

Чмыхнуў злосна:
— Што за жарты?
Дзе ты, гэтакі смяльчак?
Жартаваць са мной не варта:
Вожык я,
А не слімак!

Вожык тупае сярдзіта,
Бо злаваць не ў першы раз.
А прыслухаўся —
Нібыта
Нехта буркнуў у адказ:

— Хто тут шастае, тупоча,
Мне на хвосцік наступіў?

Бачыць вожык —
Агурочак
Смела сцежку заступіў.

А на ім калючых рожак,
Бы ў яго іголак,—
Шмат.
Усміхнуўся, фыркнуў вожык:
— Напужаў мяне ты, брат...
Фу, мой нос распух як быццам
Накалоўся моцна я!..
Агурок жа ўсё яршыцца,
Пасмялеў нібы ўдвая:
— Ты са мною не чапайся,
Бо не ведаеш мяне.
Нават Насцечцы не даўся
Я сягоння ў рукі, не!

Я адзін такі калючы,
Я адзін такі балючы!..

Вожык сцішыўся, здзіўлены,
Ды пасля сказаў яму:
— Маладзенькі ты, зялёны —
Вось і колешся таму.

Падрасцеш,
Спялейшым станеш —
І калоцца перастанеш.

## ДЗЕ Ж КЛУБОЧАК?

Пушысты
Шэранькі клубочак
Забраўся

Ў ціхенькі куточак —
З катком
У хованкі гуляў.

Па хаце
Шнарыў, шнарыў коцік,
Пакуль не ўбачыў
Шэры хвосцік —
З-пад шафы ён
Віднеўся ледзь.

«Вылазь!» —
Гарэза ажывіўся,
За хвосцік
Лапкамі ўчапіўся —
Хацеў клубочку
Памагчы.

Дзівіўся потым
Шэры коцік:
«Які даўгі ў клубочка хвосцік!
І сам куды ён
Раптам знік?..»



## АДКУЛЬ БЯДА?

Казёл барадаты
Наеўся салаты,
Напіўся вады —
Набраўся бяды!

Брыдзе хмызнякамі
І думае:
«Ж-жах!
Жывот —
Быццам камень,
Зялёна ў вачах!..»

На выган вярнуўся,
Дзе мяккі мурог,
Пабэкаць памкнуўся,
Выходзіць:
Рох-рох!

— Што стала са мною!
Адкуль жа бяда?..
А козы гурмою:
— Цябе нам шкада.

Зайздросным не будзь ты,
Казёл, да капусты.

Не еш, барадаты,
Па стольki салаты,
Пі меней вады —
Не будзе бяды!

## ЛУГАВАЯ КАЗКА

Пытаўся званочак:
— Скажы мне, вятрыска,
Чаму ты няўседа такі?
Лятаеш высока і нізка —
Ля хмар і над поймай ракі...

— У хованкі я не гуляю
Ні ў небе, ні тут, на зямлі:
Я цёмныя хмаркі ганяю,
Каб дожджыкі ўсюды лілі...

Пытаўся званочак:
— Скажы мне, вятрыска,
Чаму ты свавольнік такі?
Лятаеш далёка і блізка,
Дзе кружыш,
А дзе — напрасткі...

— У хованкі я не гуляю.
Хоць лётаю шмат — не зважай:
Я нівы наўсцяж аглядаю,

Турбуюся: як ураджай?
На лузе, дзе травы па пояс,
З пракосаў збіраю расу,
Чмяліную песню з сабою
Ад краскі да краскі нясу…

— Чаму ты, каго ні спытаеш,
Здаешся загадкаю ўсім?
То цёплы,
То золкі бываеш,
То моцны,
То слабы зусім?

— Такі ўжо характар мой, квеце,
Лятун я,
Шчырун,
Жартаўнік.
А што адбылося б на свеце,
Каб раптам я некуды знік?..

Пытаўся званочак:
— На гэты лужочак
Чаму заглядаеш часцей?
Ці сонца тут больш,
Ці прывабней куточак,
Ці травы і кветкі гусцей?

— Сюды я часцей заглядаю,
Бо шчырага сябра займеў.
Я тут, па-над лугам, лятаю,
Каб ты не тужыў,
А — звінеў!

## СПЯКОТНЫ ДЗЕНЬ У ЗААСАДЗЕ

Слон слана
Абліў вадою.
Ходзяць зебры
Чарадою.
Што ім гэтыя сланы? —
Больш прыгожыя —
Яны!
Зебра кожная, здаецца,
Перад імі задаецца,
Як жыраф,
Трымае шыю:
«Я сама абноўкі шыю!..»

Дзе ж адзін падзеўся слон?
Размарыў, няйначай, сон?
Слон ад сонца
Стаў у цень:
— Ноччу лепей, чым удзень!..
Ноччу ціха ў заасадзе.
Матылёк адно прысядзе
Ды на вуху затрапеча —
На святло ляціць, малеча...

Ноччу месяц.
Ноччу — зоры.
Іх лічу ўжо дзень каторы.
Налічыў мільёнаў пяць,
Больш, напэўна,
Не дапяць:
Не магу вышэй зірнуць —
Бачце, вушы не даюць...

Падышла да зебраў лама:
— Мне спачыць пара таксама.
Гэту спёку,

Гэты дзень
Хоць куды на поўнач дзень!

А вярблюд быў у гуморы:
— Кіньце, кіньце нагаворы!
Не дзянёк,
А — любата!
Вы ж, як бачу, хлюпата!
Пахадзілі б па пустыні,
Дык размовамі пустымі
Не займаліся цяпер...
Я не гэткае цярпеў!

Леў
Пад сонцам падрамаў —
Ледзьве ўдар не атрымаў.
І таму ён на вярблюда
Злосна рыкнуў:
— Згінь, прыблуда!
З клеткі б вырвацца —
табе
Даў бы добра па гарбе!

Ды сланы,
Пачуўшы звадку,
Паказалі
Спрыт і хватку.
Не ўсміхаліся цішком,
Да вады —
Трушком, трушком.
— Што сварыцца, абурацца!
Лепей будзем абліваццца.
Першы хто?
Хто не баіцца
Ад вушэй да пят абліцца?

Зебры першыя:
Тут-туп.

— Душ усім у спёку люб.
Нам не боязна,
Не страшна —
Нарадзіліся ў цяльняшках!

А за зебрамі —
Усе.
Па парадку,
Па чарзе.

Ажывіўся заасад,
Рады сонцу,
Дзецям рад.
Запрашае ўсіх у госці...
Дык не баўцеся,
Прыходзьце!

## СКВАПНЫЯ ХАМЯКІ

Хоць радня,
Хоць сваякі,
Штось не ладзяць
Хамякі.

Хамяку хамяк
Па загрыўку —
Шмяк!
— У нару не лезь,
Будзеш біты ўвесь!..

Хоць радня,
Хоць сваякі,
Штось не ладзяць
Хамякі.

З выгляду —
Не злосныя.

Сквапныя ж,
Зайздросныя.
Колькі б ім ні перапала
Каласкоў —
Заўсёды мала.

І цяпер вось, і цяпер
Брата брат
Таўчэ ў каўнер:
— Ты пшаніцы больш урваў!
Дзе, скажы,
Яе схаваў?

Трэба час,
Дазнацца каб —
За шчакой
Хаваюць скарб!

**САМАСТОЙНЫ СВАВОЛЬНІК**

Ходзіць курка па двары,
Кажа кураняткам:
— Ты зярнятка падбяры...
— Ты зярнятка падбяры...
— Ты зярнятка падбяры...
Рады ўсе зярняткам.

Певунку ж яны не ў смак.
— Не зярняткі, нейкі мак!..

Ходзіць, проса не дзяўбе,
Не дзяўбе ячменю.
— Што адно зярнятка мне?
Мне б — адразу жменю!

Маці ж ласкава:
— Квох-квок!

Што я чую, галубок?
Павучыся пачакаць,
Павучыся пашукаць...
Падрасці яшчэ, сынок,
Дарагі мой певунок.
Ты ж, глянь,
Ростам з вераб’я,
Хілы, траўка быццам...
— Не малы ўжо, вырас я.
Буду сам карміцца!

І — кулём ад чарады,
За паркан, у градкі.
— Куд-куды ты, куд-куды?
Згубішся, дзіцятка!

Певунок жа — як не чуў
Ні сясцёр, ні маці.
«Бегаць з вамі не хачу,
Дзёўбаць па зярняці...»

Градкі ўсе ён абышоў
І ў двары закуткі,
Ды нічога не знайшоў,
Двор,
Нібыта хто падмёў,—
Чысценькі, пусцюткі.

Скубянуў адно травы,
З лужыны напіўся —
І галодны, ледзь жывы
Да сваіх прыбіўся.

Сёстры хорам:
— Ціў-ціў-ціў!
Ой, вярнуўся братка!..

Ён жа вочы апусціў:
— Мне б хаця зярнятка...



## ХІТРЫ ПАВУК

Чутку плёў
Павук-страшыдла,
Распускаў на ўсе бакі:
— Паляванне
мне абрыдла,
Сеткі ўю
На гамакі.
Хто на ўзлеску
Ці паляне
Мець захоча
Свой гамак,
Да мяне
Няхай загляне,—
Задарма аддам,
За так!

Даляцела чутка тая
І да мушчыных дачок.
— Ой, матулька дарагая,
Нам таксама б гамачок!
Мы б спакойна ў ім гулялі
І не зумкалі ў журбе.
Мы б табе
Не дакучалі,
Не трывожылі цябе...

Скачуць мушкі-непаседкі,
Углядаюцца ў акно:
— Нешта мамы
З тою сеткай
Дужа доўга
Не відно...

**ХАДУЛІ**

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Кот зрабіў
Хадулі.
Шыбаваў дамоў
Наўпрост,
Наступіў сабе
На хвост.

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Кінуў ён
Хадулі
І — наўскач дахаты
Кот дзі-ва-ка-ва-ты!

Боль суняўся,
Боль мінуў.

Кот хвастом-трубой
Вільнуў
І пабег трушком
На гаць,
Каб хадулі
Падабраць...

Доўга-доўга
Кот блукаў,
А хадуль
Не адшукаў.

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Хто падняў хадулі?

**ШТО ТАКОЕ З КАЧАНЁМ?**

На падворку — бегатня:
— Захварэла качаня!..

Качка-маці мітусіцца:
— Што магло з малой зрабіцца?
Можа,
Сонечны удар,
Бо крычыць
Не «кр-ра»,
А — «кар-р-р»?

Качар толькі ў тыя дні
Не трывожыўся ані!
— Супакойся, маці, крышку:
Мо спалохаў хто малышку.
А спалох, упэўнен,
Пройдзе.
«Кр-ра» сваё, упэўнен,

Знойдзе!..
Ды яна ж
Яшчэ малая,
Мо сястрычак забаўляе,
«Кар-р» крычыць
Зусім знарок?..
Дзе яна?
Дам ёй урок!..

Раптам
Хмаркай пачарнелай
Над ставочкам нізка
Ш-шух —
Варона праляцела,
Аж прабег
Вятрыска.
— Дзе, скажыце,
Той штук-кар-р-р,
Хто маё прысвоіў
К-кар-р-р?

Гэта ўчуўшы,
Качанятка
Лётам, спуджана,
Да маткі,
Да знаёмага двара:
— Ой, р-ратуйце!
К-ар-р... Кра-кра!..

Маці пляснула
У крылы:
— Не забыла!
Не забыла!..

## ВОЎК-АБІБОК

Шчэрыцца, шчоўкае
Воўк-абібок:
Вывучыць трэба ж
Урок
«На зубок»!

Вывучыць трэба
Абавязкова:
Першым урокам —
Воўчая мова.

Шэры ад злосці
Зубамі скрыгоча,
Ен за граматыку
Брацца не хоча:
Быццам
Ад гэтай навукі
Нялюбай
Стануць мацнейшыя
Кіпці і зубы?

Быццам
Выклічніка звычайнага «шчоўк»
Змалку
Ніводзін не ведае воўк?!

Нудзіцца шэры,
Ды ўсё ж паўтарае:
«В-выла на в-выгане в-воўчая згр-р-рая…»
А ў галаве —
Невылазная думка:
«Хто да граматыкі гэтай датумкаў?»

З роспачы
Зяпу няўдачнік скрывіў,

З роспачы
Шэры працяжна завыў…

Часам пачуеш выццё ты
Ў бары,—
Дужа не бойся,
Гуляй на двары:
Гэта, напэўна,
Той воўк-абібок
Зноў пад прымусам
Узяўся
За ўрок.



## ЦІ ХАДЗІЎ У БОТАХ КОТ?

Кажуць людзі, што калісь
Кот хадзіў у ботах.
Пералескі і палі,
Дзікія балоты
Абышоў, а ног сваіх

Не змачыў ні разу.
Кот хадзіў у ботах тых
Да пары да часу.
І аднойчы неўпрыкмет
Роснай раніцою
Распаўзліся боты ўшчэнт,
Выбылі са строю.
«Можа, новыя пашыць
Боты-скараходы?
Не! Не буду:
Можна жыць,
Лішні клопат — боты...»
І з тае пары заўжды
Ходзіць коцік босым.
Не баіцца ён вады,
І не страшны росы.
Толькі пагуляць яму
На марозе не ў чым —
І каток усю зіму
Грэецца на печы.

## ВОЖЫК І СОНЦА

Загарэць
Надумаў вожык
Ад вачэй —
Да самых ножак.
Абадраў з калючак
Мох,
На грудку
На сонцы
Лёг:
— Пыставай хутчэй, загар,
Асмужы
Спіну і твар!

Да паўдня
Пралежаў ён,
Не адзін
Пабачыў сон,
Ды, каб той загар узяўся,
Не адчуў,
Не дачакаўся.

— Сонца, ты з мяне смяешся:
Слаба грэеш,
Не бярэшся.
Ці табе шкада загару?
Мець яго
З вясны я мару...

Сонца,
Нібы ўсё пачула,
Долу
Глянула прачула,
Усміхнулася прыгожа:
— Ты дзівак, напэўна,
Вожык...
Я нікольі
Не смяюся.
Проста —
Трошачкі баюся.
А чаго цябе баюся,
Знаеш сам,—
Яшчэ ўкалюся!

## КАЧАН КУПАЕЦЦА...

З народнага

Як пайшоў качан купацца
Ды пачаў ён распранацца.
Ен усе свае кашулі

Ў адзін момант скінуць рад,
Але ж вы, напэўна, чулі,
Што ў яго іх, вельмі шмат.
І таму ніяк не скіне
Ён за раз кашулі ўсе —
Па адной здымаць павінен,
Па парадку,
Па чарзе.
Сонца ж паліць.
Млосна.
Спёка.
Ля ракі качан стаіць,
Распранаецца —
Навокал,
Можа, з воз кашуль ляжыць.
І апошняя, нарэшце,
Паляцела на пясок —
Анікога ўжо на рэчцы,
Сонца села за лясок.
Качану дамоў збірацца
Неахвота,
Але час.
Не прыйшлося пакупацца,
Даць нырца ў ваду хоць раз.
Уздыхнуў ён:
— Вечар сіні
Рана крылы распусціў.
Мусіць, заўтра да ракі мне
Давядзецца зноў прыйсці.

## ХТО АБСТРЫГ ДЗЬМУХАЎЦА?

З дзьмухаўцом
Каля крынічкі
Ветрык забаўляўся:
Па галоўцы

Лёгка гладзіў —
Дзьмухавец смяяўся.

Ен пушыўся,
Сам заўзята
З ветрыкам дражніўся.
А ў крынічку
Раптам глянуў —
Тут жа спахапіўся!

Быў ён смешны ў гэты міг:
— Хто,
калі
мяне абстрыг?



## КОНІК

Ранак жнівеньскі ідзе
Крокам насцярожаным.
Скача конік у траве,

Быццам бы стрыножаны.
На травінку скокне ён —
Долу кропля скоціцца.
Ад халоднае расы
Ножкі аж заходзяцца.
У зацішку пасядзі
Гэтаю часінаю:
Не запрэглі ж цябе ў воз
І не б’юць ляйчынаю.

## ПЕРАПЁЛКА

Свішча, свішча перапёлка:
— Спаць пара!
Стынуць росы ў травах золкіх:
Спаць пара.
Вечар крадзецца памалу:
Спаць пара.
Адшумела, адспявала
Дзетвара.
Спяць дубы, і іх галіны
Не шумяць.
Перапёлка ж несупынна
Кліча спаць.
Хутка ранак. Гаснуць зоркі,
Ледзь блішчаць.
А калі ж ты, перапёлка,
Пойдзеш спаць?

## ЧЫЕ СЦЯЖЫНКІ Ў ЛЕСЕ?

Колькі ў лесе
Сцежак пратаптана,
Ты лічыў?
Ты бачыў?

Так і быць!
Выйдзем з дома,
Выйдзем рана-рана...
Бачыш,
Сцежка некуды бяжыць...

Пойдзем,
Прыхапіўшы кош і ножык,—
Гэта сцежка па грыбы вядзе,
У бярэзнік, дзе руплівы вожык
Нерушы пакажа ўсе за дзень.

Гэта вось —
Чарнічная сцяжынка,
Хто яе у лесе пратаптаў?
Пэўна, той,
Хто летняю часінкай
Раніцы ніводнай не праспаў...

А па гэтай,
Вытаптанай крышку,
На паляну выйдзеш, да ласёў,
Тут яны пасуцца
У зацішку —
Вартавыя чуйныя лясоў.
Бачыш гэту
Сцежку-пуцявіну?
У гушчар нырнула з-пад дубоў.
Тут прабег, сляды свае пакінуў
Дзік —
Нястомны зборшчык жалудоў.

Гэта —
Верасоваю палянай
Выведзе з-пад шатаў да ракі.
Халадком напоіць нечакана,
Зноў пакліча ўдалеч, напрасткі.

## ВЯРБІНКА

— Чаго стаіш, вярбінка,
Над самаю ракою?
— Бо кожнаю галінкай
Люблю шаптацца з ёю.

— Аб чым жа ты гаворыш
З аерам ды вадою?
— Пра месячык і зоры,
Пра сонца залатое.

Расказваюць мне хвалі
Пад беражком крутым
Пра лугавыя далі
За борам —
Вунь за тым!

Туды не загляну я,
Туды не забягу,
Я ж там красу зямную
Пабачыць не магу.

Хоць сумна ў дождж і ў спёку,
Ды я ўсё шапачу:
Што робіцца навокал —
Даведацца хачу.

Сяброўствам ганаруся
З рачулкаю сваёю.
Я не ў ваду гляджуся —
На свет
Гляджу я з ёю!

## МОЙ БОР

За горачкай,
За вёскай,
Як толькі паглядзецць,—
Сінеецца палоска,
Віднеецца ледзь-ледзь.

Што гэта —
Добра знаю,
Бо над палоскай той
Усход мяне вітае
Заранкай залатой.

Я выбегу
За вёску,
За мною —
Росны след...
А сіняя палоска —
Мой бор,
Мой родны свет.



## СОНЕЙКА ЎЗЫШЛО

Быццам хто рассыпаў залацінкі
На траву, на дрэвы, на сяло.
Заблішчалі радасна расінкі —
Залатое сонейка ўзышло.

Зніклі цені ў патаемных сховах,
Разлілося далеччу святло.
Птушкі прабудзіліся ў дубровах —
Залатое сонейка ўзышло.

Ажыла прырода, заспявала,
Зноў адчуўшы ласку і цяпло.
Сінява яшчэ сінейшай стала —
Залатое сонейка ўзышло.

Бераг сонны ў хвалі акунуўся,
Цішыню — як ветрыкам змяло!

Колас абраселы страпянуўся
Залатое сонейка ўзышло.

Яблык
Бок — яшчэ не загарэлы —
Сонейку падставіў, каб пякло.
Лазнякі развеселі арэлі —
Залатое сонейка ўзышло.

Ад травінкі
Да сасны вячыстай
Ажыло ўсё раптам, расцвіло...
Ранак усміхнуўся прамяніста:
— Залатое сонейка ўзышло!..

## ХІТРЫ МАХАВІК

Хто сказаў:
Я — махавік,
У імху
Сядзець прывык?

Ці ж схаваешся
Ад вас,
Грыбнікоў,
У летні час?!

І таму я —
Лёс мой горкі —
Лезу з моху
На пагоркі:

Можа,
Ля баравіка
Абміне
Чыя рука?..

Не зачэпяць,
Не заўважаць —
Не засушаць,
Не засмажаць.

Тут мне сумна,
Ды не вельмі:
На грудку ж —
Не на патэльні!

## ЛЯСНЫ КЛОУН

Часта Мухамор
Любіў хваліцца:
— Паступлю на клоуна вучыцца!
Ну, а што?
Аб чым яшчэ размова?
Шапка ж у мяне,
Нібы ў Папова:
Яркая,
Стракатая,
Пацешная...
Хіба ў ёй
Ніколечкі не смешны я?
Веру:
Падвучыўшыся як след,
Я здзіўлю сабою
Цэлы свет!..

Гэтак ён збіраўся,
Выхваляўся,
Ды ў сваім бары
Тырчаць застаўся.
Шапку
Выстаўляе напаказ:

— Гляньце,
Нібы ў клоуна
Якраз!

**ПРОМНІ-ПРАЦАЎНІКІ**

Усміхнуўся
Промень промню:
— Я цябе, здаецца,
Помню.
Бачыў недзе...
— Бачыў? Дзе?
— Золкам самым —
На вадзе,—
З рыбакамі ты рыбачыў...
А ў абед —
На лузе бачыў:
Сена ты сушыў,
Стараўся,
Як і людзі,
Завіхаўся...
Потым бачыў
У ляску,
Зноў ля рэчкі,
На пяску —
Падружовіў ты суніцы,
Падчарніў гусцей чарніцы.
Бегаў з дзецьмі,
Плаваў шумна,
Не было, напэўна,
Сумна?..

Усміхнуўся
Промень промню:
— Я цябе таксама
Помню.

Гэта ж ты
Мне пасабляў,—
Марна часу
Не губляў.
Нам удвух
Было святлей,
Нам удвух
Было цяплей...
Я і ты —
Заўжды браты.
З намі
Болей дабраты.
Дружна
Мы з табой жывём,
Бо сябруем
З добрым днём!

## КАГО БАІЦЦА ЗУБР?

— Зубр, ты ў пушчы —
Гаспадар.
Зубр, ты ў пушчы —
Уладар.
А скажы,
Прызнайся, дружа,
Моўчкі ўбок не адыходзь
Ці каго баішся дужа,
Ну, не дужа,—
Трошкі хоць?..

Чмыхнуў зубр,
Пахрумстаў,
Потым
Шумна выдыхнуў:
— Янота...

— Ой, янота?
Кпіш ты, мусіць?
Гэтага
Не можа быць!..
— Як хаджу, заўжды баюся,—
На яго б
Не наступіць!..



**ВУШАНКА**

Зай прадаў
Галля вязанку
І купіў сабе
Вушанку.

Ён падняў у шапцы вушы,
Завязаў на матузкі
І дамоў, шчаслівы, рушыў
Па сумётах, напраcткі.

Разагрэўся шарачок,
Сеў, а шапку — на сучок!

Не паспеў падсілкавацца,
Зірк — ліса!
Куды схавацца?

Зай падскочыў, як спружына,
Зай кульнуўся ў той жа міг.
Шапка дзе?
Сарваў з ляшчыны —
І ў лагчыну
з ног усіх!

Толькі стрэльнуў абламаны
Сук ляшчыны наўздагон...
Дома Зай на шапку глянуў
Не стрымаў слязінак ён.

— Эх, шкада! —
Забедаваў.—
Матузочкі абарваў!..

На базары
Снежным ранкам
Зай купіў сабе
Вушанку.

## ХРАБРЫ БАРАВІЧОК

Мацачок-баравічок
Вылез на дарожку.
Капялюшык —
З пятачок,
Бульбінкаю —
Ножка.

— Ты адкуль ідзеш?
— Адтуль,
З-пад бяроз, ад гаю...
— Сваякоў шукаеш тут?
— Грыбнікоў шукаю...

## БЕРАСЦЯНАЧКА

Іду ў гушчар. Сучок — не трэсне.
Лагодны ветрык, цішыня.
Шапоча лісцейкам бярэзнік —
Самога сонейка радня.

Прагал сустрэнецца, палянка.
І птушка...
Што ў яе спытаць?..
— Чаго лятаеш, берасцянка?
— Бярosты думала надраць.

— Нашто ж табе бяроста тая?
— Сабе свісцёлачку зраблю.
— Чаму ж бярosты не здзіраеш?
— Шкада: бярэзнічак люблю.



## ХАЎРОНЬКІ

Хаўронькі-непаседы,
Каб нешта хоць зрабіць,
Карытцы да абеду
Надумалі памыць.

Ваду насілі — рохкалі,
Вішчалі:
— Хто хутчэй! —
Адразу сталі мокрыя
Ад пятак да вачэй.

Хаўрон хрыпеў прастуджана:
— Малеча,
Не крычы!..
Была за ночвы — лужына,
Мачалкамі — лычы.

Хаўронькі завіхаліся:
Хто сценкі цёр,
Хто — дно,
Карытцы аж куляліся,
Падлётвалі ажно!

Мыццё — работа нудная,
Адна ўсчала бурчаць:
— Лепш буду есці
З бруднага,
Чым гэтак шараваць!

За ёй —
Сястра, як спуджана,
Карытца вобзем —
Бразь!
Спачыць палезла ў лужыну,
У саменькую
Гразь.

Прыйшла Хаўроння з вуліцы —
Ружовы пятачок:
«Што зараз мыць? —
Дзівуецца.—
Карытцы
Ці дачок...»

## ПРА КАЗЛА І ЯГО БАРАДУ

### Жарт

Каля тыну,
Каля плоту
Скуб казёл траву ў ахвоту.
Ў бараду ж ля ўсіх платоў
Начаплялася «дзядоў».
Ну ніяк не даць ім рады.

— Эх, ты, дурань барадаты!
Падняла казліха рогат.
Дапякла яна старога.
«Што ж,— падумаў ён,—
Пайду
Абстрыгу ўміг бараду,
Хоць казлу без барады
Ні туды і ні сюды!..»
З барадою развітаўся,
Да казы ізноў падаўся.
Тая ў рогат:
— Ну і мода!
Эх, ты, дурань безбароды!

## КОТ ПАДЗЯКУ ЗАРАБІЎ

Кот падзяку зарабіў —
Бабцы сподка не разбіў.

Як гарод палола бабка,—
У гладыш не сунуў лапку.

Рыбу,
Што злавіў унук,
Не звалок,
Не ўкраў
З-пад рук.

Што з катом?
Хто бачыў дзе,
Каб змяніўся кот
За дзень?

Кот падзяку зарабіў —
Дома
З раніцы не быў.



## ДРУЖНАЯ СЯМЕЙКА

Працуе дружная сямейка:
Рыдлёўка,
Граблі,
Лейка.

Рыдлёўка любіць пастарацца,
За ўсё бярэцца,
Што цяжэй.
Яна патупае на пляцы —
Зямелька зробіцца свяжэй.

Граду ўскапала хапатліва,
Ля грушы стала, ля камля,
Ды ззяе
Радасна, шчасліва,
Як тое сонейка, здаля!

І граблі тут пашчыравалі —
Насенню
Мяккую пасцель
На ўсю вясну
падрыхтавалі,—
Хай узыходзіць,
Хай расце!

А потым лейка-палівачка
Ад бліжняй студні
Да грады,
Свой нос задзёршы
заліхвацка,
Забегала
Туды-сюды.

Хоць мікрадождж —
Не дожджык з неба,
Ды ён зямлі
Таксама трэба.

Працуе дружная сямейка:
Рыдлёўка,
Граблі,
Лейка.

Жывуць здавён
У добрай згодзе,
Працуюць шчыра ўсе гады,
І ў доме іх —
У агародзе —
Зялёна,
Хораша
Заўжды!

## ЖАЎРУКІ

У сінім небе — жаўрукі.
Не знаюць, шэрыя, відаць,
Што напрадвесні з-пад рукі
На іх затоена глядзяць.

Глядзіць прыжмурана лазняк
У каташках,
Нібы ў вяснушках.
Яму не церпіцца ніяк
І плісак,
І стракоз пагушкаць.

Бяроза косы распляла.
Яшчэ раней з іх змыла шэрань.
А заяц скінуў маскхалат,
У світэры застаўся шэрым.

І буркнуў дуб:
«Даўно не сплю...
Эх, спіну ўжо
як след пагрэю.
І жалудоў я наспялю,
Каб восенню было што сеяць...»

Даўно ў шкарлупіне-мяшку
Сядзець абрыдла і зярнятку:
Нібы ў падспевы жаўруку,
У свірне ціўкнула пуляткам.

У сінім небе — жаўрукі.
Маленькім вестунам няўцям,
Што іхніх песень ручайкі
Звіняць крыніцамі жыцця.

## МАЛАДЫ МАЙ

Як лёгка дыхаецца ў маі!
Ен поўны
сілы маладой…
Вясна экзамены прымае
На сталасць
у палёў,
садоў.

Камісія —
Дажджы і ветры,
І сонца
З ранішняй расой —
Дае жытам пуцёўкі ў лета —
Снапы даспелых каласоў.

Здаюць экзамены дубровы
На шум
і птушак гаману:
Ці будзе ўсё
Такім жа новым
Улетку,
як было ў вясну?

Ці змогуць нам у непагоду
Пад шатамі прытулак даць?
Пра ўсё клапоціцца прырода…
Ну, як ёй
дзякуй не сказаць!

Як лёгка дыхаецца ў маі!
Ідзеш — ляціш,
Не чуеш ног.
І сам, здаецца, падрастаеш,
Бы маладзенькі той мурог.

## РАЗМОВА З ЛЕТАМ

— Лета-лецейка,
Галасістае,
Хто цябе абмыў
Расой чыстаю?

Дзе ўзяло,
адкуль
Столькі водараў,
Столькі колераў,
Лета шчодрае?

— Чэрвень шчыры даў
Мне крышталь-расу,
Звон пчаліны даў,
Мурагоў красу;

Маладых дажджоў
З навальніцамі,—
Каб дала палям
Я напіцца ўсім;

Даў яшчэ ён мне
Ўсмех вясёлкавы,
Насяліў жыты
Перапёлкамі;

На прыпол палян
З добрай шчырасці
Сыпануў суніц
Поўнай прыгаршчаў

Ліпень слаўны даў
Мне духмянасць траў;
Пах малінніку
Разамлелага,

Хвалю цёплую,
Пляж ля берага.

Ну, а жнівень даў,
Як ніхто,
Мне шмат:
Мора цэлае
Залатых зярнят;

Шыр даспелых ніў,
Караваяў пах,
Звон антонавак
У густых садах...

— Лета-лецейка,
Рупна-спелае,
Што ж ты
Нам дало?..
— Ўсё, што мела я...



## ЗАЙКАЎ КАЖУШОК

Даўшы волю завірусе,
Снежань свой паскорыў крок.
Зайка шэры апрануўся
У бялюткі кажушок.
Каб парой начной, глыбокай
Злы мароз не абпаліў,—
Шчыльна, шчыльна касавокі
Кажушок свой зашпіліў.

## МАРОЗ

Грук-грук!
Грук-бух!
Анямеў я
І аглух.

Да апошняе хвіліны
Я не скончу страляніны.
Грук-грук!
Грук-бух!
Расплёскаў я ўвесь абух,
Боты людзям
Падбіваючы,
Палі ў рэкі
Заганяючы.
Г-гах, г-гах!
Г-гах, г-гух!
Сам ад грукату аглух.

## ЗАВІРУХА

В-в-в-вух, в-в-в-віх!
У-у-у-а, у-у-у-уха!
Вые злосна завіруха,
Сыпле золкаю жарствой
І сама ж галосіць:
— В-в-о-о-й!
Круціць снег ля вокан вірам,
Хто ж яе уціхамірыць?

## САНІ

На падворку палазамі
Праскрыпелі хрыпла сані:
— Скр-р-рып!
Скр-р-рып!
Снегу нам, зіма, падсып.
Не баімся мы нічога,
Не саб'ёмся мы з дарогі...

І зіма наўкола раннем
Намяла сумётаў саням.
Сані выйшлі
За вароты:
— Не пускаюць нас
Сумёты.



## ЛЫЖЫ

Ш-ш-шась — ш-шух!
Ш-ш-шых — ш-шах!
Лыжы зранку на нагах.
Пад вясёлы,
Звонкі смех
У сыпучы лезуць снег.
Не пужаюцца яны
Белай снежнай цаліны,—
І таму зімой заўсёды
Мы бяром іх
У паходы.

## ВЯРБЛЮД-ВАНДРОЎНІК

— Гэй, вярблюд,
Дзівак двухгорбы,
Ці гарбы ў цябе,
Ці торбы?
— Я скажу вам
Па сакрэту:
І не тое,
І не гэта!
Ці ж не бачна? —
Рукзакі.
Я — турыст
Усё ж, браткі...
Ці то ў стэп,
Дзе ні травінкі,
Ці ў пяскі,
Дзе ні дажджынкі,—
Без аглядкі нават
Крочу,
З сіл не выб’юся,
Не збочу,
Бо запаслівы як след:
Ёсць сняданак,
Ёсць абед...
Рукзакі,
Тугія, поўныя,
У мяне
Нібы чароўныя —
Не патрэбна іх
Укладваць,
Не патрэбна ў іх
Заглядваць.
Захачу —
У любы я міг
Харч сабе
Дастану з іх...

Як пайду я ў падарожжа,—
Хто са мной
Зраўняцца можа?

## ПАЛАСАТКІ

Вепручыха
Для парасятак
Панашыла
Кашуль-паласатак.
Апранула дзяцей
У абноўкі.
Раздала заадно ім
Насоўкі:
Як на бульбу
Хадзілі ўначы,—
Застудзілі
Малыя
Лычы.

— Не дурэйце,
Не свавольце, парасяткі,
Беражыце і шануйце
Паласаткі.
А пачухаць захочацца бачок
Не парвіце
Аб востры сучок,
Бо ў мяне турбот,
Як бачыце,
Па шыю —
Не пашыю больш абновак,
Не пашыю...

Парасяткі сваволяць,
Гуляюць,
А кашулькі —

Ліняюць,
Ліняюць…
Хіб шчацее,
Знікаюць палосы:
Ці дажджы іх змываюць,
Ці росы?

Падраслі неўпрыкмет
Парасяткі —
Дзе ж падзеліся іх
Паласаткі?

## ШТО ЗА ДЗІВА-КУРАНЯТКІ?

Што за дзіва-куранняткі?
Іх насы —
Нібы лапаткі.
Лапкі —
   Быццам два лісточкі,
Як гарошынкі —
Іх вочкі.

Як прыбеглі
Да вады,
   Дык адразу ўсе —
Туды!

І ныраюць,
І плывуць,
Толькі чутна:
«Вуць-вуць-вуць!..»

А на беразе —
Спалох:
Іх матуля —

Квох ды квох!
Бегае сюды-туды:
— Лезьце, неслухі,
З вады!
Ой-квох-квох!
Ой-квох-квох!
Мне за вас трывожна.
Ой-квох-квох!
Ой-квох-квох! —
Утапіцца можна!

Што ж за дзіва-кураняткі
Не паслухаліся маткі?



## ЗДАРЭННЕ

Сонца глянула вяснова.
Вылез мішка з берлагу.
На сцяжыначцы лясовай
Зайку,

Неяк выпадкова,
Наступіў ён на нагу.

Як узвіўся зайка:
— Ой!
Што са мною?
Што з нагой?

Напалохаўся мядзведзь:
— Трэба мне пільней глядзець!
А ты, зайка,
Не крычы.
Чуеш, лепей —
Паскачы!
Вось так!
Вось так!
Ты ж скакаць мастак!

І мядзведзь —
Шаноўны мішка —
Па карэннях
Ды па шышках
Сам пусціўся ў скокі ўміг,
Падбадзёрваючы ўслых,
Зайку,
Зайку-бедака:

— Можаш, зайка, гапака?
Вось так,
Вось так
Пакружыся!
Па хмызах,
Па кустах
Прабяжыся!

На дыбкі ён стаў, кульнуўся,
Пракаціўся на спіне...

Зайка раптам схамянуўся:
— Ой, балела мне ці не!

Можа, гэта я не ўгледзеў —
Ледзь бяды не нарабіў?
Можа, гэта я мядзведзю
Ды на лапу наступіў?

## ТРЭНІРОЎКА

Хоць над лугам дождж навіс,
Конік танканогі
Скок угору,
Скок уніз —
Скача да знямогі.

Гэтым здзіўлены нямала,
З хаткі выглянуў слімак:
— Што з табою, братка, стала?
Уцякай хутчэй, дзівак!

Бачыш — лівень шугане,
Будзе нам лупцоўка!
— Не ўгаворвай, бо ў мяне
Зараз трэніроўка.

Не па мне
Твая спагада —
Блізка ўжо
А-
лім-
пі-
я-
да!

— Ты ж скакун прызнаны самы,
Ты ж у нас не навічок...
— Я ў сваю ўключыў праграму
Новы від —
Трайны скачок...

Порсткі, у трыко зялёным,
Конік змогся усё ж, відаць:
— Думаеш ты,
чэмпіёнам
Вельмі лёгка стаць?

Я даўно б зашыўся ў кусцік —
Адпачыць я рады.
Але хто ж пасля дапусціць
ды!
я-
пі-
лім-
а-
Да

## ЗНІЧКА

З нябёсаў, як з пагорачка,
Упала раптам зорачка.
Кацілася
Шпарка,
Свяцілася
Ярка.
Мільгала,
Маргала
І тут жа —
Растала!
Зірнуўшы ў неба зорнае,
Над заваддзю азёрнаю

Шумней
Зашаптаўся
Аер
З асакою:
«Што сталася з ёю,
Драбнюткай такою?..
Сюды скацілася б —
Уміг
Да сёстраў трапіла б
Сваіх,
Што ў завадзі
Купаюцца,
Да ранку
З намі
Бавяцца...»
Дуб прарыпеў разважліва:
«Што стала з ёй, адважнаю?..
Сюды скацілася б —
Як птушку,
На голлі
З радасцю б
Пагушкаў.
Дзе ж яна?
Дзе ж яна?
Дзе плёс яе,
Дзе сцежына?..»
З-пад дуба — запаветная,
Цякла крынічка светлая:
Турботы
Хапала,
Журботы
Не знала:
Брую
За бруёй,
Віратлівая,
Гнала.
Ні ўдзень

Ні ўначы
Не драмала —
Спявала!
Пяюха, не сціхаючы,
Звініць, бы насміхаецца:
«А вам, як бачу я,
Нязвыкла? —
Ляцела зорачка
І — знікла!..»
Булькоча радасна крынічка:
«Такая ў зорачкі ўжо звычка.
Такая ў зорачкі ўжо звычка,
Бо нездарма ж завецца —
Знічка...»

## КАЛЯРОВЫ ДОЖДЖ

Дажджавік апранула восень.
Журавы на чужыну ляцяць.
Толькі кроны
Задумлівых сосен
Не змаўкаюць,
Зялёна шумяць.

Лісце з дрэў летуценна апала
Залатым,
Каляровым дажджом:
Дзе ні глянеш —
Зямлю ўсю заслала
Мяккім,
Сонечным дыванам.

З ніў багаты ўраджай сабралі.
Апусцелі даўно палі.
Хлеб і ніва —

Гасцьмі-сябрамі
За сталамі
Пасад занялі.

Вецер з прымаразкам бярэцца
Кнігу першых завей лістаць.
Рунь-руплівіца
Спаць кладзецца,
Каб вясной потым —
Рана ўстаць...

## ЖАЎРУК

Твой голас
І ў асенняй стыні
І боль здымае,
І тугу...
Што не спяваеш на чужыне,—
Ніяк паверыць не магу.

Хіба не той блакіт нябёс —
Цябе не ўчуць,
Не распазнаць?
Хіба няма
Празрыстых рос —
На золку
Голас паласкаць?

Не, знаю сам:
І там ёсць песні,
І досвіткаў вясновых ціш.
Чаму ж,
Расстаўшыся з Палессем,
За морам стоена маўчыш?

Хіба нялюб вясёлы грай?
Ты беражэш сябе, відаць,
Каб свой блакіт,
Каб родны край
Званчэй вясною прывітаць?..



## ГРЫБНОЕ ШЧАСЦЕ

Ты ўставаў —
Яшчэ на самым золку,
Ледзь прачнуцца птушак галасы,
Калі толькі ткаць пачне вясёлку
Раніца з праменняў і расы?

Ты хадзіў —
Зялёнай сцежкай лета,
Палявой,
Зарослай дзе-нідзе,
Да барка,
Адкуль сцяжынка гэта
У грыбную казку павядзе?

Удыхаў —
Настоены грыбамі,
Свежасцю працяты халадок?
Адчуваў —
Далоньмі і губамі
Зябкую ігліцу і лісток?

Слухаў —
Недзе над табой гулліва
Ветрык па галінках прабяжыць —
І раса,
Як дождждык шапатлівы,
Раптам абцярусіць, асвяжыць?

Быў усцешан —
З верасу, з ігліцы
Да цябе збіраліся грыбы,
І на іх выходзіў падзівіцца
Мухамор,
Цыбаты і рабы?

Быў шчаслівы —
Зноў сцяжынкай крочыў,
Ледзь прыкметнай,
Роснай, палявой,
І табе свяціла сонца ў вочы,
І здаваўся лёгкім
Кошык твой?

Калі не,
Устань яшчэ на золку,
Ледзь птушыны хор
Абвесціць збор,
І шукаць бяжы ў траве вясёлку,
А грыбное шчасце —
ў родны бор!

## СНЯЖЫНКІ-РАЗВЕДЧЫЦЫ

Сняжынка
За сняжынкаю
Злятае.
— Не боязна? —
Адна адну
Пытае.

— Чаго ж баяцца? —
Я з табой лячу.
З зямлёй сустрэцца,
Як і ты,
Хачу.

— А я ж баюся:
Прызямлімся рана —
Зямля, глядзіш,
Як трэба
Не скавана.
Яшчэ не ўсюды
Лужыны зашклёны:
Як трапімся,
Хто выручыць
З палону?

— Ой, не хвалюйся:
Вышыня за сведку —
Паслалі хмары нас
Найпершымі ў разведку.
Ляці смялей жа —
Смельчакі не гінуць!
Ляці, не бойся
Паланянкай стаць:
Нас у бядзе
Сяброўкі не пакінуць —

Услед за намі
Дружна
Прыляцяць!

## АБ ЧЫМ ПЯЕ КРЫНІЧКА

І хмарным вечарам, і ўранні —
Заўжды, як срэбра, плынь мая.
Хто замаркоціцца, прыстане,—
З глытком вады
Дам сілу я.

Журчу, жвіркам шуршу, вірую —
Такі мой лёс,
Такі мой плёс.
Дзе чысціню сваю бяру я?
У рос,
У зорак,
У нябёс.

Здалёк чуваць мой спеў вясёлы,
Ён звонкі ў спёку і ў мароз.
Дзе я бяру свой спеў, свой голас?
У траў,
У птушак,
У бяроз.

З глыбінь да сонца шлях прабіла,
Каб рады людзі мне былі.
Дзе я ўзяла такую сілу?
У роднай матухны-зямлі.
Жыць буду я, бо я — крыніца!
Квітнець зямлі,
Рунець вясне!

Бяру я сілу —
У зямліцы,
Зямля ж і людзі —
У мяне!..



# Ці свісталі ракі?





## ЖЫЛІ-БЫЛІ..

### Казка

Расказваў мне дзед мой, баюн-гаварун,
Быль-казачку гэтую, дзеці:
Нядбайла,
Няўмека,
Хітрун
І Шчырун
Жылі-пажывалі на свеце.

Братамі былі, паасобку жылі,
Займеўшы ад бацькі старога
Па добрай палосцы ўтравелай зямлі,
Каняку —
І болей нічога.
Нядбайла падумаў:

«Зямля не ўцячэ,
Няхай пачакае —
Вазьмуся яшчэ...
Можна не горбіць
Над плугам плячэй,
А можна на свеце
Пражыць і лягчэй:
Кары налуплю я,
Прадам, зараблю —
І хлеб, і да хлеба
На рынку куплю...»

Няўмека
У голаў нічога не браў:
Спачатку пасеяў,
Пасля — узараў.
«Зярнятам,— падумаў ён,
Многа ж не трэба —
Былі б толькі сонца
Ды цёплая глеба...»

Хітрун паразважыў:
«Нашто завіхацца,
З сявенькаю,
З плугам,
З канякайваждацца?
Я ўсё-ткі Хітрун,
Не цюхцяй-тугадум:
Круць-верць —
І я выйсце заўсёды знайду.

Нядбайлу кару
Я прадаць пасаблю,
Хоць трохі, а ўсё-ткі
І сам зараблю!..»

І толькі Шчырун,
Як вялося за ім,

Нібыта на стому забыўся зусім:
З сяўнёй,
З бараною па полі блукаў.
Хмурынак,
Дажджу з нецярпеннем чакаў.
Свірэпку выполваў,
Драсён, лебяду...
Сушэла —
Насіў ён з крыніцы ваду
Капусту, гуркі, буракі напаіць.
За лета
Хвілінкі не мог адпачыць.
Сябе суцяшаў ён:
«Я потым затое,
Як людзі ўсе,
Спраўлю жніво залатое...»

Трывожыла толькі:
«А як жа браты?
Маўчаць,
Быццам з'ехалі раптам куды!..»

Браты ж,
Як надумалі ранняй вясною,
Займаліся справаю —
Кожны сваёю.

Нядбайла
Прывёз у драбінах кары,
Каб трохі падсохла,
Расклаў у двары.
Успомніў пад восень,
Сабраўся вязаць —
Кара перасохла,
У рукі не ўзяць!

Хітрун завітаў,
На ўсё гэта зірнуў —

І моўчкі з двара
Да Няўмекі звярнуў.

А той, небарака,
На полі сваім
За вухам шкрабе:
— Не шанцуе зусім.
Глядзі, брат Хітрун,
Заўважай, прыкмячай:
Пасеяў пшаніцу —
Расце малачай!..

У думках аблаяў
Хітрун гультаёў,
Падумаў, паплёўся
У двор Шчыруноў.

— Дзень добры!
Як дзеткі, як жыццё, браток?
Сабраўся куды ты?..
— У пуню, на ток...
Яшчэ не змалочаны жыта, ячмень.
У госці, браток,
Запрашаю праз дзень.

Ен думаў:
Хітрун, як такое пачуе,
Наважыцца:
«Разам давай папрацуем!
Змалоцім, правеем, намелем мукі —
Лягчэй і хутчэй
У чатыры рукі...»

Хітрун жа ўхмыльнуўся,
Дахаты падаўся.
Паспаў,
Зноў у госці да брата сабраўся.

— Дзень добры!
— Дзень добры!
Прабач мне, браток,
І сёння спяшаюся ў пуню, на ток.
Аўсу засталося
Капы паўтары.
Пакуль змалачу,
Пачакай у двары.

Вярнуся —
Тады частавацца пачнём,
Пра ўсё пагаворым,
Ад спраў адпачнём.

Хітрун, раззлаваны,
Вярнуўся дадому.
Братам наказаў —
Аднаму і другому:
«Шчырун не паможа,
Скупечаю стаў.
Акрайца ўчарсцвелага
Нават
Не даў.
Каб нам не хадзіць
Да яго на паклон,
Сягоння ж пад жыта
Мы ўскібім загон...»

Шчырун,
Як дазнаўся,
Адно заўсміхаўся:
— Бач, скеміў адразу,
За розум узяўся!..

Расказваў мне дзед мой, баюн-гаварун,
Быль-казачку гэтую, дзеці:
Нядбайла,

Няўмека,
Хітрун
І Шчырун
Жылі-пажывалі на свеце...

## СВАРКА НА ГРАДЗЕ

### Казка

На градзе
Усё гудзе.
Сварка
Цэлы дзень ідзе.
Навакол —
Мітусня.
Навакол —
Валтузня.
Таўстаногі ўпарты боб
Агурка пад паху згроб.
Агурку дыхнуць няма чым
Сонца цэлы дзень не бачыць.
І ня дзіўна —
Боб дужэйшы:
На вяршок ці два
Вышэйшы.
Ды і смеласці ў яго
Трошачкі паболей:
Недалёка брат-гарох
Пнецца ўвысь паволі.
З выгляду —
Слабак гарох,
Спрыту ж, бойкасці —
На трох.
Ён сланечніку-суседу
На спіну дзярэцца,

Хоць, напэўна, добра ведаў,
Што не з тым бярэцца.
І сланечнік
Не зважае,
Толькі
Галавой ківае.

Юны кроп драмаў спакойна —
Спаць любіў ён позна,
І яго наўкол маркоўнік
Абступіў пагрозна:
— Нас і так на градцы
Густа.
Не зямля пад намі —
Пустка.
Ты ж з апошніх нашых сокаў
Вырас к сонцу, стаў высокім.
Уцякай адсюль хутчэй,
Покуль ты жывы яшчэ!..

Не ўтрымалася фасоля,
Гарбуза стручкамі коле,
Той жа не зважае вельмі,
Як драмаў — спакойна дрэмле.
Толькі раз сказаў:
— Задзіра,
Не чапай,
Прашу я шчыра.
Раззлуюся, ну дальбог,
На другі крутнуся бок,
Дык прыб'ю да грады,
Не накліч сабе бяды.

Сварку гэту ўсе пачулі.
А найпершаю —
Цыбуля.
Навастрыла мігам пікі

І пайшла на шум і крыкі,
А за ёю і часнок
Хуткаю хадою,
Паскараючы
Свой крок,
Рушыў
За сястрою.
— За каго ўступіцца нам,
Памагчы каму тут?
— Мо паможам агуркам,
Моркве шматпакутнай?
Мо памірым лепей іх,
Жыхароў гарода?
Хопіць месца тут
Для ўсіх,
Калі будзе
Згода.

І захныкалі гуркі:
— Не даруем здзек такі!
Нас сюды яшчэ насеннем
Сыпанула поўнай жменяй,
Памагаючы
Бабулі,
Унучка меншая —
Ганула.
— І мяне,— сказаў ім кроп.
— І мяне,— прамовіў боб,—
Нас усіх яна ў той дзень
На адной звяла градзе.

А здалёку ехаў гром
З цёмна-шэрай хмарай.
Барабанячы вядром,
Паліваў абшары.
Ажывілася града,
Сціхла раптам звадка.

— Гром, і нам вадзіцы дай,
Не абходзь нас, братка...
— Ну, лавіце!..— Быццам шрот,
Шапацяць дажджынак
кроплі.—
Добра моркве, добра кропу.

Напаіў раслінак гром,
Сам жа з гулкім рэхам,
Барабанячы вядром,
Зноў далей паехаў.

— Гром пад’ехаў проста
ў час,—
Шэпча брат цыбулі,—
Напаіў і іх, і нас...
Глянь, ідзе Гануля!

Не стрымаўшыся,
Часнок
Закрычаў
Яшчэ здалёк:
— Ты навошта, адкажы,
Іх усіх звяла тут?
Як далей гаротным жыць? —
Месца малавата.

Супынілася
Малая,
Траўку з градкі
Вырывае
І гаворыць: — Не крычы,
Я тады, вясною,
Ім хацела памагчы
Выбрацца на волю.
— На якую гэта
Волю?

Насміхацца
Не дазволю!
— У бабульчыных вузлах
Шмат было насення,
А збіралася яна
Вельмі мала сеяць.
Каб насенне
Не ляжала,
У вузлах
Не высыхала —
Я па жменьцы, па адной
З вузялка ўзяла вясной
Ад бабулі неўпрыкметку,
Думала, што сею кветкі.

Усміхнулася
Цыбуля:
— Ну й хітруха ж ты,
Гануля.
А града уся маўчыць,
Грозны шум улёгся.
Раптам боб як закрычыць:
— Можа, разбяромся?..
Лепш падзякуем
Дзяўчынцы,
Ёй дадзім
Свае гасцінцы.
Не яна б — ляжалі мы,
Сохлі, высыхалі,
Да наступнай бы вясны
Сонейка чакалі.

Нахіліўшыся
Набок,
Ен сарваў
Стручок-сярпок.
І гарох услед за братам

Працягнуў стручкоў багата:
— Ты часцей
Хадзіць павінна
На граду
Па вітаміны.

— Тут, на гэтае градзе,
Абяцаем шчыра,
Што заўсёды, кожны дзень,
Будзем жыць у міры,—
Прагудзела хорам
Морква,
А пасля заціхла,
Змоўкла.

І дзяўчынка на граду
Зіркае, здзіўляецца.
— Буду вам насіць ваду
Вечарамі, раніцай.
Толькі мірна ўсе жывіце,
Даспявайце
І расціце.

І пайшла. А на градзе
Шум пачуўся зноўку:
Так расце ўсё, аж гудзе —
Боб, гарох і морква.



## АДКУЛЬ У РАКА ЗЛОСЦЬ?

**Казка**

Рак —
Вядомы муцель-круцель —
Разам з крабам
Сабраў арцель.
— Я заняты заўсёды, краб,
Дык прыгледзь ты за ўсімі,
Каб:
Жаба —
Арэхі лузала,
Чарапаха —
Панчохі вязала.
А трытон,
Цягавіты і пры́ткі,
Ім падвозіў
Арэхі і ніткі.

Не забудзь,
Каб лініхі-суседкі
На стракозак
Паставілі сеткі.
Паспытаць жа арэхаў
Не грэх:
Смаката —
Вадзяны арэх!
Ды ўжо робіцца
Холадна трохі —
Хіба лішнія будуць
Панчохі?
Хіба скажуць,
Што прагны не ў меру,
Калі з'ем
Страказу на вячэру?

Мне ж дыета
Прапісана сомам,
Нашым лекарам
Самым вядомым...
Ты ж,
Як сонейка сядзе за борам,
Пакіруеш
Жабіным хорам.
Я іх спевы
Спрадвек люблю:
Закалышуць —
Да раніцы сплю.
А не будуць старацца —
Крычы!
Не шкадуй:
Падганяй,
Казычы!..

Рак —
Вядомы муцель-круцель —

Разам з крабам
Сабраў арцель.
— Ты прыгледзь за работаю, краб...

Сам жа ў схованку ўціснуўся,
Каб
Не папасці ў руку
Рыбаку.

Толькі ўвечары
Злыдзень клюшняты
Паглядзець на ўсё
Выбраўся з хаты.
Галавою круцель, круцель:
— Дзе работнікі?
Дзе арцель?

Толькі верны хаўруснік
Краб
Глей рачны вінавата
Шкраб-шкраб.
— Я стараўся,
Круціўся як мог,
Аж запарыўся,
Аж знямог...

Жаба першаю ўскліснула:
— Квах!
Мне арэхі —
Не па зубах!..

Чарапасе ж —
Старой пачвары —
Не змаглі падабраць
Акуляры.
А лініхі —
Твае суседкі —

Самі ж трапілі
Ў тыя сеткі...
Хор яшчэ не паспеў сабраць...
Што рабіць?..
— Пакараць! Пакараць!..—

Рак
Чырвоным зрабіўся ажно,
Вус наставіў,
Нібыта ражно:
— Сцеражыцеся, небаракі,—
Пакаж-жу
Дзе з-зімуюць
Р-ракі!..

## СМОЎЖ-АШУКАНЕЦ

### Казка

Надакучыла коніку
Без прытулку скакаць
І зялёныя штонікі
У расе паласкаць.

«Меў бы хатку хоць нейкую,
Свой куточак,
Свой дах,—
Не гібеў бы залеваю
У траве,
У кустах.
Нават спёку паўдзённую
Мог бы перачакаць...
Цвёрда вырашыў сёння я —
Домік буду купляць!..»

І пачаў
Па расіначчы
Конік срэбра збіраць:
Стаў за плату
На скрыпачцы
Ен ад раніцы граць.
На канцэрты ягоныя
Луг збіраўся
Уміг!
«Лугавая сімфонія»
Зачароўвала ўсіх.
Падсабраўшы на домік,
У адзін летні дзень
Зноў задумаўся конік:
«Хто прадаў бы?
І дзе?..»

Надвячоркам,
Спаткаўшыся
У цішыні лугавой,
Жук параіў,
Дазнаўшыся
Пра задумку яго:
— Домік бачыў цудоўны я
Смоўж стары прадае.
Сцены, дах —
Адмысловыя,
Нават град не праб'е!
— Дзе ж ён?
— Там быў, ля лужыны
Прабяжыся, пабач...

І, навінай узрушаны,
Рушыў
Конік
Наўскач!

Смоўж,
Дачуўся нібыта ўжо,
Дом насустрач валок.
Дом здаваўся кібіткаю:
Не шырок,
Не высок.

— Старасць, браце мой,
Сведкаю,—
Прадаю,
Так яно:
Для харміны гэткае
Сіл бракуе даўно...

А пасля ўжо,
У прыцемкі,
Толькі торг правялі,
Смоўж да коніка ціхенька:
— Хоць на ноч прытулі...
З першым ранішнім сонейкам
Раскатурхаўся смоўж,
Але з доміка
коніка
Ні на крок
Не папоўз.
Рожкі-вусы, як дроцікі,
Натапырыў, навёў,
Бліснуў мокрым жывоцікам,
Зноў гаворку павёў:
— Пакідаць цяжкавата мне
Свой абжыты куток...
Бачыш,
Стаў стараваты я
І нямоглы, браток.
Можа, домік абодва мы
Будзем чынна цягаць?
— А навошта?

Па-мойму,
Ён павінен стаяць!..
— Эх, як бачу я, братка,
Ты не скеміў, аднак:
Я без гэтае хаткі
Не магу аніяк!
Будзь са мною лагодненькі
Як змагу,
Памагу:
Кут,
Утульны і цёпленькі,
Я заўжды зберагу...

Добры конік
На жартачкі
Звёў гаворку спярша,
Думаў,
З доміка-хатачкі
Неяк выпхне смаўжа,
А стары,
Уздыхаючы,
Як забраўся ў жытло,—
Дзень сапе,
Спачываючы:
Даспадобы цяпло!

Конік выскачыў з доміка:
«Ашукаў!
Што ж рабіць?»
Мушкі ўюцца ля коніка,
Камарэча звініць,
Ды прызнайся катораму,
Раскажы пра бяду,
Будзе
Сораму-сораму,
Засмяюць на хаду!..

Крыўдна беднаму коніку —
Незалежным слыве.
Ен жа ў купленым доміку
Кватарантам жыве.
Выйдзе сонечнай раніцай
На лужок пагуляць,
Надвячоркам вяртаецца,
А дамка —
Не відаць:
Смоўж,
Як спёка абрыдзее,
Не сядзіць —
Да вады!
А назад жа ці прыйдзе ён?..
Дый пацёгся куды?..

Ой, не хочацца коніку
Позна
Лугам
Скакаць
І зялёныя штонікі
У расе паласкаць!

Але ўсё ж такі змушаны
Цмыгаць —
Падаць, ляцець,
Потым,
Зморацы, змучаны,
Пад лісточкам
Трымцець...

Калі раптам спаткаецца —
Скача ўпоўдзень
Лужком,
Не лаві:
Ён спяшаецца,
Ён шукае
Свой дом.

## ЖЫЎ-БЫЎ ЛІСТОК-ПАЛАХЛІЎЧЫК

### Казка

На тапаліным голлейку,
П'ючы зялёны сок,
Жыў палахліўчык —
Кволенькі,
Зялёненькі лісток.

Сваволіць ветрык стане —
Ен хмурыцца адно.
А хмарка з неба гляне —
Ен скурчыцца ажно.

Пад дожджыкам памыцца?
А што тады, пасля?
...Аднойчы навальніца
Наскочыла здаля.

«Ой, жыхнула маланка!
Ой, гром загрукатаў!..» —
І ад
Неспадзяванкі
Лісток затрапятаў.

Над ставам,
Над таполяй
Вятрыска праляцеў,
Нібы лісточак з голля
Схапіць,
Сарваць хацеў.

Вятрыска,
Свежы, волкі,
Пранёсся і прыціх.

І стала раптам
Золка,
І стала цёмна ўміг.

І сцяўся палахлівец,
І дробненька дрыжыць:
«Ой, хлыне, стукне лівень —
І мне, відаць,
Не жыць!..»

Зашастала галінка:
«Ты не трымці, браток.
Ты пацярпі хвілінку,
Ты не ўцякай, лісток!..»

«Ой, кіньце, кіньце кпіны,
Ой, кіньце жарты, смех:
Як не ўцяку —
Загіну...» —
І ён пабег, пабег...
Дождж —
Бліжэй.
Лісток дрыжыць.
Ад яго —
Бяжыць,
Бяжыць.
З перапуду
Азірнуўся —
З месца
Нават
Не скрануўся!
Зразумеў бядак
Пасля:
«Гэта ж ножка
Прырасла!..
Ой, ратуйце,
Ой, загіну!..»

Раптам —
Кропля
Бух у спіну!
Да галінкі
Ен прыткнуўся —
Не ўтрымаўся,
Спатыкнуўся!
І знямог
Ад страху ўраз:
«Дождж саб'е,
Затопча ў гразь...»
А шчодры дождж па голлі,
Як мог,
Сцябаў, скакаў,
Лістоту на таполі
І мыў,
І паласкаў.

Быў рады
Свет зялёны —
Дождж цёплы,
Дождж густы:
Аж пляскалі ў далоні
У такт дажджу
Лісты.

Ды палахлівчык толькі
Ад жудасці
Аж млеў:
Ой, сціхні, золкі, колкі!
Ой, згінь,
Каб я ўцалеў!..»

І сціхла навальніца,
І ліўнем адгула.
Вясёлка-чараўніца
Масток свой навяла.

Зноў жаўранка прымоўклага
Званок звініць, дрыжыць.
Лістота ж
Блузкі мокрыя
Развесіла сушыць.

Іскрыцца свет абноўлены
Ад зыркіх прамянёў.
І палахліўчык,
Стомлены,
Ажыў ад сонца зноў.

Адчуў —
І сам не верыць:
Мацнейшым
Раптам стаў!
Ад радасці бязмернай
Лісток
Затрапятаў.
Галінка ж: «Ты адважна
Трымаўся, братка мой.
Цяпер не будзе страшна —
Прайшоў
Праз лістабой!..»

Зноў страпянуўся, ценькі,
Ад шчасця затрымцеў:
«А я ж дажджу, дурненькі,
Баяўся,
Не хацеў...»



## БЫЛО Ў ЗІМЫ ТРЫ СЫНЫ

### Казка

Прыпынілася Зіма
У дуброве звонкай.
Падшывае дацямна
Дратваю валёнкі.
І бубніць сабе пад нос
Песеньку, старая,
Як вясёлы Дзед Мароз
Па зямлі блукае.

Як будуе ён масты
Без цаглін і паляў,
Каб завеі наўпрасты
Па зямлі гулялі.
Пра свае спявае сны…
А ў даўгія ночы

Каля печы, спяць сыны
І ўставаць не хочуць.

Вось накрыўся з галавой
Снежань —
Сын старэйшы.
Ён з усіх яе сыноў
Самы лагаднейшы.

Хоць сярэдняга няма,
Але хутка будзе.
Добра ведае Зіма,
Што дзяжурыць Студзень.

Вунь пад коўдраю прыціх
Сын апошні — Люты,
Хоць малодшы ён за ўсіх,
Ды занадта люты.
Лютым хваліцца заўжды
Чараўніца злая
І па свеце халады
З меншым пасылае.

Каля Лютага сядзіць
Да світання моўчкі.
Развіднелася —
Будзіць
Пачала сыночка.
— Уставай і — за парог! —
Кажа маці строга
І кладзе ў кішэнь пірог
Сыну на дарогу.

Выйшаў Люты,
Паглядзеў,
Пахадзіў ля хаты.
Бачыць,

Дзед Мароз ідзе,
Белы, барадаты.
— Ну, унучак мой,
Пайшлі.
Потым пагаворым...

Па заснежанай раллі
Праз лугі, азёры
Ходзіць Люты,
Ў кожны кут
Зазірае пільна,
Абсыпае кожны куст
Зіхатлівым пылам.

Праляцела дваццаць дзён.
Шлях ляжыць на поўдзень.
Ды на стрэчу з поўднем ён
Нізашто не пойдзе:
Там чуваць вясёлы крык —
Сцюж спыніўшы рогат,
Выпраўляе Сакавік
Птушак у дарогу...

Паспрабуй змагацца з ім,
Не ўстаіш ніколі.
Люты змогся ўжо зусім —
Сакавік адолеў...

Да свайго прыйшоў двара,
Стукнуў грозна ў дзверы:
— Ну, браты мае,
Пара
Нам мяняць кватэру!

## ДРАЧ ЗГУБІЎ СВАЮ ДУДУ

### Казка

Ладзіць драч сваю дуду —
Вечарам ігрышча.
Як на гора,
На бяду,
Штось дуда не свішча.
Перапёлка кажа:
— Кум,
Маю прапанову я.
Падбяжы к цецеруку —
Зробіць дудку новую.
Сам жа знаеш:
Цэлы дзень
Не працуе ён нідзе.

Цецярук чамусь не браўся.
Доўга муляўся, ўпіраўся.
— Можа б,— кажа,— дружа, ты
Пачакаў да серады?
Нідзе дзенецца ігрышча.
Бачыш, толькі з такавішча.
Адпачыць хацеў бы троху...
— Дам табе сяўню гароху,
Грэчкі з просам па пуду,
Толькі ты змайструй дуду,—
У адчаі просіць драч,—
Вечарынку ж трэба граць.
— Добра, добра, ўгаварыў,
Ёсць гатовая, бяры!

Заіграў драч на дудзе,
Свішча, выпрабоўвае.
— На гульні не падвядзе
Дудка адмысловая!

А як толькі дзень патух,
Выпала раса ўся,
На суседні дальні луг
Драч з дудой падаўся.

Надта ж доўга прымяраць
Дома фрак прыйшлося,
І цяпер спяшаўся драч,
Бег цераз пракосы.

Бег да хмызу напралом,
Падаў, падымаўся,
Спахапіўся —
Пад крылом
Больш дуды няма ўжо!..

Драч у роспачы такой
Аж прысеў на купіну:
— Ой, згубіў дуду я, ой,
Толькі ж сёння куплена!
Коніку браце, памажы!
— Ты па следзе прабяжы.
— Бег я жытам, па пракосах,
Асыпаў з асокаў росы,—
І цяпер слядоў не ўбачыш.
— Знойдзем дудку,
Што ты плачаш!

Конік бегаў па расе,
Покуль не змарыўся.
— Знойдзе хто,
Дык прынясе,
Спаць ідзі кладзіся.
— Спаць пайду,
Калі знайду,—
Кажа драч насуплена,—

Хто знайшоў маю дуду?
Толькі сёння куплена!
Перапёлка не стрывала,
Злосна, злосна пракрычала:
— Годзе, драч,
Глотку драць!
І табе пара ўжо спаць!..

— Не дуда была, а цуд,
Заплаціў так многа:
Грэчкі пуд,
Проса пуд
І сяўню гароху.
— Драч, ты ўжо ж ахрып даўно,
Пацярпі да раніцы...

Ен жа бегае ўсю ноч,
Пра дуду пытаецца.

## ЧУТКА

### Казка

Цераз гай,
Хмызняк густы,
Бегма
бегла
чутка:
— У сарокі — два хвасты,
Трэці будзе хутка!

Як пачула гэта сойка,
Пачала адразу войкаць:
— В-вой, в-вой!
Ну і ну!
Палячу хутчэй зірну!

Перастаў і дзяцел грукаць
— Тры хвасты...
Вось гэта штука!
Трэба, мусіць, паглядзець.
Дзе ж яна?
Куды ляцець?

— У асінніку сарока.
Гэта блізка,
Недалёка.

...У асінніку, ў глушы —
Птаства,
Як на кірмашы.
Толькі чутна:
— Ш-ш-шы!
— Ш-ш-шы!
— Ш-ш-шы!

Перашэптваюцца птушкі:
— Хвост
            адзін
                        у балбатушкі..

А сарока незалежна
То стракоча,
То даўжэзным
Па галінцы б'е хвастом...

— Хто ж у зман увёў нас?
Хто? —
Раззлаваўся,
Як сякерай,
Цюкнуў дзюбай
Дзяцел шэры.

І правухкала сава:
— Гэта ўсё

Яна сама.
Я на досвітку не спала,
Добра чула,
Як лятала
Даўгахвостая па ўзлеску,
Распускала гэту вестку.

— Ты сама?..
— Даруйце мне:
Я — загаварылася.

Гэта чутка да мяне
За ракой прыбілася.
Не зманіла б вам усім,—
Кажа белабока,—
Ды забыла я зусім,
Што сама — сарока...

— Правучыць! — кігікнуў хтосьці.
— Абясхвосціць!
— Абясхвосціць!

— Трэба выселіць трашчотку
За язык дурны,
За плётку...

З гаю выгналі сароку,—
І пляткарка тая
Ад сяліб непадалёку
З тых часоў лятае.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ЎРОК

### Казка

Аддаць Пушка ў навуку,
Каб ён вучыўся, рос,
Аддаць любімца-ўнука
Рашыў стары Барбос.

Казаў дзядуля басам:
— Палёгкі не прасі!
Хоць будзе цяжка часам —
Навуку ўсё ж грызі!

І да альтанкі ўвішна
Трушком пабег Пушок:
Пявун-настаўнік зычна
Пазваў малых на ўрок.

Пушок сяброў у класе,
Равеснікаў спаткаў:
Жучка,
Трызорку,
Ваську —
Суседскага катка.

Каб клопату пазбыцца,
Таўстунчык-парсючок
І ранец, і карытца
У школу прывалок.

Чародкай кураняткі
Пішчалі ўсё дружней:
— Мы ў школу на заняткі
Прыйшлі за ўсіх раней…

Калі ж урок пачаўся,
Адразу клас прыціх,

Ніхто ўжо не шаптаўся —
Настаўнік жа пры іх!

Спярша буквар гарталі,
Чыталі пакрысе,
Бо алфавіт не зналі,
Чытаць маглі не ўсе.

Пушок чытацкай хваткаю
Сяброў ажно здзівіў.
...Урокам матэматыкі
Урок наступны быў.

Трымаў настаўнік кніжку,
Чытаў працяжна крышку:
— Рашыце мне задачу.
Хто кемны з вас,— пабачу.

«Курка на рынак схадзіла,
Жменьку зярнят купіла.
Жменьку зярнят купіла,
Дзеткам усё падзяліла.
Дзевяці кураняткам
Папала па два зярняткі.
Адно ад чародкі адбілася —
І на дзяльбу спазнілася.
Колькі было зярнятак?
Колькі было куранятак?..»

Шапнуў Трызорка ў злосці:
— Задачкі не зраблю!
Ні слова ў ёй пра косці,
А іх я так люблю...

І Васька скоса глянуў:
— Задачка — не мая!
Чаму не пра смятану? —
Люблю смятану я...

Чамусьці хмура зіркнуў
І парсючок тады:
— А я люблю зацірку,
Смачней няма яды...

І толькі кураняткі
У куртачках рабых
Падлічвалі зярняткі
Наперабой, услых.
І спачувалі:
— Мала
Зярнят малым папала!..

А дзе ж Пушок?
Ён моўчкі
Стараўся, шчыраваў:
На чысценькім лісточку
Складаў і адымаў.

І чуў дзядулеў бас ён:
«Палёгкі не прасі.
Хоць будзе цяжка часам —
Навуку ўсё ж — грызі!..»

Ён спасцігаў заўзята
Сакрэт задачкі той.
— Ты чым, Пушок, заняты?
А дзе ж
Аловак твой?..

Пушок панік,
Аж сцяўся,
Адразу — вочкі ўніз.
— Даруйце... Я стараўся —
І... і... аловак... згрыз...



## СЫЧОВА НАВУКА

### Казка

У дупле старым, глыбокім —
Лепшага не зыч —
Жыў на дубе вірлавокі,
Кіпцюрасты Сыч.

Нават азбукі не ведаў,
Сыкаў
«Сы» адно.
Хмура зіркаў на суседа,
Хоць і знаў даўно.

Недалёка доктар Дзяцел
Жыў і працаваў.
У ягонай светлай хаце
Свет перабываў.

Сыч яму зайздросціў дужа —
Паважаны ён:
Лечыць дрэвы,
Лечыць птушак
У бары здавён.

«Я таксама б меў святліцу,
Паважаны быў,
Каб хацеў калісь вучыцца,
Меней лынды біў…

Можа б, фельчар атрымаўся,
Можа б, я лячыў…» —
Думаў Сыч,
У цень хаваўся
Ды гады лічыў.

І наважыўся аднойчы:
— Не зраблю прамашкі двойчы!
Не стары яшчэ,
Не здамся,
На вучобу
Сам падамся!
Сам, як тая дзетвара,
Я пачну ўсё з буквара…

Сонца села ў голле дуба,
Спахмурнеў гушчар.
Водзіць Сыч спрасонку дзюбай,
Разгарнуў буквар.

— Дзе тут «А»,
А дзе тут «Я»?
Нешта іх
Не знаю я…

Бор густы ахутаў змрок.
Ціха — чуцен кожны крок.

Чуцен крылаў кожны шолах.
Аганёк блішчыць.
На святло вячэрняй школы
Сыч здалёк ляціць.

Сыч спакойна ўрок даседзеў.
Слухаў — нельга лепш.
Добра нават не прыкмеціў,
Як прыдумаў верш:
«Буду я старацца, в-вух!
Буду ўсё рабіць за дв-вух!..»

А пачаўся ўрок другі —
У вачах пайшлі кругі.
Голад стаў пячы ў дадатак —
Дзе Сычу ўжо да заняткаў?!

І падумаў Сыч: «О не!
Школа ўсё ж —
Не для мяне.
Гэтак можна ж
Заняпасці,
Гэтак можна ж
Крылле скласці!

Хай дзятлы дзяўбуць навуку,
Я ж не буду гнуцца крукам...»

Сыч папіў з лістка расы —
І забыў аб школе.
Кажа:
— Добра знаю «Сы» —
Гэтага даволі!

## ПРЫГОДЫ ЦАГЛІНЫ

### Казка

Па шашы бягуць машыны.
«Ша-ша-ша...» — шапочуць шыны
Лёгка ім,
Хаця і з грузам —
Нагрузілі цэглы ў кузаў.

А цагліны, а цагліны
Уздыхаюць штохвіліны.
— Ой, куды вязуць, куды?
— На будоўлю,
Як заўжды...

І тады адна прапела:
— Трапіць я ў палац хацела б...
— Мне б у дом жылы...
— У дзетсад...
— У бальніцу...
— Школу...

Шмат цаглін,
Жаданняў шмат —
Шум пайшоў вясёлы.

— Добра ехаць па шашы нам...
Але раптам: г-гах!
Гэта ўз’ехала машына
На няроўны шлях.

— Ой! — у роспачы-адчаі
Ўсе цагліны закрычалі.—
Мы ж
Пакрышымся, паб’ёмся,
Покуль гэтак дабяромся! —

І адна з іх,— ці ж драмала,
Ці ж таго хацела?
Глуха войкнуўшы,
Упала —
У кювет зляцела!

Сум-туга ўзяла цагліну:
«Раскрышуся тут, загіну...
Дзе цяпер мае сястрыцы?
Трэба ж мне было зваліцца!..»
А закапаў дождж — зусім
Боязна ёй стала:
« Я ж у слоце, у гразі
Вытрываю мала...»

Раптам чуе — штось гудзе,
Недалёка, побач.
«Грузавік
Сюды ідзе!..
Можа, блізка помач?..»

Хоць трохтонка й газавала,—
Ды ў гразі забуксавала.
Дзверцы — грук!
Шафёр саскочыў.
Шлях праверыў, потым збочыў.
Прыцягнуў галля, ламачча,
Выехаў —
Цагліну ўбачыў...

— Мусіць, моцнаю ўдалася:
Трэшчынкі ніводнай!
На будоўлю, да калгаса
Падвязу ахвотна...

Ліпы гонкія прысад,
Вокны хат прабеглі.

На пагорку жоўтым шмат
І пяску, і цэглы.

Падсабляе аўтакран —
Аж гудзе пляцоўка —
Маладым будаўнікам,
Хлопцам у спяцоўках.

Тармазнуў шафёр, сказаў:
— Ёсць у хлопцаў хватка! —
На далонь цагліну ўзяў,
Гушкнуў, як дзіцятка...
Абышоў ён пляц наўкола.
— Што тут будзе?
— Будзе школа...
— Знаеш, дружа-брыгадзір,
На!
І гэту пакладзі.
Месца ёй адно — ў падмурку:
Моцная ўжо вельмі...
— Пакладу,— ўсміхнуўся муляр,
Шкрабаючы кельмай.

І яна ад той гамонкі,
Пад рукой увішнай —
Зноў сябе
Адчула звонкай,
Залатой, не лішняй!

## ПРАДАВАЛА ВОСЕНЬ ЖУРАВІНЫ...

### Казка

На ўзбалотках,
Выспах жураўліных
Восень

Прадавала журавіны.
Поўнымі кашамі
Прадавала,
А за іх
Ва ўсіх прасіла, брала
Золатам і клёнаў, і бярозак...

— Адкуплюся ім я ад Мароза.
Можа, ўдасца —
Са старым дамоўлюся:
Застанецца да зімы
На полюсе.
Можа, затрымаю,
Хоць на тыдзень,
Бо калі раней
У край наш прыйдзе,—
Кволенькая рунь
Заўчасна зляжа,
Што мне потым Жнівень скажа?
Можа, дожджык золкі ўгавару я:
Пацішэе,
Меней пашчыруе —
І святлейшымі світанкі будуць,
Людзі ў бор
Сцяжынкі не забудуць,
Дзе наўкол —
Апенькі і зялёнкі...
Лес люблю я
Не глухі,
А звонкі...

* * *

Таргаваўся найпершым Верасень,
Ен прыглядваўся доўга, прымерваўся —
Шкадаваў залатовак новых,
Самай лепшай чаканкі, кляновых.

Але ўсё ж раскашэліцца мусіў:
— Забірай да лістка,
Не скуплюся!..
З груш і яблынь падсыплю я шчодра.
Дзе кашолкі для ягад?
Дзе вёдры?..

* * *

Журавін агністыя каралі
На куп'і ірдзеліся, блішчалі.
Іх тугія дробныя лісточкі
Дол абселі,
Нібы матылёчкі.
Завіхаўся Верасень руплівa,
Радавала вогненнае жніва,
Жніва журавіннае, багатае...
Браў зялёныя
І драбнаватыя:
Дойдуць,
Падружовяцца,
Не згінуць.
Ягады сабраць
Найлепей, чым пакінуць.
Верасень шмат соку з ягад зробіць.
На зіму
І на ўсё лета хопіць!

* * *

Таргаваўся Кастрычнік дасведчаны,
Ен ад золата ззяў, бы расквечаны.
Але знаў, што нядоўга такое —
Заходзілі вятры талакою.
Той — лагодны,
А гэты сцюдзёны,
Як сустрэнуцца,—

Вэрхал шалёны!
Аніхто з іх не хоча паддацца.
Пачынаюць скубціся, ганяцца.
Абшарпаюць у мэтлух сарочкі
І лясы абтрасуць да лісточка.
З рук чырвонцы апошнія выхапяць,
Імі сцежкі празяблыя выгацяць.

Таргаваўся Кастрычнік мала —
Падагнала вятроў навала...

* * *

Лістапад жа
Покуль дабіраўся,—
На імхі
Туман густы праслаўся.
Каб на доле ўбачыць журавінку,
Трэба прыглядацца безупынку.
Але ўсё ж наважыў,
Хоць і позна,
Прыхапіць надзельчык:
— Бачу, можна...
Бедным не палічыш Лістапада,
Золата ў яго
Заўжды багата.
Ен, як той купец,
Што меў кладоўкі,
Па зямлі
Рассыпаў залатоўкі,
І вятрыска іх,
Нібыта смецце,
Варушыў і размятаў па свеце.

* * *

Лістапад
Пра цану не пытаўся,

Каля вуха не шкроб,
Не таптаўся.

Завітаўшы ў палац да Восені,
Ён прынёс фарбы
Светлай просіні:
— Хоць спазніўся,
Прашу ад сэрца:
Журавін мне прадай
Хоць вядзерца...
— Дзе ж ты быў?
Дасталося б мо болей...
— Будзе мне на кісель —
І даволі!..

Засмяялася Восень прастуджана:
— Значыць, гэтак прыродай суджана...

З Лістападам пакуль разбіралася,
Непрыкметна
Зіма падкралася.

Умяшаўся у гандаль Снежань:
— Мне б яшчэ
журавінак свежых!

Іх падслухаў
Прастуджаны Студзень:
— Ну, а мне жменька ягадак будзе?

А за імі не вытрымаў Люты:
— Я ж таксама не ў лапці абуты!..

— Чым заплоціш?
Настылым лёдам? —
Упікнуў яго Снежань,
А потым

Ускараскаўся ён на дуб,
Залатовак сабе наскуб.
Глянуў долу,
Братам растлумачыў:
— З вамі ўжо мне дзяліцца
Няма чым...

— Злазь! — як полазам, рыпнуў Студзень.—
Можа, хлопцы, сварыцца не будзем?
Разам купім
Сотню купін.
Разам жніва правесці павінны
Мы на ўчастачку тым журавінным...

— Не, свайго не ўпушчу я ніколі.
Аднаму — будзе трошачкі болей,—
Не згадзіўся малодшы з іх — Снежань.
— Пачакай жа, пранырa і лежань!..

Ускіпелі браты,
Усхадзіліся,
За чубы,
Як за грывы, схапіліся...

Азірнуліся потым навокал —
За сумётамі Восень, далёка.
Журавіны, што кінула спехам,
Да лісточкаў прымерзлі пад снегам.

* * *

...Сакавік прайшоў
Па першых лужынах.
Засінеўся далягляд асмужаны.
А на ўгрэўках,
  Выспах жураўліных,
Жуpавоў
Чакалі журавіны.

## ЛЯСНАЯ СТАЛОЎКА

### Казка

Каб лягчэй прайшла зімоўка,
Лось параіў грамадзе:
— Трэба нам, сябры, сталоўка,
З ёй ніхто не прападзе.
Там, дзе школа,
Там, дзе клуб,—
Мы паставім новы зруб!

Навіну пачуў мядзведзь:
— Мне — дык можна
Не пацець.
Мне бярлог —
І зал, і кухня.
Лапа — ўсё маё меню.
Ані тлуму, ані мух мне,
Зімку сплю,
Мядочак сню.
Ды лайдачыць
Не магу:
Трэба помач —
Памагу!

Лось аббег, сабраў брыгаду,
На дзялянку ўсіх павёў.
А за імі,
Следам, ззаду,—
Цэлы гурт
Сяброў-баброў.

— Ці ж сядзець
У хатках нам?
Вы ж —
Суседзі нам, бабрам!..

Напачатку лесарубы
Для падвалін і для шул
Павалілі дружна дуба —
Аж, як гром,
Пранёсся гул!

А сарока: — Чы-чы-чы!
Лось,
Асіны не сячы,
Бо з яе
Нядобры дух...
Дзе янот? —
Лягчэй жа ўдвух...

Дзік-сякач
Карыў бярвенне,
Падсабляў, як мог,
Бабрам,
А Міхайла з утрапеннем
На плячо іх
Спрытна браў.
Нёс да пляца,
Нёс паволі —
Не разгонішся,
Не ў полі!

А на пляцы, а на пляцы,
На заваленым двары
Трэск стаяў —
Кіпела праца:
Бёрны рэзалі бабры.

Не пілой,
Не абы-як,
А зубамі —
Шчыра, ўсмак!

...Дзік прывёз воз цэлы моху —
На імшарыне надзёр,
Шчыры вожык —
Лісця троху
Прывалок на пляц, у двор.

Ен запыхкаўся:
— Пых, пых!
Можа, зробім
Перадых?..

Зранку дружна
Без падмен
Зруб рубілі — пяцісцен.
Сыч
Таксама не гуляў,
Пляц уночы вартаваў.

Не прыкмецілі,
Калі
Кроквы гуртам паднялі.
Завіхаліся да зорак
Цесляры —
Мільён турбот!
Прыступілі у аўторак
Да аддзелачных работ.

Час прыспешваў
Іх работу —
Уваходзіны ў суботу!

...Лось пазы вычэрчваў рогам,
Зай стамескай шчыраваў,
Дзяцел-зух
Лісцём і мохам
Шпарка сцены шпакляваў.

Заяц хвацка:
Стук ды стук!
Дзяцел гулка:
Тук ды тук!

Спец-барсук прыладзіў ганак.
Воўк — прывёз
Пліту, балон.
— Гуляшу згатуй на ранак,—
Падказаў зайчысе ён.

— А далі дазвол
На газ?
— Не хвалюйся,
Сёння ў час
Газаслужба будзе ў нас...

Пляц лісіца падмятала,
Дзе — мятлой,
А дзе — хвастом.
А сарока лапатала —
Памагала... языком.

* * *

...Завіруха вые воўкам,
За насы мароз дзярэ.
Цёпла дыхае сталоўка,
Пара — воблакам з дзвярэй.

Гэты — выйшаў.
Той — забег.
Дзверы —
Як настылы снег:
«Рып-хрып, шась-трэсь,
Напралом
Не лезь!..»

За сталамі піск, гамонка:
Шмат малечы
Кожны дзень.
Бразгацяць відэльцы звонка,
Месца вольнага —
Нідзе!

Што ні сподак —
Акурат
Тэлеграфны апарат.
«Тук-тук-тук!» —
Чуваць бясконца:
Дзюбы стукаюць
У донца.

Зай, ахвочы да салаты,
Рассадзіў сям'ю ладком.
Труць капусту зайчаняты —
Нос і вушы хадунком!

Толькі сыч
З савой-суседкай
Заглядаюць дужа рэдка,
Бо, як цемра
Ляжа густа,
У сталоўцы
ўсюды пуста!

Крыжадзюб схаваў
Катлеткі —
Ен абед на дом бярэ.
Засталіся дома дзеткі,
У гняздзечку,
На двары.

І сарока прыляцела:
Холад,
Есці захацела.

— Ой, сястрычкі,
Свет нямілы!
Ледзьве я
Данесла крылы!
Можа, знойдуцца —
Чы-чы! —
Для сарокі ў вас харчы:
Блін гарачанькі, катлетка?
Я ж не госць,
Не дармаедка:
Як сталоўку будавалі,—
Шчыра ўсе мы працавалі!

Ды раздатчыцы-сінічкі
Зналі добра ўсё, відаць.
— З сырам любіш блін пшанічны?..
— Можа, крупнічку падаць?..

Пырхаюць,
Цвіркочуць шустра,
А ў сарочым сподку —
Пуста!

Не сцярпела балбатуха,
Лыжкай — бух, як малатком:
— Хопіць, хопіць
Казкі слухаць:
Сыт не будзеш языком!

Ды зайчыха цётка Зіна,—
Ветлым поварам была,—
Ёй з намёкам,
Незласліва
Добра водпаведзь дала...

...Каб лягчэй прайшла зімоўка,
Лось параіў грамадзе:

— Трэба нам, сябры, сталоўка,
З ёй ніхто не прападзе.

І стаіць сталоўка тая
На палянцы баравой.
Шчыра ўсіх яна прымае…
Можа, вы бывалі ў ёй?



**ЗАХВАРЭЎ АДНОЙЧЫ ЛЕЎ**

**Казка**

Леў
Ангінай захварэў.
Стаў нервовы,
Пазвярэў.
Люта шчэрыцца,
Хрыпіць.
А звяры ўсе:
— Што рабіць?

Воўк вярнуўся
З пахады:

— Годзе выць на ўсе лады!
Годзе нам
Варон лічыць —
Трэба Льва
Хутчэй лячыць!

І пайшлі да Льва звяры,
Па адным,
Па два,
Па тры:
— Што турбуем —
Не сярдуй,
Лекаў нашых паспрабуй.

— Будзе скончана з ангінай,
Як пап'еш
Чайку з малінай.

— Памагае — не сакрэт —
Ад прастуд
Ліповы цвет...
— Залатога мёду спадак
Ад любой хваробы —
Сродак...

Леў крывіўся,
Зіркаў злосна:
— Мне ад вашых лекаў млосна.
Мяса мне
Далі б з паўпуда —
І прайшла б даўно
Прастуда!..

Дзік стары
Здзівіў нямала —
З бульбай кадку прывалок.
Бульба густа паравала —

Леў
Ажно ступіў убок.

— Ты не хмурся,
Ты не чмыхай —
Парай цёплаю падыхай,
І за дзень
Твой хрып міне,
Век удзячны будзеш мне...

Леў
З дзіком згадзіўся хутка,
Сеў над бульбаю
Ціхутка.
Потым піў
Адвар маліны,
Каштаваў
Мядок пчаліны.
Лекі ўсе
Прыняў ахвотна,
Спаць улёгся
Бесклапотна...

Пелікан —
Прызнаны фельчар —
Завітаў да Льва
Пад вечар.
Добра выслухаў яго,
Добра выстукаў яго,
Загадаў:
— Скажы мне «а-а-а»...
Леў сказаў
І раз, і два...

Але раптам як зароў:
— Ды які ж я цар звяроў?!
Я ж не львом

Ужо зрабіўся!
Дзе мой грозны
Хрып згубіўся?
Хто ж мяне
Баяцца будзе?
Хто ж паклоны
Біць мне будзе?
Больш лячыцца
Не згаджуся.
Лепш хрыпатым
Застануся!..

Каб ізноў ахрыпнуць,
Леў
Порцый сем
Пламбіру з'еў.
Ходзіць хмуры,
Ходзіць злосны,
Голас —
Грубы,
Невыносны.
Чорнай хмарай —
Поўсць на карку.
— Што мне зёлкі і прыпаркі?!

Лепш
З ангінаю бадзяцца,
Лепш
Няхай мяне баяцца!..

Можа,
Чулі рык яго вы?
Леў
І праўда ж
Нездаровы?

## ЦІ СВІСТАЛІ РАКІ?

### Казка

Надвячоркам пад карчом
Вёў нараду
Тоўсты Сом.

— Трэба пільна вартаваць
Нам свае ўсе сховы.
Калі што —
Хутчэй свістаць:
«Побач рыбаловы!»

Плоткам нашым
Сама горш
Стала жыць, нясмелым...
— А свістаць хто будзе?
— Ёрш,
Ён — свістун умелы.

— Не хачу! — адрэзаў Ёрш.
Я адзін тут,
Ракаў — больш...

— Мы б з ахвотаю, дружок,
Ды свістаць не ўмеем.
Пакажы нам
Хоць разок —
Можа, адалеем...

Ноч, а ракі
Муцяць муць,
Сон прапаў у многіх:
Дно аж клюшнямі аруць,
Свісту ж
Не чутно іх!

І сказаў старэйшы Рак,
Зморана-пунсовы:
— Хопіць!
Пражывём і так,
Без
сама-
ахովы.

Мы ж не плоткі-небаракі,
А — учэпістыя ракі.
Мы з бяды
Не горш за рыб
Можам выбірацца...
Хто б ні браў іх
І калі б,—
Ракі не баяцца.

Не глядзяць —
Бяда адкуль.
Кожны —
Храбры малец:
Толькі сунь руку
ў раку —
Ён —
Хутчэй за палец!




## НОТКІ-ЛЯНОТКІ

**Не то казка,**
**Не то быль**

Як сонечным зайчыкам ранак
Заглядваў у залу,— тады
Матуля-фартэпіяна
Іх звонка будзіла заўжды:
— Вы чуеце крокі?
Ужо недалёка.
У нашай Ірынкі —
Пачатак урока...

І першаю ўскоквала ДО —
Дачушка, няўседа з няўсед,
І ўжо не драмаў аніхто —
За ёй прачыналіся ўслед.
І чулася звонка

Па доме ўсім:
— ДО-
РЭ-
МІ-
ФА-
СОЛЬ-
ЛЯ-
СІ...

А з імі — ужо без прынукі,
Бадзёра, нібы на паверцы,
Чароўныя гукі —
Музычныя гукі —
Краналі
І цішу,
І сэрцы.

І песня крылата ўзлятала.
Спявала дзяўчынка,
што
І з музыкай сябравала,
І з ноткамі — як ніхто!

— Над рачулкай, над лужком —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!
Хмурым днём
Праехаў гром —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!

Я за рэчку ў луг пайду —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!
Па вясёлцы перайду —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!..

Ды трэба ж! —
Аднойчы маўкліва і змрочна
Зрабілася ў доме тым.

А ноткі як нехта сурочыў —
Лянотка падкралася к ім.
І першаю ўсклікнула ДО,
Працяжна,
Спрасоння:
— Быць першай, спяваць на ўвесь дом
Мне — до!
Прамаўчу-тка я сёння...

Скажыце, сястрычкі,
Хто кожнаю раніцай
Раней за мяне прачынаецца?
Абрыдла такое жыццё!
Паспаць бы,
Паспаць бы —
І ўсё!..

За ёй усхапілася РЭ:
— Што, ранак ужо на два-рэ?
Што, сонца ў ахвотку пячэ?
А я падрамала б яшчэ!

А МІ?
Усумнілася МІ:
— Не сорамна будзе нам
Перад людзь-мі?
Ды тут жа азвалася ФА:
— Нам сорамна будзе?
Ха-ха!
Не слухайце гэту цнатліўку,
Няўдаліцу,
Баязліўку!

Але не ўстрымалася СОЛЬ:
— Што ж будзе, спытацца дазволь?
Як помню, ніколі, ніколі
Ніхто не пакрыўдзіў СОЛІ.

Чаму ж я павінна драмаць?
Чаму ж я павінна
Вады ў рот набраць?..

Прапела гарэзліва ЛЯ:
— А можа, з усім разбяромся пас-ля?
Цяпер жа, сястрычанькі-ноткі,
Пагосцім хоць трошкі ў Лянотк і?
Казала Лянотка:
Хоць і не пяе,
Нам добра,
Нам весела
Будзе ў яе!
Што скажаш на гэта,
Што думаеш, СІ?

— А я разгубілася нешта зусім...—
Журботна ўсміхнулася
СІ ў адказ.—
А можа, нам ДО — не ўказ?
Падумай, што з музыкай станецца,
Як нас не дабудзяцца раніцай?!
І вельмі шкада мне матулі —
Ёй стане ў доме
Самотна, няўтульна...

— Ты б лепш памаўчала! —
Зноў грымнула ДО.—
Ты ў нашай сям'і,
Калі глянуць,—
Ніхто!
Апошняя самая, можна сказаць...
Пара б гэта помніць,
Пара б гэта знаць! —
І ДО, узлавана, падцiснула губы,—
Няўжо для сябе
Я шукаю рахубы?

Мне спевы абрыдлі,
А вам хіба не?
Хто супраць, скажыце,
А хто — за мяне?..

Што раптам пачулася —
Гэта, відаць,
Ні ў словах,
Ні ў музыцы
Не перадаць.

Як тыя свавольніцы, як забіякі,
Заблыталі ноты ўраз
Нотныя знакі.
Дзе тут — разбяры! —
І бемоль,
І дыез:
Хто ўніз перабраўся,
Хто ўгору палез.

Ад гэтай гамарні,
Ад тарараму —
Кудысьці нібы пахаваліся
Гамы.

— Дзе Гама, дзе Гама?
Была ж тут, здаецца?! —
Затузаўся ключ,
Што Скрыпічным завецца.
Ён выцягнуў шыю,
На дыбачкі ўзняўся:
Куды хто разбрыўся —
Глядзеў,
Узіраўся...

Ды раптам збянтэжана,
Чуйна прымоўклі,

Нібы гаманы не ўсчыналі зусім:
Пачуліся крокі,
Знаёмыя крокі,
І песня,
Ім любая ўсім:
— Над рачулкай, над лужком —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!
Хмурым днём
Праехаў гром —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!

Я за рэчку ў луг пайду —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!
Па вясёлцы перайду —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!

Дожджык мне шапне: «Кап-кап...» —
Ля-ля-ля, ля-ля-ля!..

Прабеглі, як дожджык той,
Пальцы дзяўчынкі
Па клавішах,
Быццам па хвалях,—
І раптам на ўсмешку
Набегла хмурынка,
Усмешку — нібы адабралі!

А голас, а голас —
Стаў сумна-дрыготкі,
А вочы — заслала смугою:
— Чаму перасталі вы слухацца, ноткі?
Ці з вамі бяда?
Ці са мною?..

І ДО раптам скрушна ўздыхнула:
— Няйначай,
Ад гора яна, бедалажка,
Заплача?!

За ёй усхапілася РЭ:
— Ірынчына скруха за сэрца бя-рэ!

А МІ?
Усумнілася МІ:
— Сястрыца, цішэй, не гры-мі!
Ці ж гэтак прагоніш хмурынку —
Спалохаеш болей Ірынку!

І ФА, бы забыла на кпіны, на смех:
— Фа-льшывіць — нягожа,
Фа-льшывіць нам — грэх!

Пачуўшы такое,
Зяззяла аж СОЛЬ:
— У гэтым, сястра,
Уся самая с-соль!

Прапала гарэзнасць
У звонкага ЛЯ:
— На тую Лянотку не гляну й зда-ля!

І зноў, як раней,
Мітусілася СІ:
— ДО,
ты ж прабачэння за ўсіх
Папра-сі!

Разбегліся, сталі ўсе —
Нотка ля ноткі:
— Не пусцім
Ля-
нот-
ку!
— Не хочам
Ля-
нот-
кі!

І, як не было ў іх бязладзіцы-гаму,—
Зноўноткі сабраліся
Ў дружную Гаму.
Пачулі нябёсы,
Пачула зямля:
— ДО-
РЭ-
МІ-
ФА-
СОЛЬ-
ЛЯ...

І птушкі запелі,
І зніклі хмурынкі —
У ясным блакіце,
На твары Ірынкі...

А вы,—
Мне прызнайцеся па сакрэту,—
Не верыце, мусіць,
У казачку гэту?
Паверце —
Не гэта яшчэ можа стацца,
Як станеш аднойчы
З Ляноткаю знацца!



## ЗМЕСТ



## ШТО ТАКОЕ УР?

## ДОЖДЖЫК-ЗБОЖЖЫК-ХЛЕБАСЕЙ…



## КАГО БАІЦЦА ЗУБР?

**ЦІ СВІСТАЛІ РАКІ?**

Литературно-художественное издание

ЧЕРНЯВСКИЙ Николай Николаевич

КОГО БОИТСЯ ЗУБР?

Веселые стихи, сказки

Минск, издательство "Юнацтва"

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ЧАРНЯЎСКІ Мікалай Мікалаевіч

КАГО БАІЦЦА ЗУБР?

Вясёлыя вершы, казкі

Рэдактар У. М. М а з г о
Мастацкі рэдактар У. М. Жук
Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Д у б р о ў с к а я
Карэктар Д. Р. Л о с і к

Здадзена ў набор 16.10.91. Падпісана да друку 23.11.93. Фармат 84X108$^1/_{32}$- Папера друкарская. Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 15,12. Ул.-выд. арк. 12,59. Тыраж 3000 экз. Зак. 1689.

Выдавецтва «Юнацтва» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 7. 220600, Мінск, Машэрава, II.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Чарняўскі М.**
**Ч 21** Каго баіцца зубр?: Вясёлыя вершы, казкі: Для малод. шк. узросту / Маст. С. А. Волкаў.— Мн.: Юнацтва, 1994.— 286 с.: іл.
**ISBN 5-7880-0724-0.**

У гэтай кнізе чытачы сустрэнуцца з вясёлымі і сур'ёзнымі, удачлівымі і няўдачлівымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі — героямі гумарыстычных вершаў; спазнаюць радасць харастваа, што дораць нам сустрэчы з роднай прыродай; пабываюць у дзівосным свеце казак. У выданне ўвайшлі творы з кніг М. Чарняўскага, адзначаных прэміямі на рэспубліканскіх конкурсах.

8820600000—051
Ч--------------------------------- 62—94 ББК 84 (4Бел)6
М 307(03)— 94